● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

30 лістапада 1996 г. субота, № 279 (23082)



# ЗВЯЗДА

## У айчынных машынабудаўнікоў у чарговы раз няўпраўка

**Гіганты беларускага машынабудавання — Мінскі завод колавых цягачоў і аўтамабільны завод перапынілі сваю работу.**

Віноўнік спынення ўсё той жа — Яраслаўскі маторны завод, які з'яўляецца даўнім партнёрам беларускіх прадпрыемстваў. Другі партнёр — Тутаеўскі маторны завод сёння працуе, але і там абстаноўка нестабільная. Нагадаем, што забастоўкі на расійскіх прадпрыемствах не аднойчы на працягу года адмоўна адбіваліся на працы беларускіх гігантаў.

МЗКЦ спыніўся ў чацвер, 28 лістапада. Як спадзяюцца на прадпрыемстве — пакуль толькі да панядзелка. Але ўпэўненасці ў гэтым у галоўнага інжынера Анатоля Папко няма. Па яго словах, на заводзе засталіся ўсяго тры рухавікі, а магутнасці прадпрыемства дазваляюць вырабіць за тыдзень мінімум дванаццаць аўтапаяздоў.

МАЗ перапыніў сваю работу таксама 28-га. Як паведаміў генеральны дырэктар прадпрыемства Валянцін Гурыновіч, часткова магутнасці завода будуць загружаны вырабам запасных частак.

Аб перспектывах далейшай работы Валянцін Аркадзьевіч выказаўся цьмяна: трэба падымаць Яраслаўскі маторны завод. Рухавікі, патрэбныя беларускім машынабудаўнікам, вырабляюць толькі расіяне. Галоўны ж інжынер МЗКЦ Анатоль Папко паведаміў аб супрацоўніцтве з нямецкай кампаніяй «Мерседэс». Выконваць кантракт на МЗКЦ пачнуць з сярэдзіны лютага будучага года.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## Ці дойдзе да Беларусі хвароба «шалёных кароў»?

**Нядаўна газета «Известия» паведаміла аб смерці 30-гадовага жыхара Паўночнай Ірландыі ад хваробы «шалёных кароў». Ён стаў пятнаццатай ахвярай у гэтай краіне. І вось чарговае паведамленне: новыя смерці ад віруса BSE ў Шатландыі.**

Шатландыя ад нас далёка. Як, прынамсі, і Вялікабрытанія, Швейцарыя, Партугалія, Ірландыя і іншыя краіны Еўрапейскага саюза, эмбарга на ўвоз мяса і мясных прадуктаў з якіх дзейнічае ў нашай краіне з мая бягучага года. Адначасова пастановай Кабінета Міністраў забаронены рээкспарт імпартных прадуктаў з рэспублік СНД і краін Балтыі.

Больш таго. Па словах начальніка ўпраўлення экспарту-імпарту Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рыгора Зубкевіча, ялавічыну з-за мяжы мы не завозім ужо на працягу дзесяці гадоў. Імпартныя мясныя далікатэсы, што з'яўляюцца на прылаўках нашых магазінаў, завозяцца не з краін ЕС і абавязкова пасля атрымання дазволу Галоўнага ветэрынарнага ўпраўлення краіны.

І ўсё ж магчымасць кантрабанды спецыялісты Мінсельгасхарчу не выключаюць. Тым больш, што з Расіяй гандаль свабодны. А Расія, згодна з інфармацыяй, змешчанай у «Известиях» ад 5 лістапада бягучага года, у Ірландыі ялавічыну набывае. Але ў тых графствах, дзе выпадкаў гэтай хваробы не было: Корк, Тыперэры і Манахан. Мяса накіроўваецца ў асноўным у Маскву, Санкт-Пецярбург і Екацярынбург. 90 працэнтаў ялавічыны перапрацоўваецца на каўбасу і сасіскі. Так што тэарэтычна стаць пакупнікамі такой прадукцыі беларусы могуць.

Калі ўзровень захворваемасці ўзрасце, у Расіі прымуць больш жорсткія меры. У Беларусі ж не рызыкуюць. Узяць хаця б апошні прыклад: 250 тон ялавічыны вытворчасці Германіі, што паступіла з Расіі, было перапрацавана ў каўбасныя вырабы і накіравана зноў у Расію. Доказаў, што ялавічына была заражана вірусам BSE, Галоўнае ветэрынарнае ўпраўленне РБ не мела, але і адваротных таксама.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## ПРЭЗІДЭНТ ПАДПІСАЎ КАНСТЫТУЦЫЮ, ЗА ЯКУЮ ПРАГАЛАСАВАЎ НАРОД

«Кажуць, Прэзідэнт выйграў рэферэндум. Не, я сказаў бы па-іншаму. Гэта перш за ўсё перамога беларускага народа, перамога разумнага сэнсу». Так заявіў кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка на цырымоніі падпісання эталоннага экземпляра Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года з дапаўненнямі і змяненнямі, унесенымі ў Асноўны закон згодна з рашэннем ініцыіраванага Прэзідэнтам рэспубліканскага рэферэндуму, праведзенага 24 лістапада. Гэты ўрачысты акт адбыўся ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы вечарам 28 лістапада.

У цырымоніі прынялі ўдзел прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, дэпутаты Нацыянальнага сходу, члены ўрада, прадстаўнікі духавенства і сродкаў масавай інфармацыі. На ўрачыстасць прыбыла расійская дэлегацыя на чале з першым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Юрыем Яравым.

Як паведамлялася ўжо, у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам новая рэдакцыя Канстытуцыі 27 лістапада ўступіла ў сілу.



У час падпісання новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.
Фота БЕЛТА.

На ўрачыстай цырымоніі выступіў Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Анатоль Малафееў. Беларускі народ, сказаў ён, шырока і магутна выказаў сваю волю на рэспубліканскім рэферэндуме. Новая рэдакцыя Канстытуцыі, прынятая на ім, створана не для якіх-небудзь партый, палітычных рухаў, а для народа. Па ёй, падкрэсліў Анатоль Малафееў, цяпер трэба будзе жыць нам усім. З правядзеннем канстытуцыйнай рэформы людзі чакаюць карэнных змяненняў у галіне эканомікі, чакаюць паляпшэння свайго жыцця.

Спікер Палаты прадстаўнікоў заклікаў выкарыстоўваць усе магчымасці на шляху кансалідацыі здаровых сіл грамадства ў мэтах стварэння беларускаму народу ўмоў для дастойнага жыцця. Няма больш высокага шчасця, падкрэсліў ён, чым служыць народу.

«Можа, упершыню за сваю гісторыю беларускі народ набыў рэальную канстытуцыйную ўладу і права самастойна выбраць шлях свайго развіцця», — заявіў, выступаючы на цырымоніі, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Ён падзякаваў Аляксандру Лукашэнку за мужнасць, якую праявіў Прэзідэнт, адстойваючы правы народа.

Ніколі раней, адзначыў Уладыка, дух сабornасці не адкрываўся ў нашых людзях так рашуча і дзейсна. А гэта ставіць перад дзяржавай, сказаў ён, задачу дастойна служыць сваім грамадзянам і замацоўваць дзяржаўную свядомасць народа, з якім заўсёды была і будзе Праваслаўная царква.

На заканчэнне ўрачыстасці Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка падзякаваў «нашаму сапраўды вялікаму славянскаму беларускаму народу за мудрасць і давер». «Мы зробім усё, — заявіў кіраўнік дзяржавы, — каб яго жыццё з кожным днём станавілася хоць крышачку лепшым, спакайнейшым і больш стабільным».

Падпісаўшы эталонны экземпляр Канстытуцыі, Прэзідэнт заявіў, што ён будзе захоўвацца вечна.

**БЕЛТА.**

## РАЗАМ — ДА ЛЕПШАГА, ДАСТОЙНАГА ЖЫЦЦЯ

***З прамовы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. ЛУКАШЭНКІ ў сувязі з увядзеннем у дзеянне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 28 лістапада***

Уступіла ў сілу Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, за якую беларускі народ упершыню ў сваёй гісторыі прагаласаваў 24 лістапада.

Гэта перш за ўсё перамога беларускага народа, перамога разважнага сэнсу. Можа, не ўсе разабраліся ў юрыдычных тонкасцях, звязаных са змяненнямі і дапаўненнямі ў Канстытуцыю. Але людзі сэрцам адчулі, што іх будучыня, лёс Беларусі вырашаюцца на рэферэндуме.

Я быў упэўнены ў поспеху і адкрыта заявіў аб гэтым на Усебеларускім народным сходзе. Верыў таму, што добра ведаю душу свайго народа. Верыў у яго розум, мудрасць і празорлівасць. І ў цяжкую хвіліну для Прэзідэнта людзі сталі побач з ім, падтрымалі яго. Разам мы перамаглі.

Мы пачалі жыць і працаваць па Канстытуцыі, прынятай усенародным галасаваннем. Воля народа стала законам, абавязковым для выканання ўсімі.

Галоўная сутнасць дапаўненняў і змяненняў, унесеных на рэферэндуме ў Асноўны закон, — у паляпшэнні жыцця народа.

У змест Канстытуцыі закладзены прававы механізм сацыяльнай абароны чалавека, на першым плане ў ёй — інтарэсы працаўніка. Яна прадастаўляе больш свабод кожнай канкрэтнай асобе, расшырае правы на працу і атрыманне дастойнай заработнай платы, на бясплатную адукацыю і медыцынскае абслугоўванне.

Канстытуцыя надзяляе правам кожнага працаўніка прымаць удзел у кіраванні вытворчасцю і размеркаванні прыбытку. У той жа час яна становіцца надзейным бар'ерам на шляху тых, хто спрабуе нажыць капіталы несумленным, крымінальным шляхам, адхапіць «тлустыя» кускі дзяржаўнай уласнасці, узбагаціцца за кошт працоўнага народа.

Менавіта Канстытуцыя стане тым першапачатковым механізмам, з дапамогай якога будуць ліквідаваны крыніцы незаконнага ўзбагачэння.

Раздзяржаўленне і прыватызацыя будуць праводзіцца ў інтарэсах усяго народа, а не зладзеяў і жулікаў, ліхадзеяў і спекулянтаў. Прычым праводзіцца яны будуць толькі са згоды працоўных калектываў. За імі замацоўваецца права рашаючага голасу ў пытаннях занятасці, у вырашэнні іншых сацыяльных праблем жыцця прадпрыемстваў.

Упершыню ў нашай Канстытуцыі ўведзена норма аб моладзі. Маладым людзям гарантуецца права на духоўнае, маральнае і фізічнае развіццё. Канстытуцыйная рэформа стварае нармальныя ўмовы для далейшага развіцця культуры, навукі, адукацыі.

Канстытуцыя паклала канец процістаянню ўладаў і стварыла прававую аснову для іх дружнай работы. Адноўлены той баланс паміж галінамі ўлады, якога патрабуе само жыццё. Кожная з іх надзелена толькі тымі паўнамоцтвамі, якія неабходны для абароны інтарэсаў асобы і грамадства.

Згодна з Канстытуцыяй, кожны становіцца тым, кім ён павінен быць — парламент распрацоўвае законы, урад ажыццяўляе выканаўчую ўладу, а Прэзідэнт з'яўляецца кіраўніком дзяржавы. Пры гэтым узмацняецца роля выканаўчай улады ў асобе Савета Міністраў і, вядома, расшыраюцца функцыі Прэзідэнта як кіраўніка дзяржавы.

Заяўляю яшчэ раз: расшырэнне сваіх правоў я выкарыстоўваю толькі на карысць народа. Перш за ўсё — для забеспячэння палітычнай і эканамічнай стабільнасці ў краіне.

У апошнія месяцы апазіцыя распаўсюджвала чуткі і домыслы наконт таго, што Прэзідэнт быццам бы спрабуе ліквідаваць Саветы. Паглядзіце пяты раздзел Канстытуцыі і вы пераканаецеся, што ў адпаведнасці з ёй Саветы надзяляюцца выключна важнымі паўнамоцтвамі і фактычна з'яўляюцца паўнаўладнымі гаспадарамі на сваёй тэрыторыі. Яны зацвярджаюць кіраўнікоў мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў улады, праграмы сацыяльнага і эканамічнага развіцця, бюджэты і справаздачы аб іх выкананні. Да выключнай кампетэнцыі мясцовых Саветаў адносяцца парадак кіравання і распараджэння камунальнай уласнасцю, назначэнне мясцовых рэферэндумаў і гэтак далей.

Канстытуцыя прадугледжвае пераходны перыяд. Сёння пачала сваю работу Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, выбрана яе кіраўніцтва. На працягу двух месяцаў Прэзідэнт, парламент і ўрад фарміруюць названыя ў Асноўным законе органы.

Хачу заявіць: рэфарміраванні дзеючых інстытутаў улады будзе адбывацца адкрыта, публічна і без усялякай надзвычайшчыны. Таму я заклікаю сваіх палітычных апанентаў праявіць павагу да волі народа і не нагнятаць абстаноўку.

Грунтуючыся на Канстытуцыі, я буду праводзіць знешнюю палітыку, зыходзячы з прынцыпаў роўнасці дзяржаў, непрымянення сілы ці пагрозы сілай, непарушнасці граніц, мірнага ўрэгулявання спрэчак, неўмяшання ў справы іншых краін.

Я яшчэ раз пацвярджаю шматвектарнасць нашай знешняй палітыкі, гатоўнасць мірнага супрацоўніцтва з усімі краінамі, вернасць нашай дзяржавы бяз'ядзернаму статусу.

Я заклікаю замежных палітыкаў аб'ектыўна разабрацца ў тым, што адбываецца ў Беларусі, не паддавацца эмоцыям пад уплывам непрымірымай апазіцыі, не рабіць гучныя лжывыя заявы аб тым, што, маўляў, рэферэндум «нелегітымны», «незаконны».

Паважаныя таварышы!

Канстытуцыя адкрывае шырокія магчымасці для рэалізацыі Асноўных напрамкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады. Мэта гэтай праграмы адна — дастатак у дамах, дабрабыт сем'яў.

У нас шмат праблем, але няма падстаў для трывогі. Будзе ў людзей і дах над галавой, і кусок хлеба на стале. Перазімуем у цяпле. Крок за крокам будзем павышаць заработную плату, пенсіі, дапамогі, стыпендыі, пашыраць крэдытаванне, асабліва будаўніцтва жылля.

Спадзяюся, што цяпер, пасля рэферэндуму, калі ўлады, нарэшце, перастануць высвятляць адносіны адзін з адным, калі трохі сціхнуць палітычныя разборкі, якія надакучылі ўсім, у Прэзідэнта з'явіцца больш часу і магчымасці для вырашэння менавіта сацыяльных праблем.

Мы разам, усёй грамадой пойдзем у XXI стагоддзе, да лепшага, дастойнага жыцця!

У добры шлях!

## Мінімальная зарплата з 1 студзеня складзе 130 тысяч рублёў

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сваёй рэзідэнцыі правёў нараду па пытанню павелічэння памеру мінімальнай заработнай платы. У яго рабоце прынялі ўдзел кіраўнікі цэнтральных органаў кіравання рэспублікі.**

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта, кіраўнік дзяржавы ў сваім выступленні падкрэсліў, што ў краіне паслядоўна і няўхільна рэалізуецца палітыка, накіраваная на забеспячэнне сацыяльнай абароненасці народа. Аднак, сказаў ён, пры існуючым узроўні цэн на спажывецкія тавары, што вызначаюцца павелічэннем кошту імпартуемых у краіну энергарэсурсаў, сыравіны і матэрыялаў, даходы насельніцтва не могуць забяспечыць нармальнага ўзроўню жыцця большасці грамадзян.

Зыходзячы з гэтага Прэзідэнт даручыў Савету Міністраў устанавіць з 1 студзеня 1997 года мінімальную заработную плату ў памеры 130 тысяч рублёў. Адначасова будуць павялічаны мінімальныя памеры пенсій.

Кіраўнік дзяржавы асабліва падкрэсліў, што, нягледзячы на неаднаразовыя заявы лідэраў апазіцыйных сіл аб абвальным росце цэн пасля рэферэндуму, рэзкага бескантрольнага павелічэння цэн не адбудзецца.

Больш падрабязна пытанні цэнаўтварэння, падрыхтоўкі народнагаспадарчага комплексу да зімы і сацыяльна-эканамічнай палітыкі будуць асветлены ў інтэрв'ю Аляксандра Лукашэнкі Беларускаму тэлебачанню і радыё 30 лістапада.

**БЕЛТА.**

## Палата прадстаўнікоў намервваецца шмат працаваць

**«Палата прадстаўнікоў пачынае падрыхтоўку да сесіі», — заявіў на прэс-канферэнцыі 29 лістапада Старшыня Палаты прадстаўнікоў Анатоль Малафееў.**

Дата пачатку яе пакуль называецца арыенціровачна — 17 снежня. Старшыня Палаты прадстаўнікоў адзначыў, што за параўнальна кароткі тэрмін Палата прадстаўнікоў павінна ператварыцца ў сур'ёзную структуру. Як дэпутат былога Вярхоўнага Савета спадар Малафееў паведаміў, што ў ВС шмат часу адводзілася на палітычныя баталіі. Таму Палаце прадстаўнікоў давядзецца шмат папрацаваць у галіне законатворчасці.

Анатоль Малафееў і яго намеснік Уладзімір Канаплёў практычна выключаюць магчымасць процістаяння Палаты кіраўніку дзяржавы. «Мы павінны знайсці ўзаемапаразуменне», —заўважыў Анатоль Малафееў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# БЕЛАРУСКІ НАРОД ЗРАБІЎ СВОЙ ВЫБАР

## З выступлення Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. ЛУКАШЭНКІ на адкрыцці першай сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу 28 лістапада

Сённяшні дзень увойдзе ў гісторыю Беларусі як дзень пачатку станаўлення ў нашай краіне сапраўднага парламентарызму.

Сутнасць яго заключаецца ў заканатворчасці, а не ў арганізацыі палітычных разборак і вулічных шэсцяў.

Вы ведаеце, што ўкараненне прынцыпу раздзялення ўладаў заўсёды і ўсюды праходзіла цяжка, хваравіта. Усе мы сведкі таго, якімі небяспечнымі працэсамі, а часам і ахвярамі ён суправаджаецца на так званай постсавецкай прасторы.

У адрозненне ад многіх краін, канстытуцыйная рэформа ў нашай краіне праходзіць не праз насілле і кроў, а цывілізавана.

Прычына — у мудрасці беларускага народа, які не паддаўся на экстрэмісцкія заклікі. Мы павінны ў ногі пакланіцца беларускаму народу, які, нягледзячы на небывалы інфармацыйны націск, патокі хлусні і паклёпу, змог разабрацца ў тым, хто ёсць хто, і зрабіў свой выбар.

Людзі галасавалі не толькі за папраўкі да Канстытуцыі. Яны галасавалі за магчымасць спакойна жыць і працаваць. Яны галасавалі за тое, каб улады перасталі высвятляць адносіны і дружна заняліся вырашэннем праблем, што стаяць перад нацыяй, каб людзям жылося лягчэй.

Цяпер нас глядзяць і слухаюць мільёны нашых суграмадзян, людзі, якія падтрымалі нас на рэферэндуме.

І ад сябе, і ад вас я хачу сказаць: людзі, вы зрабілі правільны выбар, і Прэзідэнт, і ўрад, і новы Нацыянальны сход будуць разам дружна працаваць, каб вам жылося лепш.

Залогам гэтага з'яўляецца тое, што ў Палату прадстаўнікоў прыйшлі тыя дэпутаты, якія паставілі інтарэсы Бацькаўшчыны, інтарэсы сваіх выбаршчыкаў вышэй за палітычныя амбіцыі і дробязныя крыўды.

Іх мужныя паводзіны ў вельмі цяжкі, пераломны момант палітычнага процістаяння з'яўляюцца лепшым сведчаннем гатоўнасці працаваць на карысць свайго народа.

Рэферэндум адбыўся, канстытуцыйная рэформа ўступае ў заключную стадыю.

І ўсе вы можаце пераканацца — дыктатуры, расколу грамадства, якімі вас запалохвалі, няма і не прадбачыцца. Як кіраўнік дзяржавы я гарантую, што ў нашай краіне будуць захоўвацца ўсе агульнапрызнаныя правы і свабоды.

У адрозненне ад многіх іншых краін, у нас не было, няма і не будзе дыскрымінацыі людзей па нацыянальнай, рэлігійнай прыметах, за палітычныя перакананні.

Бацькаўшчына ў нас ва ўсіх адна — гэта наш агульны дом, у якім мы заўсёды будзем жыць разам па Асноўнаму закону, прынятаму нашым народам.

Народ сваё слова сказаў, цяпер справа за намі. Улада сёння павінна праявіць максімальную адказнасць і арганізаванасць.

Нам неабходна ў самыя сціслыя тэрміны правесці рэформу дзяржаўных структур у адпаведнасці з новай рэдакцыяй Канстытуцыі.

Вельмі важнае значэнне мае хутчэйшае станаўленне Нацыянальнага сходу ў якасці паўнацэннага заканадаўчага органа.

Трэба пазбаўляцца ад стылю ранейшага Вярхоўнага Савета, для якога былі характэрны расхлябанасць, безадказнасць і мінімальная эфектыўнасць заканадаўчай работы. Менавіта таму сёння многія жыццёва важныя праблемы не вырашаюцца з-за адсутнасці прававой базы.

Першы і важнейшы этап вашага станаўлення — фарміраванне рабочых органаў Палаты прадстаўнікоў: пастаянных камісій, Савета (або Прэзідыума), выбранне Старшыні Палаты і яго намесніка.

Вам вырашаць, як лепш арганізаваць сваю работу. Хачу сказаць толькі адно: заканатворчасць — гэта прафесія, якая не церпіць мітусні, пазёрства. Тут патрэбна карпатлівая работа.

Галоўнае — каб заканатворчасць упісвалася ў стратэгію развіцця беларускага грамадства. Спадзяюся, вы зможаце надаць сваёй асноўнай рабоце і сістэмнасць, і планавасць, што не ўдалося ранейшаму Вярхоўнаму Савету.

У сувязі з уступленнем у сілу новай рэдакцыі Канстытуцыі неабходна пераглядзець законы Рэспублікі Беларусь, якія рэгулююць статус дзяржаўных органаў, і прыняць новыя законы.

У першую чаргу, неабходна падрыхтаваць і прыняць новыя законы аб Савеце Міністраў, аб Камітэце дзяржаўнага кантролю, аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, аб статусе дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і членаў Савета Рэспублікі.

У істотнай карэкціроўцы маюць патрэбу Законы «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», «Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь», «Аб судовым ладзе і статусе суддзяў у Рэспубліцы Беларусь», «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» і многія іншыя.

Думаю, што першачарговай задачай Палаты прадстаўнікоў будзе падрыхтоўка і прыняцце законаў, якія адлюстроўваюць канстытуцыйныя змяненні па ўказанай праблеме. У заканадаўчым замацаванні маюць патрэбу важнейшыя гарантыі правоў грамадзян, у тым ліку правоў моладзі, жанчын, ветэранаў вайны і працы. Трэба перагледзець заканадаўчыя акты ў галіне забеспячэння жыллём, кіравання працоўных прадпрыемствамі.

Найбольш буйны блок праблем, які трэба разгледзець у Палаце прадстаўнікоў, звязаны з заканадаўчым забеспячэннем эканамічнай рэформы, прадугледжанай Асноўнымі напрамкамі сацыяльна-эканамічнага развіцця на 1996—2000 гады. Трэба перагледзець законы аб уласнасці, прыватызацыі, прадпрыемствах, зямлі.

Важнейшае значэнне будуць мець сістэматызацыя і кадыфікацыя дзеючага заканадаўства па эканамічных пытаннях. Мы ўжо накіравалі вам праекты новага Грамадзянскага кодэкса, Падатковага кодэкса. У бліжэйшы час будзе ўнесены праект Банкаўскага кодэкса.

Перад вамі велізарнае поле работы. Часу на раскачку няма.

Вы можаце разлічваць на любую падтрымку з боку кіраўніка дзяржавы. Ураду дадзены ўказанні аб самым цесным канструктыўным супрацоўніцтве з парламентарыямі.

Работа заканадаўцаў на карысць народа павінна атрымаць поўнае і аб'ектыўнае асвятленне ў сродках масавай інфармацыі.

Усе вы ведаеце, што аўтарытэт парламентарызму ў народа вельмі нізкі. І гэта поўнасцю «заслуга» Вярхоўнага Савета, яго вярхушкі, якія зрабілі палітычныя разборкі сваім асноўным заняткам.

Будучыня беларускага парламентарызму — у вашых руках. Павага людзей прыйдзе хутка. Для гэтага трэба, каб Нацыянальны сход стаў прыкладам адказных адносінаў да справы, прыкладам арганізаванасці і высокай эфектыўнасці.

Жадаю Вам поспеху!

У добры шлях!

# У ХОДЗЕ ЛІСАБОНСКАГА САММІТА АБСЕ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПРАВЯДЗЕ ШЭРАГ ВАЖНЫХ СУСТРЭЧ

Сустрэча на вышэйшым узроўні дзяржаў — удзельніц Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, як паведамляла ўжо БЕЛТА, адбудзецца 2-3 снежня ў Лісабоне. Нашу краіну на гэтым прадстаўнічым форуме будзе прадстаўляць Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

Неабходна адзначыць, што з 4 па 22 лістапада ў Вене праходзіла нарада па агляду дзейнасці АБСЕ. Створаны чатыры рабочыя групы, даклады якіх і будуць вынесены на абмеркаванне на Лісабонскім самміце. Такім чынам, кіраўнікі дэлегацый краін — удзельніц АБСЕ выкажуцца па чатырох розных напрамках дзейнасці арганізацыі: палітыка-ваеннае вымярэнне, эканамічнае, чалавечае вымярэнне і дзейнасць інстытутаў і органаў АБСЕ.

Як паведаміў на брыфінгу ў МЗС Беларусі намеснік міністра замежных спраў рэспублікі Міхаіл Хвастоў, на сустрэчы ў Лісабоне плануецца прыняць дзве дэкларацыі — агульнапалітычную і па мадэлі агульнай і ўсёабдымнай бяспекі для Еўропы ў XXI стагоддзі. Дарэчы, цяпер мадэлі агульнаеўрапейскай бяспекі на наступнае стагоддзе надаецца адно з першарадных значэнняў. Больш таго, цяпер вядзецца пошук магчымасці аб'яднання інстытута АБСЕ з інстытутамі бяспекі на кантыненце, якія ўжо зарэкамендавалі сябе.

Гэта пытанне будзе закранута і Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам, які прыме ўдзел у рабоце самміта. Акрамя таго, як сказаў Міхаіл Хвастоў, кіраўнік дзяржавы ў сваёй прамове мае намер вылучыць і шэраг ініцыятыў, у прыватнасці, прадоўжыць размову аб стварэнні ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе бяз'ядзернай зоны. Гэта тэма была разгледжана і на Венскай сустрэчы. Больш таго, паводле слоў кіруючага работніка знешнепалітычнага ведамства нашай рэспублікі, ініцыятыва Прэзідэнта беларускай дзяржавы падтрымана ўжо шэрагам краін СНД. Міхаіл Хвастоў выказаў таксама надзею, што гэта прапанова будзе падтрымана і ў падагульняючых дакументах Лісабонскай сустрэчы.

Цяпер у сталіцы Партугаліі праводзіцца падрыхтоўчая работа па арганізацыі сустрэчы. З гэтай мэтай туды накіравана група работнікаў МЗС нашай рэспублікі. Неабходна адзначыць, што па ініцыятыве знешнепалітычнага ведамства Беларусі ў Лісабоне запланавана правядзенне некалькіх двухбаковых сустрэч Аляксандра Лукашэнкі з кіраўнікамі дэлегацый шэрага еўрапейскіх краін. У прыватнасці, ужо атрымана пацвярджэнне ад Латвіі, Літвы, Македоніі і Украіны. Акрамя таго, плануюцца перамовы Аляксандра Лукашэнкі з былым, цяперашнім і будучым кіраўнікамі АБСЕ.

Сусветнымі інфармацыйнымі агенцтвамі распаўсюджана заява Прэзідэнта Польшчы Аляксандара Квасьнеўскага, які выказаўся аб намеры правесці ў Лісабоне шматбаковую сустрэчу з удзелам кіраўнікоў дэлегацый Беларусі і яе бліжэйшых суседзяў. Згодна з прапановай кіраўніка польскай дзяржавы, тэмай абмеркавання павінна стаць палітычная сітуацыя ў нашым рэгіёне. Пакуль невядома, ці наканавана збыцца намерам Прэзідэнта Польшчы, але адно застаецца відавочным — маючы адбыцца саміт АБСЕ ў Лісабоне стане адной з самых значных палітычных падзей адыходзячага года на еўрапейскім кантыненце. Больш таго, зусім магчыма, што гэта сустрэча на вышэйшым узроўні стане зыходным пунктам на шляху рэалізацыі планаў па ўсеагульнай бяспецы ў Еўропе ў новым тысячагоддзі.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

# Народнай артыстцы Беларусі *ЗАХАРЭВІЧ Марыі Георгіеўне*

Шаноўная Марыя Георгіеўна!

Прыміце ў гэты цудоўны юбілейны дзень шчырыя словы віншавання. Тэатральная грамадскасць, шматлікія прыхільнікі Вашага сцэнічнага таленту памятаюць яркія народныя характары, створаныя Вамі на славутай купалаўскай сцэне.

Шматграннасць Вашай творчай дзейнасці, любоў да выразнага літаратурнага слова, жаданне данесці да народа лепшыя набыткі мастацтва, жыццёвага вопыту, высокія маральныя якасці актрысы і грамадзяніна зрабілі Вашу асобу прыкладам для ўсіх, хто меў і мае шчасце сустракацца і працаваць разам з Вамі. Нельга не прыгадаць супрацоўніцтва з беларускім кінематографам, у якім Вы па праву займаеце адметнае месца.

Вы ўнеслі значны ўклад у нацыянальнае кінамастацтва, стварыўшы запамінальныя вобразы простых беларускіх жанчын.

Талент актрысы глыбокага псіхалагізму, уменне спасцігнуць і данесці да гледача самыя таямнічыя глыбінныя пласты чалавечага характару ставяць Вас на ўзровень выдатных майстроў беларускага сцэнічнага мастацтва.

Прыкладам самаадданай творчай працы з'яўляецца і Ваша шматгадовае плённае супрацоўніцтва з беларускім радыё, тэлебачаннем, удзел у самых разнастайных дзяржаўных мерапрыемствах.

Жадаю Вам, Марыя Георгіеўна, вялікага шчасця, новых роляў у тэатры і кіно, творчага натхнення на доўгія гады ў імя далейшага росквіту беларускага мастацтва.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

29 лістапада 1996 года.

# ЦЭНТРВЫБАРКОМ ЗВЯРНУЎСЯ З ПІСЬМОМ ДА ПРЭЗІДЭНТА ЛУКАШЭНКІ

З просьбай вырашыць лёс чатырох дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі, абраных у яго 24 лістапада, Цэнтрвыбарком звярнуўся да Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Пра гэта карэспандэнту БелаПАН паведаміў сакратар Цэнтрвыбаркома Іван Ліхач.

Па яго словах, адбыўся своеасаблівы юрыдычны казус. Генадзь Грушавы, Уладзімір Тарасаў, Аляксандр Працэвіч і Юрый Троцкі былі абраны ў Вярхоўны Савет 13-га склікання. Між тым, такога Вярхоўнага Савета ўжо не існуе. Увайсці ў Палату прадстаўнікоў гэтыя людзі таксама не могуць, паколькі Палата, у адпаведасці з новай Канстытуцыяй, фарміруецца толькі з ліку тых дэпутатаў, якія мелі свае паўнамоцтвы да правядзення рэферэндуму і давыбараў у Вярхоўны Савет.

Апынуўшыся ў складанай сітуацыі, выбарком вымушаны звярнуцца па садзейнічанне да кіраўніка дзяржавы, прапануючы яму сваім указам канчаткова вызначыць далейшы лёс «неадбыўшыхся дэпутатаў».

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**

# МАЛАФЕЕЎ АНАТОЛЬ АЛЯКСАНДРАВІЧ

Нарадзіўся 14 мая 1933 года ў г. Гомелі. Беларус.

Пасля заканчэння Гомельскага чыгуначнага вучылішча працаваў слесарам на вагонарамонтных заводах Мінска і Гомеля. Чатыры гады адслужыў на флоце.

Па адукацыі — эканаміст, скончыў Беларускі інстытут народнай гаспадаркі ў 1967 годзе.

Доўгі час працаваў на розных пасадах у партыйных камітэтах Гомеля, у аддзеле хімічнай і лёгкай прамысловасці ЦК КПБ, узначальваў Мазырскі гарком партыі, Гомельскі і Мінскі абласныя камітэты КПБ, быў старшынёй Гомельскага аблвыканкома.

З 1990 па 1992 год з'яўляўся першым сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі.

Малафееў А. А. выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, народным дэпутатам СССР, двойчы дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. З'яўляючыся дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання, працаваў намеснікам старшыні парламенцкай Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах.

Узнагароджаны двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга.

# КАНАПЛЁЎ УЛАДЗІМІР МІКАЛАЕВІЧ

Нарадзіўся 3 студзеня 1954 года ў вёсцы Акуленцы Магілёўскага раёна. Беларус.

Па адукацыі — настаўнік, скончыў Магілёўскі дзяржаўны педагагічны інстытут у 1975 годзе.

Пасля службы ў радах Савецкай Арміі — педагагічная работа ў г. Шклове, работа ў органах унутраных спраў.

Канаплёў У. М. у 1991—1994 гг. з'яўляўся памочнікам народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь, затым у 1994—1996 гг. — галоўным памочнікам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі.

Канаплёў У. М. быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання, узначальваў дэпутцкую фракцыю «Згода», з'яўляўся членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета.

# УКАЗ

**ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

№ 499

**АБ АДМЕНЕ ЧАСОВАГА ЭКСПАРТНАГА МЫТНАГА ТАРЫФУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

У мэтах уніфікацыі мытнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь і мытнага заканадаўства Расійскай Федэрацыі ў адпаведнасці з Пагадненнем аб мытным саюзе паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй ад 6 студзеня 1995 г. **пастанаўляю:**

1. Прызнаць страціўшым сілу Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 лютага 1996 г. № 46 «Аб часовым экспартным мытным тарыфе» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 4, арт.83).
2. Гэты Указ увесці ў дзеянне з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

28 лістапада 1996 г., г. Мінск.

# УКАЗ

**ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

№ 491

**Аб прысваенні суддзям судоў Рэспублікі Беларусь кваліфікацыйных класаў**

Кіруючыся пунктам 13 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, **пастанаўляю:**

Прысвоіць чацвёрты кваліфікацыйны клас:

Брысінай Жанне Леанідаўне — суддзі суда Заводскага раёна г. Мінска

Будоўскай Аксане Сяргееўне — суддзі суда Цэнтральнага раёна г. Мінска

Дубінінай Жанне Пятроўне — суддзі суда Заводскага раёна г. Мінска

Каплунавой Алене Іванаўне — суддзі суда Заводскага раёна г. Мінска

Карповічу Анатолю Іванавічу — суддзі суда Першамайскага раёна г. Мінска

Лобану Міхаілу Міхайлавічу — суддзі суда Фрунзенскага раёна г. Мінска

Палытыка Святлане Аляксееўне — суддзі суда Заводскага раёна г. Мінска

Ройнік Нэлі Іванаўне — суддзі суда Партызанскага раёна г. Мінска

Шэмет Алене Васільеўне — суддзі суда Заводскага раёна г. Мінска

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

27 лістапада 1996 г.
г. Мінск.

# УКАЗ

**ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

№ 493

**Аб узнагароджанні групы работнікаў Беларускай чыгункі медалём «За працоўныя заслугі»**

За дасягненне высокіх вытворчых паказчыкаў, шматгадовую плённую працу ў сістэме чыгуначнага транспарту ўзнагародзіць медалём «За працоўныя заслугі»:

Авізіч Зінаіду Васільеўну — дзяжурнага па сартавальнай горцы станцыі Мінск—Сартавальны

Алейніка Анатолія Міхайлавіча — брыгадзіра Гомельскай дыстанцыі пуці

Асіюка Уладзіміра Іванавіча — машыніста-інструктара лакаматыўнага дэпо Брэст

Барысюка Уладзіміра Нікіціча — першага намесніка начальніка Беларускай чыгункі

Белага Васілія Дзянісавіча — машыніста лакаматыўнага дэпо Віцебск

Вольскага Ігара Барысавіча — машыніста-інструктара лакаматыўных брыгад лакаматыўнага дэпо Гомель

Глобуза Фёдара Фёдаравіча — слесара вагоннага дэпо Баранавічы

Гладкую Людмілу Георгіеўну — медыцынскую сястру дарожнай бальніцы на станцыі Мінск

Данілюка Івана Рыгоравіча — начальніка ўчастка механізаванай дыстанцыі пагрузачна-разгрузачных работ Брэсцкага аддзялення Беларускай чыгункі

Дзмітрыеву Ганну Сяменаўну — прыёмаздатчыка грузу станцыі Наваполацк

Дышчанку Мікалая Аляксеевіча — намесніка начальніка Беларускай чыгункі

Жук Генрыку Іосіфаўну — праваднікa Гродзенскага рэзерву праваднікоў

Зоркіна Барыса Іванавіча — грузчыка Магілёўскай дыстанцыі пагрузачна-разгрузачных работ

Іванюковіча Пятра Фаміча — выкладчыка Брэсцкага тэхнікума чыгуначнага транспарту

Кавалёву Ларысу Дзмітрыеўну — галоўнага эканаміста дарожнага аб'яднання рабочага забеспячэння

Каляду Мікалая Мікалаевіча — электрамеханіка Калінкавіцкай дыстанцыі сігналізацыі і сувязі

Канаша Сяргея Пятровіча — машыніста маторавагоннага дэпо Мінск

Капанцова Міхаіла Захаравіча — машыніста лакаматыўнага дэпо Жлобін

Крыцкага Яна Віктаравіча — машыніста лакаматыўнага дэпо Баранавічы

Кубіча Яўгенія Уладзіміравіча — токара Магілёўскай дыстанцыі пуці

Кучарава Мікалая Рыгоравіча — машыніста лакаматыўнага дэпо Ваўкавыск

Кучынскага Уладзіміра Мікалаевіча — слесара вагоннага дэпо Мінск

Лазарава Аляксандра Лазаравіча — вадзіцеля Віцебскай дыстанцыі пуці

Ляжнюк Раісу Пятроўну — паязнога дыспетчара Магілёўскага аддзялення Беларускай чыгункі

Мажэйку Віктара Іванавіча — старшага электрамеханіка Маладзечанскай дыстанцыі сігналізацыі і сувязі

Пацыенку Анатолія Ігнатавіча — грузчыка транспартна-экспедыцыйнага прадпрыемства «Мінскчыгунтранс»

Рынга Уладзіміра Іосіфавіча — намесніка начальніка Беларускай чыгункі

Усава Валерыя Афанасьевіча — дарожнага дыспетчара аператыўна-распарадчага аддзела службы перавозак упраўлення Беларускай чыгункі

Федаровіча Пятра Пятровіча — брыгадзіра вагоннага дэпо Гомель

Шчуку Валянціна Пятровіча — галоўнага інжынера будаўніча-мантажнага поезда № 391

Юхніка Аляксандра Аляксеевіча — машыніста Дзяржаўнага дарожнага рамонтнага прадпрыемства

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

27 лістапада 1996 г., г.Мінск.

АФІЦЫЙНА

## ПРЭЗІДЭНТ СУСТРЭЎСЯ З РАСІЙСКІМІ ПАСТАЎШЧЫКАМІ НАФТАПРАДУКТАЎ

**Пытанні бесперабойнага забеспячэння народнагаспадарчага комплексу нашай краіны нафтай і стварэння запасаў паліва, неабходных для рытмічнай работы прамысловых прадпрыемстваў і забеспячэння насельніцтва палівам, разгледжаны на сустрэчы Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з расійскімі пастаўшчыкамі нафтапрадуктаў.**

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта, сустрэча адбылася 29 лістапада. У ёй прыняў удзел віцэ-прэм'ер Савета Міністраў Беларусі Валерый Кокараў.

**БЕЛТА.**

## ХТО БУДЗЕ КІРАЎНІКОМ УРАДА?

**Як вядома, пасля выхаду ў адстаўку прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра яго абавязкі, згодна з указам Прэзідэнта, выконвае Сяргей Лінг. Карэспандэнт БЕЛТА звярнуўся з пытаннем да кіраўніка дзяржавы: ці ёсць ужо кандыдат, які можа заняць вакантнае месца кіраўніка ўрада?**

Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, разглядаецца шэраг кандыдатур. «Перш за ўсё мне хацелася б, — сказаў ён, — каб гэты чалавек мог аддаваць сябе рабоце гэтак жа, як і я. Калі трэба — працаваць дзень і ноч». Тым самым, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, новы прэм'ер вызваліў бы яго для вырашэння іншых праблем, звязаных з функцыямі кіраўніка дзяржавы. Кандыдат на гэту пасаду, лічыць Прэзідэнт, павінен ведаць парламенцкую работу і ўмець працаваць з заканадаўчым органам улады. Акрамя таго, пажадана, каб гэты чалавек ведаў работу не толькі на ўзроўні ўрада, але і на сярэднім і мікраўзроўні, каб ён прыйшоў з выканаўчых органаў улады. Кандыдатуры банкіраў, на думку Прэзідэнта, ужо больш не будуць разглядацца.

У дапаўненне кіраўнік дзяржавы сказаў, што кандыдат напэўна вядомы журналістам.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

## ЛУКАШЭНКА ЗАКЛІКАЕ ПАРЛАМЕНТЫ РФ І БЕЛАРУСІ ДА БОЛЬШ ЦЕСНАЙ ІНТЭГРАЦЫІ

**МАСКВА. 29 лістапада. Інтэрфакс.** Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка лічыць, што ўжо ў пачатку 1997-га можна правесці сумеснае пасяджэнне беларускага і расійскага парламентаў.

Неабходна «пераходзіць ад схем да рэальных спраў», «прымаць агульныя законы, напрыклад, па барацьбе з крымінальным светам», — заявіў Прэзідэнт Беларусі ў інтэрв'ю Шостаму каналу расійскага тэлебачання, запісаным 27 лістапада, адразу пасля падвядзення канчатковых вынікаў рэферэндуму па новай Канстытуцыі Беларусі.

А. Лукашэнка таксама заявіў, што зробіць усё для далейшага збліжэння Расіі і Беларусі. «Я як святыню буду захоўваць у душы дружбу паміж нашымі народамі і рабіць усё, каб гэтая дружба набыла дынамізм», — падкрэсліў беларускі Прэзідэнт.

А. Лукашэнка выказаў асаблівую ўдзячнасць расійскім кіраўнікам за падтрымку, аказаную яму ў ходзе падрыхтоўкі і правядзення рэферэндуму. З самага пачатку, па словах Прэзідэнта, яго падтрымаў маскоўскі мэр Юрый Лужкоў, шмат зрабіў прэм'ер-міністр РФ Віктар Чарнамырдзін.

У той жа час беларускі Прэзідэнт паведаміў, што ведае і сваіх ворагаў у расійскіх эшалонах улады. Аднак яны пацярпелі, па словах А. Лукашэнкі, сакрушальнае паражэнне. «У выніку рэферэндуму мы разграмілі не толькі апазіцыю ўнутры Беларусі, але і нашых ворагаў у Расіі і на Захадзе», — адзначыў Прэзідэнт Беларусі.

## ДЫСЦЫПЛІНА І ПАРАДАК ПАСТАВЯЦЬ НА НОГІ ЭКАНОМІКУ

**У эканоміцы павінны быць, перш за ўсё, дысцыпліна і парадак, а ў людзей — упэўненасць у стабільнасці і рытмічнасці работы завода.**

Гэты лейтматыў стаў асноўным пры абмеркаванні праблем прамысловых прадпрыемстваў Маладзечна на нарадзе, якая адбылася 29 лістапада ў Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі. У сустрэчы прынялі ўдзел кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, выконваючы абавязкі прэм'ер-міністра Сяргей Лінг, віцэ-прэм'ер Валерый Кокараў, міністр прамысловасці Анатоль Харлап, старшыня праўлення Нацбанка Тамара Віннікава, кіраўнікі Беларускага дзяржаўнага навукова-вытворчага канцэрна парашковай металургіі, станкабудаўнічага завода, адкрытага акцыянернага таварыства «Электрамодуль» і іншых маладзечанскіх прадпрыемстваў.

Многія заводы гэтага горада раней працавалі на «абаронку». А цяпер ім прыходзіцца асвойваць выпуск новай прадукцыі. Для гэтага, зразумела, патрэбны сродкі, гэта значыць крэдыты на льготных умовах. Як сказаў кіраўнік дзяржавы, прадпрыемствам па меры магчымасці будзе аказвацца фінансавая падтрымка, і толькі тым, хто выпускае канкурэнтаздольную прадукцыю, што мае попыт у спажыўцоў як на айчынным рынку, так і ў краінах блізкага і далёкага замежжа. Прэзідэнт краіны таксама звярнуў увагу на забеспячэнне работай працоўных калектываў і захаванне не толькі іх цяперашняга саставу, але і павелічэнне яго колькасці.

На нарадзе была выказана таксама прапанова аб неабходнасці распрацоўкі комплекснай праграмы па вываду прадпрыемстваў з крызіснай сітуацыі.

**БЕЛТА.**

## У КРАМЛІ ЛІЧАЦЬ, ШТО НЯМА ПАДСТАЎ РАСЦЭНЬВАЦЬ РЭФЕРЭНДУМ У БЕЛАРУСІ ЯК НЕКАНСТЫТУЦЫЙНЫ

**МАСКВА. 28 лістапада. Інтэрфакс.** У Крамлі лічаць, што «няма ніякіх падстаў расцэньваць рэферэндум у Беларусі, у ходзе якога большасць насельніцтва падтрымала пазіцыю Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, як неканстытуцыйны». Аб гэтым паведамілі ў чацвер у прэс-службе прэзідэнта ў адказ на просьбу «Інтэрфакса» пракаменціраваць сцвярджэнні шэрага СМІ дзвюх краін аб неканстытуцыйнасці рэферэндуму ў Беларусі.

«У Маскве разлічваюць, што крызіс у Беларусі будзе ўрэгуляваны палітычнымі метадамі ў духу падпісаных у Мінску пры ўдзеле расійскіх кіраўнікоў пагадненняў», — гаворыцца ў адказе прэс-службы прэзідэнта.

У ім таксама падкрэсліваецца, што «згода і стабільнасць беларускага грамадства з'яўляюцца важнай перадумовай далейшай інтэграцыі дзвюх краін».

## ПРЫСВОЕНА ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ

Намеснік дырэктара Рэспубліканскага міжсаюзнага Палаца культуры прафсаюзаў Людміла Ударава за вялікі асабісты ўклад у развіццё і прапаганду самадзейнага мастацтва ўдастоена ганаровага звання «Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь». Указ аб гэтым прыняў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.

**БЕЛТА.**

## У БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЫ БУДЗЕ СВОЙ КАТАЛОГ

**Цяпер у нашай рэспубліцы зарэгістравана звыш сямісот перыядычных выданняў. Больш падрабязна даведацца пра многія з іх дапаможа каталог «Белорусская пресса-96», які мае намер выдаць у бліжэйшы час Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку.**

Каталог будзе змяшчаць звесткі аб заснавальніках і рэдактарах, асноўнай тэматыцы і накіраванасці газет і часопісаў, перыядычнасці іх выхаду, «геаграфіі» і спосабах распаўсюджвання, а таксама аб кошце рэкламнай плошчы ў гэтых выданнях. Аднак, як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе Дзяржкамдруку, у першы каталог увойдуць звесткі толькі аб тых сродках масавай інфармацыі, якія адгукнуліся на запыт прыслаць у камітэт адпаведныя даныя да 1 лістапада гэтага года.

Плануецца распаўсюджванне каталога як у Беларусі, так і за яе межамі, што, безумоўна, будзе садзейнічаць папулярызацыі беларускай прэсы ў краінах СНД і Балтыі.

**БЕЛТА.**

КАР'ЕРА

# Фантазіі Бялянкіна,

## або Хто пабудуе ў Мінску Эйфелеву вежу?

**«Быць вядомым непрыгожа»,— сказаў паэт. Але ёсць людзі, якім літаральна на раду напісана стаць папулярнымі.**

**Скажыце, хіба ж можна, з'явіўшыся на свет пад зоркамі Самарканда, ды яшчэ вясной, застацца «чалавекам натоўпу»? Адным словам, сённяшні госць нашай рубрыкі — заслужаны архітэктар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, акадэмік архітэктуры. Зрэшты, поспех чакаў бы Віталя Сцяпанавіча Бялянкіна на любым полі дзейнасці. Лёс, аднак, распарадзіўся так, што кар'ера спартсмена і ваеннага марака пасля доўгіх разважанняў была адкінута, і перавага аддадзена архітэктуры. Сам дойлід лічыць, што на яго канчатковы выбар паўплывала прафесія дзеда — той будаваў млыны.**

**Кожны сапраўдны майстар мае непаўторную, лёгка пазнавальную манеру, творчыя прыярытэты. У работах Віталя Бялянкіна гэта перш за ўсё вобразнасць, падпарадкаваная адзінай логіцы мастацкага твора, і смелае выкарыстанне колеру. Яго праекты можна разглядаць як жывапісныя палотны. Яны з поспехам праілюструюць дзіцячую кніжку. «Але будынак — не карціна, — запярэчыце вы, — яго не здымеш са сцяны і не закінеш у камору». Паглядзім, як упісаліся фантазіі Бялянкіна ў тканіну горада.**



**Палац моладзі, які адзначыў днямі «дзесятку», быў запраектаваны 28 гадоў назад, будаваўся яшчэ адзінаццаць, і зараз ледзь рэалізаваны напалову. Гісторыя яго стварэння магла б стаць асновай гераічнага рамана аб волі архітэктара. Затое сёння палац такі ж сучасны, як і дзесяцігоддзе таму. Не выпадкова ў яго залах любяць праводзіць буйнейшыя святы, калядныя вечарыны.**

**Палац моладзі — будыніна знакамітая. Але мала хто ведае школу-інтэрнат у глыбіні Севастопальскага парку. Яна неяк дзіўна адпавядае наваколлю — таму ж бярозаваму гаю. Як і Палац моладзі, праект школы ўзнік у выніку конкурсу. Аднак выйграць конкурс — адно, а давесці ідэю да выканання не скалечыўшы яе — зусім іншае. Дарэчы, школа атрымала два залатыя медалі: за лепшы праект і за лепшую ў СССР пабудову, стаўшы рэдкім пакуль у нас прыкладам сапраўды сацыяльнай архітэктуры.**

**Хоць дзейнасць сваю Віталь Бялянкін пачаў на золаку 60-х, яго абсалютна нельга ўявіць ў ролі стваральніка «хрушчовак». Затое вельмі лёгка — у ролі дызайнера касмічнага карабля. Такое вось — касмічнае — уражанне ад работ.**

**Размаўляю з майстрам у яго персанальнай студыі. Спрабую дапытацца, якім чынам два гады таму майстэрня Бялянкіна была прызнана лідзіруючай сярод 220-ці, існуючых у рэспубліцы. Гэтую тэму гаспадар развівае не вельмі ахвотна. Тады спрабую па-іншаму.**

**— Дзіўна, але да гэтага часу людзі не дамовіліся паміж сабой, што такое архітэктура.**

— Мне бліжэй вызначэнне Шарля Блана: «Глыбіннае святло помнікаў антычнасці адкрывае нам ісціну: архітэктура ў вышэйшым разуменні гэтага слова — не пабудова, якая ўпрыгожвае, а ўпрыгажэнне, якое будуюць».

**— Вашы праекты здзіўляюць, амаль эпаціруюць незвычайнасцю формы. Гэта свядомая ўстаноўка на пошук новага?**

— Мастацкае асяроддзе не можа быць новым ці старым. Яно можа быць дасканалым або не. Мы ж ніколі не скажам, што помнік антычнасці — гэта ўжо нешта састарэлае. Не здзіўляйцеся, але ў мастацтве ўвогуле не існуе прагрэсу. Я імкнуся не да новага, а да прыгожага. І веру, што гукі, колеры, формы абудзяць-такі ў чалавеку мастака і стваральніка.

**— Вы што, летуценнік?..**

— Не, я мастак, таму і рэаліст. А мастак — не той, хто бяжыць ад рэальнасці ў мару, а той, хто ператварае мару ў рэальнасць.

**— Архітэктура таксама адлюстроўвае духоўнае жыццё грамадства. На вашу творчасць неяк паўплывалі гістарычныя этапы развіцця нашай краіны?**

— Ніяк. Я ўжо 30 гадоў архітэктар. За гэты час папрацаваў і пры «развітым» сацыялізме, ізаляваным ад культурнага свету, і пры перабудове, і зараз, у часы пераходу да рынкавай эканомікі. Паверце, на маёй творчасці гэтыя этапы ніяк не адбіліся. Я крочу сваім творчым шляхам. Пошук цудоўнага — гэта развіццё ўнутранага Я. Мае перакананні, прынцыпы, крэда — яны пастаянныя.

**— Вы бывалі ў многіх краінах, удзельнічалі ў міжнародных кангрэсах архітэктараў у Чыкага, Стакгольме. Па-вашаму, аблічча беларускай сталіцы адпавядае параметрам сапраўднага еўрапейскага мегаполіса?**

— Да роднага горада цяжка адносіцца крытычна. Добры цэнтр, ёсць прыклады ўдалых жылых раёнаў. На жаль, ён зусім пазбаўлены якасці, уласцівай большасці сталіц. Яму не стае СІМВАЛАЎ-ЗНАКАЎ.

**— Што вы маеце на ўвазе?**

— А што прыходзіць вам у галаву пры слове Парыж? Вядома ж, Эйфелева вежа. Нью-Йорк — гэта статуя Свабоды. Масква — гэта Крэмль, Рым — Калізей. Кожны вялікі горад на працягу свайго развіцця ажыццяўляе шэраг буйных праектаў. Яны нібы адзначаюць этапы жыцця менавіта гэтага горада, этапы росту яго самасвядомасці, вагі. Часам нават не нясуць асаблівай утылітарнай функцыі. Тым вышэй іх сімвалічнае значэнне.

Сімвал-знак заўсёды выражае і выхоўвае любоў жыхароў да свайго горада. Яна можа быць трапяткой, палкай ці нават сляпой. Адносіны мінчан да Мінска я параўнаў бы з адносінамі да любімага дамашняга світэра. Ён сціпла ляжыць на крэсле і чакае, калі гаспадар паставіць новую каляровую латку. Спадзяюся, лепшыя будынкі Мінска яшчэ з'явяцца ў будучым.

**— А ваша новая работа — гарадскі бізнес-цэнтр, які ўключае ў сябе ультрасучасныя небаскробы, фешэнебельныя гатэлі, рэстараны і шмат чаго іншага? Раскажыце больш падрабязна.**

— Не буду, каб не сурочыць. Але калі мне ўдасца ажыццявіць задуманае, гэты комплекс стане адной з самых выразных архітэктурных з'яў Мінска.

**— Вашы праекты адрознівае бескампраміснасць не толькі ідэі, але і спосабаў яе ўвасаблення, незалежна ад кошту. Дорага — значыць добра?**

— Не абавязкова. Але танна — амаль заўсёды кепска. Скупы плаціць двойчы. Прынцып, знаёмы кожнай хатняй гаспадыні. Мы ж часта сустракаем яго ў архітэктуры. У выніку безаблічнае асяроддзе фарміруе шэрага чалавека. Калі мы хочам падняць нашу нацыю, трэба ўсяляк заахвочваць творцаў.

А пачынаць, лічу, трэба са стварэння спрыяльных умоў для жыцця. Вось прыклад. У Японіі, у адным з раёнаў Токіо, было жахлівае крымінальнае становішча. Што зрабілі б у нас? Павялічылі б штаты міліцыі, абвясцілі б каменданцкую гадзіну... А японцы задаліся пытаннем: «Чаму?» І адказалі: гэты раён горада самы нядобраўпарадкаваны. «Нашпігавалі» яго ўсім неабходным, каб людзям жылося добра — і сітуацыя адразу змянілася.

У нас расклад такі: гарадское дзіця вырастае ў сумнай кватэры, выходзіць гуляць у нудны двор, вучыцца ў безаблічнай школе, і пакрыху стварае сабе карціну, вобраз свету — шэрага і квадратнага. А гэты свет зусім іншы. Ён розны і вельмі шматколерны.

**— Таму ваша архітэктура так насычана пластыкай і колерам?**

— Я нарадзіўся ў Сярэдняй Азіі і, магчыма, дзіцячыя ўражанні ў многім вызначылі мае адносіны да колеру, які з'яўляецца самым простым, натуральным спосабам «ачалавечыць» наваколле. Чалавеку дадзена шчаслівая магчымасць каляровага бачання. Колер — магутны эмацыянальны стымулятар. Гэта добра разумеюць за мяжой, у прыватнасці ў Швецыі, дзе каларыстыцы надаюць велізарнае значэнне. У нас жа шэрае асяроддзе панельных каробак само просіцца, аж стогне: «Вазьмі і размалюй».

Калі мы праектавалі школу ў Севастопальскім парку, а гэта яшчэ і інтэрнат для дзяцей, якія дрэнна чуюць, то менавіта колер і форма сталі зыходнымі кропкамі ідэі. Для дзяцей, пазбаўленых магчымасці чуць, асаблівую ролю набывае зрокавае адчуванне прасторы. Таму ў нашай школе няма ні цьмяных фарбаў, ні прамых вуглоў. Увогуле ў будынках, прызначаных для дзяцей, адыход ад стандарта і шэрасці — гэта абавязковая ўмова.

**— Вашы работы выстаўляліся ў Сафіі, Стакгольме, Хельсінкі, Чыкага. Прэстыжны англійскі архітэктурны журнал прысвяціў вашай студыі дзве старонкі каляровых фотаздымкаў. Што часцей за ўсё вам кажуць за мяжой?**

— Там мне кажуць: «У нас вы былі б мільянерам». Аднойчы пачуў: «Якія ў беларусаў дзівосныя, маштабныя праекты! Як вам, напэўна, добра жывецца!» А жывецца нам добра пакуль толькі на паперы... Але я ўпэўнены, што і ў нашай дзяржаве кіраўніцтва хутка зразумее: нельга эканоміць на ўбранстве таго асяроддзя, дзе жывём. Вось у Сіднеі пабудавалі оперны тэатр, які перавысіў праектны каштарыс аж у 200 разоў!!! Так, гэта было вельмі цяжка для дзяржавы, але сіднейскі тэатр — архітэктура веку.

**— Кажуць, праца — працай, а конкурсы — лепшая школа для прафесіяналаў.**

— На самай справе так. У юнацтве я быў някепскім спартсменам, чэмпіёнам Брэста па класічнай барацьбе. Прафесіянальныя конкурсы даюць тое ж адчуванне спартыўнага спаборніцтва, азарту, мабілізацыі. За сваю практыку ўдзельнічаў у 35 архітэктурных конкурсах — у Мінску, Маскве, Новасібірску, Іркуцку, Парыжы, Сафіі, Плоўдзіве, Егіпце, Аўстрыі. Лепшыя рэалізаваныя мной праекты — вынік перамогі ў такіх спаборніцтвах.

**— Вы аддаяце перавагу якомунебудзь тыпу будынкаў?**

— Важна не тэма, а адносіны да яе. Прыгажосць схавана ўсюды. І таму з задавальненнем праектую гасцініцы, спартыўныя аб'екты, жылыя комплексы, вакзалы, музеі.

**— Дарэчы, аб музеях. Як ідзе будаўніцтва другой чаргі Дзяржаўнага мастацкага музея?**

— Вельмі марудна. Бо, як заўсёды, на мастацтва няма сродкаў. На сённяшні дзень заканчваецца ўзвядзенне сцен другога паверха. Сучасны музей — гэта надзвычай дарагі і складаны інжынерны комплекс. Выставачная прастора — толькі верх айсберга. Новы корпус уключае ў сябе ўсё неабходнае для паказу і захавання мастацкіх твораў: залы з рознымі светлавымі, тэмпературнымі і вільготнаснымі рэжымамі і, самае галоўнае, сучаснае сховішча. Тым часам, пакуль зацягваецца будаўніцтва, каля 20 тысяч мастацкіх твораў гінуць у падвалах старога будынку.

**— Найвялікшае шчасце для аўтара — бачыць сваё дзецішча ўвасобленым: у палотнах, кніжках, камні. Наколькі поўна вы рэалізавалі сябе на дадзеным жыццёвым этапе?**

— На 10 працэнтаў. Усё астатняе ў маіх асабістых архівах, якіх хапіла б, каб пабудаваць цэлы горад. Аб нерэалізаваных праектах часта кажуць: патрачаныя намаганні, работа ў стол. Ды не, намаганні, энергія, думка аўтара не знікаюць. Яны накопліваюцца, і затым — прарыў. Таму мае «ненароджаныя дзеці» дарагія мне гэтак жа, як і ўсё тое, што пабудавана. Да таго ж я ўпэўнены, што многае яшчэ дачакаецца свайго часу.

**Распытваў Цімур КУДЗЕЯР.**

*УЖЫЦЦІ, як правіла, ніколі няма ліха без дабра, і наадварот. Рынак, напрыклад, стварае выдатныя ўмовы для развіцця прадпрымальніцкай ініцыятывы і абагачэння не толькі законапаслухмяных грамадзян, але і арганізаваных злачынных груповак. А краіны з так званай пераходнай рыначнай эканомікай з'яўляюцца сапраўдным «аазісам» для росквіту мафіі. Бо дзяржавы, якія праводзяць палітычныя, сацыяльныя і эканамічныя рэформы, не маюць дастатковых матэрыяльных рэсурсаў для эфектыўнай барацьбы з рэзка разбагацелай арганізаванай злачыннасцю. Ды і заканадаўчая база не паспявае за імклівым наступам мафіі.*

*У выніку арганізаваная злачыннасць, маючы даволі салідныя капіталы, імкнецца не толькі легалізаваць сродкі, здабытыя разбоем, крадзяжамі і рэкетам, але і ўзяць пад свой кантроль найбольш прыбытковыя сферы эканомікі. Беларусь у гэтым плане, на жаль, не з'яўляецца выключэннем. Таму апошнім часам з самых высокіх трыбун усё часцей і часцей гаворыцца аб эканамічнай бяспецы нашай краіны.*

*Наш карэспандэнт сустрэўся з начальнікам кафедры арганізацыі барацьбы з эканамічнай злачыннасцю Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі Уладзімірам АНЦІМОНІКАМ і папрасіў яго прааналізаваць вытокі мафіёзных капіталаў, фінансавыя магчымасці арганізаванай злачыннасці і, вядома ж, расказаць аб тым, як праваахоўныя органы змагаюцца з ценявым эканамічным «спрутам».*

## АРГАНІЗАВАНАЯ ЗЛАЧЫННАСЦЬ

# ЗОЛАТА МАФІІ

**Не шукайце яго ў патаемных сховішчах і на засакрэчаных рахунках замежных банкаў. Пераважная большасць яго знаходзіцца тут, на нашай зямлі. Прычым амаль навідавоку. Гэтак жа, як і славутае золата партыі, мафіёзныя грошы сёння «круцяцца» ў многіх зусім легальных фірмах, прыносячы аграмадныя прыбыткі сваім гаспадарам.**



**— Уладзімір Васільевіч, для таго, каб паспяхова змагацца з любой злачыннай з'явай, трэба ведаць яе вытокі. І хоць арганізаваная злачыннасць набыла моц у нашай дзяржаве параўнальна нядаўна, праваахоўныя органы, пэўна, маюць ужо немалы вопыт і веды для барацьбы з айчыннай мафіяй. Як фарміраваўся першапачатковы капітал беларускай мафіі?**

— Было б памылковым лічыць беларускую мафію нейкай унікальнай з'явай у свеце. Хоць у айчыннай арганізаванай злачыннасці, вядома ж, ёсць свае адметнасці, ці, дакладней, свая спецыфіка дзейнасці. Але ў асноўным яна развіваецца па стандартных схемах, толькі больш павольна. Як і арганізаваная злачыннасць ва ўсім свеце, беларуская мафія сваю галоўную мэту бачыць у тым, каб, не зважаючы на нормы маралі і права, з найменшымі высілкамі здабыць як мага больш грошай ці іншых каштоўнасцей. Таму крыніцы першапачатковых капіталаў мафій ва ўсіх краінах амаль аднолькавыя: рэкет, прастытуцыя, крадзяжы і рабаўніцтвы. Прычым, нават здабыўшы такім чынам немалыя грошы, мафіёзныя кланы зусім не збіраюцца кідаць гэты злачынны «бізнес», а паралельна яшчэ імкнуцца легалізаваць свае капіталы і ўладкаваць «брудныя» грошы ў даходныя сферы эканомікі. Беларуская мафія ідзе па такім жа шляху. Наша краіна, дзякуючы свайму зручнаму геаграфічнаму становішчу, вельмі спрыяльная для транзіту розных кантрабандных грузаў: ад каштоўных і рэдказямельных металаў да наркотыкаў, зброі і крадзеных аўтамабіляў. Безумоўна, айчынная мафія імкнецца выкарыстаць у гэтым плане геаграфічнае становішча краіны. Традыцыйныя «сферы дзейнасці» арганізавых злачынных груп — рэкет, разбойныя напады на дарогах, кантроль над прастытуцыяй — таксама істотна папаўняюць бандыцкі бюджэт. Прычым найбольш распаўсюджаны від дзейнасці арганізаваных злачынных груп на Беларусі — вымаганне. Гэта, на думку спецыялістаў, абумоўліваецца тым, што многія злачынныя «брыгады» выраслі з мясцовых «шаек» і сталі паразітаваць на законнай экамічнай дзейнасці суб'ектаў гаспадарання. У буйных прамысловых гарадах яны імкнуцца шляхам подкупу і пагроз перацягнуць на свой бок кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў. Супрацоўніцтва з кіраўнікамі прадпрыемстваў мафіі патрэбна для таго, каб атрымаць інфармацыю аб эканамічным стане суб'ектаў гаспадарання, а таксама для доступу да матэрыяльных і грашовых фондаў. У рэшце рэшт мафія ўжо пачынае заяўляць прэтэнзіі на сваю пастаянную долю ў некаторых сферах легальнага бізнесу.

**— І няўжо бывалі выпадкі, калі кіраўнікі, напрыклад, дзяржаўных прадпрыемстваў згаджаліся на супрацоўніцтва з мафіяй?**

— З юрыдычнага пункту гледжання даказаць супрацоўніцтва таго ці іншага чыноўніка з мафіяй вельмі цяжка. Самі разумееце, што кантрактаў у такіх выпадках ніхто не падпісвае, а перамовы вядуцца ў абстаноўцы строгай сакрэтнасці і без лішніх сведак. Да таго ж самі кіраўнікі камерцыйных прадпрыемстваў не заўсёды звяртаюцца па дапамогу ў праваахоўныя органы, бо не ўпэўнены ў тым, што атрымаюць надзейную абарону. Замест гэтага яны плацяць злачынцам даніну альбо наймаюць прыватную ахову.

Па звестках праваахоўных органаў, некаторым злачынным групам удалося ўзяць пад кантроль вельмі важныя сферы вытворчасці. У прыватнасці, некаторыя прадпрыемствы, якія прыносяць прыбытак у цвёрдай валюце.

**— Хоць гэта і не вельмі сціпла — лічыць грошы ў чужой кішэні, аднак усё ж які, напрыклад, сёлетні бюджэт беларускай мафіі? Наогул, у колькі соцень тысяч ці мільёнаў долараў ацэньваецца ўвесь рухомы і нерухомы капітал айчынных злачынных груп?**

— Дакладных лічбаў мы не маем. Мяркуем, што такіх звестак увогуле не існуе, бо свайго міністэрства статыстыкі злачынны свет, нягледзячы на сваю арганізаванасць, не стварыў. Мы можам меркаваць аб фінансавай магутнасці беларускай мафіі толькі па яе злачынных справах. Але гэта будзе не зусім дакладная статыстыка, паколькі нам добра вядома, што арганізаваная злачыннасць апошнім часам укладвае грошы і ў легальны бізнес, атрымліваючы праз падстаўных асоб вялікія прыбыткі, а таксама ў нерухомасць. Што датычыць наяўных сродкаў, то, па нашых звестках, напрыклад, адлічэнне ў «агульнарэспубліканскі абшчак» толькі адной групоўкі аднаго прыгранічнага з Польшчай горада складае 25—30 тысяч долараў штомесяц. Зразумела, што гэта не ўся «выручка» мясцовай мафіі. Між іншым, сёння на Беларусі налічваецца 220 арганізаваных злачынных груп колькасцю каля 2 тысяч чалавек.

Такім чынам, агульны капітал беларускай мафіі сёння можа складаць дзесяткі, а можа нават і сотні мільёнаў долараў. Прычым з кожным днём даходы мафіі растуць ад легальных відаў бізнесу.

**— Значыць, чуткі аб тым, што арганізаваная злачыннасць пераводзіць свае капіталы на рахункі замежных банкаў, не зусім адпавядаюць сапраўднасці, і золата мафіі, як і золата партыі, трэба шукаць тут? Куды ж укладваюць грошы беларускія мафіёзі?**

— Сапраўды, беларускія мафіёзі добра засвоілі асноўныя законы капіталізму і не горш за эканамістаў ведаюць, куды выгадней за ўсё ўладкаваць грошы, каб яны прыносілі пастаянны даход. Апроч таго, сёння на мафію працуюць у якасці кансультантаў і спецыялісты ў сферы фінансаў і знешнеэканамічнай дзейнасці. Яны маюць доступ да адпаведнай інфармацыі і ведаюць, як гэтую інфармацыю выкарыстаць. Калі гаварыць пра легальныя віды бізнесу, то мафія імкнецца зараз укласці свае грошы найперш у прадпрыемствы гандлю і «піцейна-забаўляльныя» ўстановы. Там самыя «хуткія» прыбыткі. Укладваць сродкі ў вытворчасць, зараз, як вядома, не так выгадна. Хоць, як ужо адзначалася, некаторыя прадпрыемствы, якія прыносяць даходы ў цвёрдай валюце, трапілі ў поле зроку арганізаванай злачыннасці. Але большасць беларускіх прадпрыемстваў пакуль знаходзіцца па-за ўвагай крымінальных структур. Праўда, як толькі сітуацыя ў эканоміцы нармалізуецца і прадпрыемствы пачнуць працаваць з вялікім прыбыткам, мафіёзны «спрут» паспрабуе ўлезці і ў вытворчасць. Вопыт Расіі гэта яскрава пацвярджае.

Зрэшты, пэўную частку грошай злачынныя групоўкі пераводзяць за мяжу. Праўда, потым гэтыя «брудныя» грошы мафія рэінвенсціруе ў беларускую эканоміку ад імя якой-небудзь фірмы, адкрытай, як правіла, у адной з афшорных зон. Гэта адзін са спосабаў «адмывання» грошай, які вельмі распаўсюджаны зараз. На жаль, наша краіна зараз адкрыта для незаконнага наплыву грошай і не вельмі вабіць легальных інвестараў. Зрэшты, і ў самой Беларусі, на жаль, існуюць даволі спрыяльныя ўмовы для «адмывання» грошай. Напрыклад, у нашай дзяржаве не зусім развітая сістэма фінансавага кіравання і кантролю. Таму грошы можна без асаблівых праблем «адмыць» праз казіно, пункты абмену валюты і нават з дапамогай банкаў. І калі арганізаваная злачыннасць і надалей гэтак жа настойліва будзе пралазіць у банкаўскую сістэму, Беларусь стане яшчэ менш прываблівай для заходніх інвестараў.

**— Уладзімір Васільевіч, а вы ніколі не задумваліся аб пазітыўнай ролі арганізаванай злачыннасці? Яна, напрыклад, у адрозненне ад дзяржаўных органаў можа больш эфектыўна, хоць і незаконна, забяспечыць абароненасць кантрактаў бізнесменаў. У рэшце рэшт, паколькі мафія ўкладвае свае даходы ў легальную эканоміку, то гэтым самым садзейнічае яе далейшаму развіццю.**

— Такія аргументы, на першы погляд, і сапраўды здаюцца пераканаўчымі. Аднак пры дэталёвым аналізе няцяжка прыйсці да высновы, што арганізаваная эканамічная злачыннасць не толькі не адыгрывае ніякай прагрэсіўнай ролі ў станаўленні рыначных адносінаў, але, наадварот, перашкаджае нармальнаму эканамічнаму і палітычнаму развіццю дзяржавы. Напрыклад, агульнавядома, што мафія падрывае сумленную канкурэнцыю і знішчае, у прамым і пераносным сэнсе, законапаслухмяных прадпрымальнікаў. Бо тым жа сумленным бізнесменам цяжка канкурыраваць з прадпрымальнікамі, якія знаходзяцца пад патранажам мафіі і маюць магчымасць атрымліваць вялікія фінансавыя ін'екцыі і з бандыцкага бюджэту, і з банкаўскіх рэсурсаў, дзякуючы карумпаваным чыноўнікам. А калі хтосьці здолее эканамічна процістаяць нядобрасумленнай канкурэнцыі мафіі, то яго могуць проста забіць. Дарэчы, калі на дзяржаўным узроўні пагадзіцца з «прагрэсіўнай роляй арганізаванай злачыннасці», то краіна імгненна ператворыцца ў своеасаблівую мафіёзную зону, дзе будуць кіраваць не законы, а культ насілля. Таму патураць арганізаванай злачыннасці, ісці з ёй на перамір'е нельга ні ў якім разе. Вопыт заходніх дзяржаў сведчыць, што нават калі мафія пры маўклівай згодзе дзяржавы захоплівае кантроль над якім-небудзь адным сектарам эканомікі, вытурыць яе адтуль потым вельмі цяжка.

Таксама наіўна было б чакаць, што арганізаваная злачыннасць сама стане на правільны шлях і зоймецца законным бізнесам пры высокім развіцці рыначных адносінаў. Так, з улікам эканамічнай сітуацыі мафія можа памяняць спецыфіку сваёй дзейнасці. Напрыклад, асноўнай дзейнасцю сіцылійскай мафіі ў мінулым стагоддзі было забеспячэнне выканання кантрактных абавязацельстваў паміж партнёрамі. Заўважце: сёння такую ж ролю мафія нярэдка адыгрывае і ў нашай краіне. Аднак у той жа Італіі, як толькі дзяржава сама здолела навесці парадак у бізнесе, арбітражныя функцыі мафіі сталі непатрэбнымі. Тым не менш, гэта не прывяло да знікнення арганізаванай злачыннасці ў Італіі, і па сённяшні дзень мафія займае даволі моцныя пазіцыі на Сіцыліі. А ў той жа Калумбіі для барацьбы з наркамафіяй, як вядома, спатрэбілася дапамога вайсковых падраздзяленняў.

Таму я лічу — і з гэтым меркаваннем, упэўнены, пагодзяцца мае калегі — менавіта зараз у Беларусі неабходна прыкласці ўсе намаганні, каб не даць злачыннаму спруту набраць яшчэ большую сілу. Як кажуць медыкі, лепш папярэдзіць хваробу, чым потым яе лячыць.

**— Так, але арганізаваная злачыннасць ужо дзейнічае, і з немалым размахам. Гэта факт, які вы самі пацвердзілі. Зараз, відавочна, для лячэння гэтай «хваробы» патрабуецца ўжо шэраг сур'ёзных аперацый?**

— Гаворачы пра папярэджанне злачыннай «хваробы», я меў на ўвазе недапушчэнне далейшага эканамічнага росквіту мафіі на Беларусі. Дарэчы, Міністэрства ўнутраных спраў апошнім часам удзяляе шмат увагі барацьбе менавіта з арганізаванай і эканамічнай злачыннасцю. І дасягнула пэўных поспехаў. Напрыклад, колькасць выяўленых эканамічных злачынстваў за 9 месяцаў гэтага года павялічылася ў параўнанні з аналагічным перыядам летась на 9,4 працэнта і склала каля 18 тысяч. На 11,3 працэнта павялічылася колькасць выяўленых замаскіраваных крадзяжоў, на 34,9 працэнта больш раскрыта крадзяжоў у асабліва буйных памерах, на 15,9 працэнта — фактаў хабарніцтва.

Больш чым у два разы раскрыта злачынстваў у сферы прадпрымальніцтва, на 51,4 працэнта — злачынстваў, учыненых пры ажыццяўленні знешнеэканамічнай дзейнасці, на 19,2 працэнта — у аграпрамысловым комплексе, на 15,8 працэнта — у банкаўскай сістэме.

Амаль у тры разы больш выяўлена фактаў парушэнняў пры ажыццяўленні прадпрымальніцкай дзейнасці і на 49,2 працэнта — фактаў выманьвання крэдытаў.

Па завершаных крымінальных справах у якасці кампенсацыі матэрыяльнага ўрону канфіскавана маёмасці, грошай і каштоўнасцей на 76 мільярдаў рублёў.

Так што, як бачна, праваахоўныя органы краіны не збіраюцца спакойна назіраць за працэсам абагачэння мафіі.

**— І ўсё ж гаварыць аб перамозе над арганізаванай злачыннасцю яшчэ рана.**

— Безумоўна, для таго, каб мафія перастала ўяўляць сабой небяспеку для нашай дзяржавы патрэбна яшчэ шмат высілкаў.

Тэрмінова неабходны новыя законы. Трэба дакладна вызначыць у заканадаўстве пералік злачынстваў, якія падпадаюць пад азначэнне «арганізаваная злачыннасць». У прыватнасці, у гэты пералік павінны ўвайсці кантрабанда зброі, наркабізнес, кантрабанда людзей, вымаганне, групавыя рабаўніцтвы, арганізацыя прастытуцыі, падробка грошай і каштоўных папер, карупцыя, «адмыванне» грошай. Прычым, напрыклад, вызначэнне злачынства па «адмыванню» грошай павінна ўключаць у сябе і дзеянні па легалізацыі не толькі даходаў ад незаконнага абароту наркотыкаў, але і ўсіх астатніх сродкаў, атрыманых злачынным шляхам.

Увогуле, неабходна распрацаваць комплексную сістэму, якая б выключала магчымасць «адмывання» грошай праз банкі. Напрыклад, у цывілізаваных краінах існуе заканадаўства, у якім ёсць меры, накіраваныя супраць банкаўскіх сакрэтаў. Служачыя заходніх банкаў ахвотна дапамагаюць праваахоўным органам змагацца з «адмываннем брудных грошай» і паведамляюць аб падазроных кліентах ці сумніўных здзелках. Выхаванне такога ж менталітэту ў айчынных банкаўскіх служачых, на жаль, пакуль не ажыццяўляецца.

Варта таксама ўвесці крымінальную адказнасць і за само членства ў арганізаванай злачыннай групе.

Падагульняючы размову, хачу адзначыць наступнае. З арганізаванай злачынасцю нельга змагацца толькі сіламі адных праваахоўных органаў. Мы толькі ажыццяўляем кантроль за выкананнем законаў. А гэтага мала. Патрэбны і прафілактычныя меры, якія б знішчалі глебу для ўзнікнення арганізаваных злачынных груп. Для гэтага патрэбны новыя законы і для рэгулявання дзейнасці банкаў, і для аптымізацыі падатковай палітыкі, якая б не штурхала бізнесменаў на ўхіленне ад выплаты падаткаў і не давала б падстаў для шантажу гэтых прадпрымальнікаў з боку злачынных груп.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**
**Калаж Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# АПЕРАЦЫЯ «ТРАСТ»

**Звыш сямі мільярдаў рублёў было скрыта ад падаткаабкладання і абнаяўлена толькі праз пяць траставых рахункаў, адкрытых у банку на звычайных грамадзян нашай краіны, у прыватнасці студэнтаў. Пра тое, як ажыццяўляліся гэтыя аферы, расказвае начальнік аддзела падатковых расследаванняў дзяржаўнай падатковай інспекцыі па г. Гродна Аляксандр ЛЯХ.**

— Відавочна, далёка не ўсім чытачам «Звязды» вядома, што ўяўляе сабой траст для фізічных асоб. Калі коратка, то сутнасць яго ў тым, што чалавек, адкрыўшы гэты рахунак, давярае банку ажыццяўляць па яго даручэнню фінансавыя аперацыі: скажам, пералічэнне грошай, пакупку валюты. Само сабой, не за дзякуй, а за пэўныя працэнты, якія атрымлівае банк у адпаведнасці з заключаным дагаворам.

Цяпер уявіце сабе такую сітуацыю. У рэкламнай газеце з'яўляецца аб'ява тыпу: «Куплю безнаяўныя рублі за СКВ». Званок па ўказанаму нумару: «Я хацеў бы купіць валюту». Чалавек на другім канцы провада (так званы дыспетчар, якога наймае фактычны гаспадар траставага рахунку, адкрытага, як правіла, за пэўнае ўзнагароджанне на падстаўных асоб) запісвае каардынаты кліента, перадае іх шэфу. І ўжо той прымае рашэнне наконт кантакту з гэтым кліентам. Дамоўленасць можа быць наступнай: «Вы пералічваеце на траставы рахунак 100 мільёнаў безнаяўных рублёў. Я даю ўказанне банку купіць за іх валюту па існуючаму курсу і за гэта бяру з вас 5 працэнтаў ад абнаяўленай сумы».

**— Але якім жа чынам праходзяць па бухгалтарскаму ўліку гэтыя безнаяўныя грошы?**

— Варыянты існуюць самыя розныя. Скажам, прадпрыемству трэба купіць нейкія матэрыялы. Аднак гэта магчыма толькі за наяўныя. Іх і атрымліваюць праз траставы рахунак. У дакументах жа фігуруе безнаяўны разлік. Далей можна альбо адразу купіць неабходнае, альбо спачатку выгадна пракруціць «жывыя» грошы.

Магчымы і яўны крадзеж. Абнаяўленая валюта кладзецца ў кішэнь, а ў справаздачнасці афармляецца здзелка «купі-прадай». Маўляў, сёе-тое (напрыклад, трубы) купілі, затым прадалі. А каб да гэтых «труб» не падкапаліся падатковыя органы, з атрыманага даходу (ён, само сабой, невялікі) сапраўды плацяць падатак. Гэта дробязь у параўнанні з сумай, якая трапіла ў кішэнь.

Вось канкрэтныя прыклады. У пачатку сёлетняга года была ўстаноўлена група асоб, якія ажыццяўлялі незаконныя траставыя аперацыі. Безнаяўныя беларускія рублі паступалі на іх банкаўскія рахункі ад розных суб'ектаў гаспадарання пад выглядам папярэдняй аплаты прыватным прадпрымальнікам за тавар альбо паслугі. На самай жа справе яны канверсаваліся ў замежную валюту. Гэта дзейнасць доўжылася амаль год. У выніку праз траставы рахунак Е. абнаяўлена 1.610.317 тысяч рублёў. Ён жа разам са сваім кампаньёнам К. працаваў і па рахунку, адкрытаму на падстаўную асобу, абнаяўлена 1.167.427 тысяч рублёў. Аднак найбольшая нагрузка выпала на яшчэ адзін рахунак (таксама на падстаўную асобу), па якому праведзены ажно 223 (?!) грашовыя аперацыі і абнаяўлена 2.207.913 тысяч рублёў.

Сярод кліентаў гэтых асоб была, напрыклад, галоўны бухгалтар адной гродзенскай медустановы Д., якая пералічыла на вышэйпамянёныя траставыя рахункі 130 мільёнаў бюджэтных рублёў. Пры гэтым, каб скрыць злачынства, яна знішчыла плацежныя даручэнні. Ажыццявіўшы і шэраг іншых буйнамаштабных афер, гэта жанчына «зрабіла ногі» і цяпер знаходзіцца ў вышуку.

(Заканчэнне на 10-й стар.)



# ЭКАЛОГІЯ - ЧАЛАВЕК

СПЕЦВЫПУСК «ЗВЯЗДЫ» І МІНІСТЭРСТВА ПРЫРОДНЫХ РЭСУРСАЎ І АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

30 лістапада 1996 года | № 4 (8)

*З ПЕРШЫХ РУК*

## ПЕРСПЕКТЫВА ВЫЖЫВАННЯ

***У Беларусі прынята Нацыянальная праграма рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя***

***ДАКАЗВАЦЬ ТОЕ, што прыродныя ўмовы жыцця людзей у рэспубліцы пагаршаюцца, што наша прамысловасць выкарыстоўвае рэсурсы бяздумна, забруджвае навакольнае асяроддзе, — значыць ламацца ў адчыненыя дзверы. Як у гэтым плане ўвесці наша жыццё ў нармальнае, цывілізаванае рэчышча? На гэтае глабальнае пытанне і дае адказы прынятая ўрадам краіны 15 кастрычніка 1996 года Нацыянальная праграма рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя на 1996—2000 гады.***

***Яна мае дзве асноўныя мэты: у бліжэйшыя два гады неабходна прадухіліць пагаршэнне стану навакольнага асяроддзя на тэрыторыі Беларусі. І пачынаючы ўжо з 1997 года дапушчальныя ўзроўні забруджвання атмасфернага паветра, а таксама вады і глебы павінны быць зніжаны да больш бяспечных велічынь у адносінах да здароўя насельніцтва. Сама праграма складаецца з некалькіх галоўных мэтавых блокаў: прыродаахоўнае заканадаўства; нарматыўнае забеспячэнне — стандарты якасці, экалагічныя нормы; эканамічнае рэгуляванне прыродакарыстання; экалагічныя мерапрыемствы пры раздзяржаўленні і прыватызацыі; экалагічная бяспека і інш.***

***Па некаторых з названых праблем і напрамкаў падрабязныя тлумачэнні дае першы намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Ігар ВОЙТАЎ.***

**— Ігар Вітальевіч, ужо не раз пісалася і гаварылася, што, напрыклад, наш Закон «Аб ахове навакольнага асяроддзя» ледзь не еўрапейскага ўзроўню. А што высвятляецца цяпер?**

— Закон увогуле нядрэнны, але жыццё ідзе наперад, і ўзнікла неабходнасць унесці ў яго змяненні і дапаўненні. Што, дарэчы, прадугледжваецца адным з раздзелаў новай нацыянальнай праграмы, якая ўвогуле нацэльвае на развіццё заканадаўчага працэсу ў сферы экалогіі.

Успомнім, якое заканадаўства дасталося нам у спадчыну ад былога Саюза. Яно было накіравана на жорстка-планавую сістэму эканомікі, толькі на адносіны ў сферы дзяржаўнай уласнасці. Але ж з'явіліся новыя формы ўласнасці — і працэс перайшоў у іншую плоскасць, калі дзейнічаць у першую чаргу неабходна эканамічнымі, а не адміністрацыйнымі метадамі. Гэта датычыць, напрыклад, пытанняў, звязаных з экалагічнымі падаткамі, штрафамі, стварэннем рэжыму дзяржаўнай экалагічнай экспертызы. Гэта вельмі важна для нашай агульнай перспектывы: такая экспертыза ўжо на стадыі праектавання новых і рэканструкцыі існуючых прадпрыемстваў не дазволіць прымяняць старыя, шкодныя тэхналогіі, а прымусіць шукаць прагрэсіўныя рашэнні.

Такая перспектыва выжывання і нас саміх, і нашага навакольнага асяроддзя. Інакш мы яшчэ больш адсталі б ад развітых краін, у тым ліку і ў справе эканомнага выкарыстання рэсурсаў, што вельмі небяспечна ў сэнсе бяспекі краіны.

**— Ці трэба даказваць, што плаціць падаткі ніхто не любіць? Сутнасць жа экалагічнага падатку разумеюць далёка не ўсе: маўляў, навошта гэтыя навацыі, семдзесят з лішнім гадоў жылі без такіх «пабораў»...**

— Экалагічнае падаткаабкладанне існуе і ў Еўропе, і ва ўсім свеце. Мы ўжо чатыры гады ўкараняем гэту сістэму ў Беларусі.

На першым этапе мы, можна сказаць, прывучалі прадпрыемствы, прыродакарыстальнікаў да ўкаранення новых падыходаў: за што і колькі трэба плаціць, у што абыходзіцца вытворчасці толькі адна тона рэчываў, якія забруджваюць прыроду. Усё гэта, натуральна, дзеля таго, каб у прамысловасці зніжалі аб'ёмы выкідаў, прымянялі сучасныя вытворчыя тэхналогіі. Такім чынам, менавіта праз эканоміку і ўкараняецца ў свядомасць кіраўнікоў і ўвогуле вытворчых калектываў у цэлым новае экалагічнае мысленне.

Можна сказаць, што ў прынцыпе сістэма эканамічнага ўздзеяння ўжо запрацавала. Ёсць нямала прыкладаў, калі кіраўнікі заводаў прыходзяць да нас і прапаноўваюць: мы за два гады паставім у сябе новае сучаснае абсталяванне, другасныя рэсурсы, якія ўтвараюцца на прадпрыемстве, пусцім у справу, але дапамажыце частку экалагічнага падатку, што намі выплачваецца, вярнуць на фінансаванне заводскіх прыродаахоўных мерапрыемстваў.

Міністэрства з ахвотай ідзе на супрацоўніцтва з такімі кіраўнікамі вытворчасці, дапамагае сродкамі са свайго пазабюджэтнага фонду — напрыклад, фінансуе будаўніцтва новых ачышчальных збудаванняў.

Вось адзін з канкрэтных прыкладаў — прадпрыемства «Белпак», што ў Буда-Кашалёве. Там наладзілі тэхналогію атрымання з другасных палімераў новай прадукцыі. Калі працэй, там арганізавалі збор старых пластыкавых мяхоў з-пад угнаенняў, выкінутых поліэтыленавых бутэлек і іншых адходаў, потым самі іх пераплаўляюць і ўрэшце выпускаюць выдатныя ўпаковачныя матэрыялы.

Як трэба ставіцца да такой тэхналагічнай палітыкі? А вось як. Міністэрства цяпер разглядае магчымасць фінансавання ў «Белпаку» мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэнне стану навакольнага асяроддзя. Дададзяцца да гэтай сумы свае сродкі прадпрыемства — і можна будзе ставіць тут новую тэхналагічную лінію, праводзіць рэканструкцыю.

Прычым заўважу: гэта не проста палітыка міністэрскага «добрага дзядзькі». Сродкі прадпрыемствам мы пачынаем выдзяляць на зваротнай аснове, як крэдыт, а яны потым яго вяртаюць. Такім чынам, вытворчасць вырашае дзве свае задачы — і эканамічную, і экалагічную.

**— Зразумела, тым заводам, якія неабмежавана прывыклі браць артэзіянскую ваду на вытворчыя патрэбы, цяпер не пазайздросціш — хто вытрымае пяцікратную плату за звышлімітны забор? Ад эканамічных праколаў такія «гаспадары» не застрахаваны.**

**Каго ж тады, Ігар Вітальевіч, у нас будуць страхаваць? Што маецца на ўвазе, калі ў нацыянальнай праграме гаворыцца пра экалагічнае страхаванне?**

— Напрамак гэты для нас зусім новы, аднак ён «працуе» ў Еўропе ўжо пятнаццаць гадоў. Сутнасць яго ў тым, што там прадпрыемствы і фірмы пастунова інвесціруюць, накіроўваюць сродкі праз экалагічныя страхавыя кампаніі для будучай рэканструкцыі сваіх магутнасцей, ці інакш — выплачваюць для гэтага страхавыя ўзносы.

**— Інтарэс страхавых кампаній відавочны. А што атрымліваюць прамыслоўцы?**

— У іх інтарэс таксама немалы. У выпадку буйных тэхналагічных аварый (а ад гэтага ніхто не застрахаваны) прадпрыемства чакаюць вялікія судовыя іскі, велізарныя выплаты за экалагічны ўрон. Падобны механізм дзейнічае і ў нас: дзяржава ў асобе Мінпрыроды прад'яўляе тым, хто праштрафіўся, такія іскі, калі сумы складаюць мільярды рублёў.

Зразумелая справа, прадпрыемства на Захадзе дзесяткі і сотні мільёнаў долараў штрафу самастойна выплаціць не можа, там гэта азначае банкруцтва. Страхавыя арганізацыі якраз і ініцыіравалі новы падыход: параўнальна дробныя адлічэнні ў страхавы фонд, для фінансавання страхавых кампаній прадпрыемствам выгадныя, бо тады яны набываюць пэўную гарантыю ў выпадку аварыі з экалагічным уронам.

Для вытворцаў гэта яшчэ і надзейнае інвесціраванне сродкаў. Страхавыя ж кампаніі ў сваю чаргу праз уласны эканамічны механізм маюць магчымасць прымушаць прадпрыемствы ўкараняць тэхналагічныя навінкі, якія павышаюць экалагічную бяспеку вытворчасці. Велічынёй ставак узносаў кампаніі ўмела рэгулююць гэты працэс. А ўвогуле ствараецца ўзаемавыгадны механізм.

Нам жа ў Беларусі неабходна ўлічваць яшчэ і тое, што рэспубліка — краіна транзітная, у нас праходзіць шмат нафта- і газаправодаў. У прынцыпе, пры ўвядзенні ў Беларусі экалагічнага страхавання, па прадпрыемствах, напрыклад, нафтатранспарціроўкі і іншых падобных мы таксама можам мець пэўны страхавы рэзерв. Паколькі мы ведаем, што многія «ніткі» ўжо старыя, што на іх могуць адбывацца аварыі, то, значыць, неабходныя страхавыя ўзносы, з якіх і ўтвараюцца сродкі на аднаўленне такіх артэрый і кампенсацыю экалагічнага ўрону.

Удзел у гэтай справе будзе, зразумела, добраахвотным. Напомню толькі, што на Захадзе абсалютная большасць прадпрыемстваў у экалагічным плане якраз і застрахавана. Калі камусьці з аварыяй не пашанцавала, то страхавая кампанія дзякуючы маштабам сваёй дзейнасці, вялікім закумуліраваным сродкам і дапамагае такому прадпрыемству выжыць і расплаціцца за ўрон.

**— Прыватызацыя і раздзяржаўленне, па ўсім відаць, у нас не за гарамі. Можна чакаць, што немалая колькасць будучых новых уласнікаў прадпрыемстваў — і калектыўных, і прыватных — выступяць у ролі своеасаблівых «экалагічных джыгітаў», якім закон не пісаны. Не абыдзецца, напэўна, і без іншых праблем...**

— Так, увогуле праблема няпростая і мае некалькі аспектаў. Нейкае прадпрыемства, скажам, мяняе форму ўласнасці — становіцца калектыўным, арэндным, акцыянерным ці прыватным. Натуральна, адразу паўстае пытанне ўзаемаадносінаў такога прадпрыемства з навакольным асяроддзем, з тым насельніцтвам, якое пражывае вакол гэтага завода.

Яшчэ ў былым Саюзе існавала такое паняцце, як санітарна-ахоўныя зоны вакол прамысловых зон і прадпрыемстваў, дзе пражываў не адзін дзесятак тысяч жыхароў. Жывуць яны там і цяпер. Гэта зоны, дзе маецца часовае перавышэнне гранічна дапушчальных канцэнтрацый рэчываў, што забруджваюць навакольнае асяроддзе. Ці захоча новы ўладальнік несці за гэта адказнасць і кампенсаваць выдаткі? А калі завод «паспеў» ужо ўтварыць каля сваёй тэрыторыі звалку, каму яна будзе належаць, хто возьме на сябе адказнасць?

А вось прыклад падыходаў, прынятых на Захадзе. Як вядома, амерыканская кампанія «Форд» узводзіць у Абчаку пад Мінскам завод па выпуску аўтамабіляў, і ў самым пачатку яна запатрабавала правесці так званы экалагічны аўдыт — гэта значыць экалагічную экспертызу тэрыторыі будуемага прадпрыемства і вырашыць пытанні, звязаныя з наваколлем завода. Каб устанавіць, наколькі там забруджана глеба, падземныя і паверхневыя воды, дакладна ведаць першапачатковы стан тэрыторыі і ў далейшым не адказваць і не плаціць за магчымыя «не свае» забруджванні.

**— Даволі дальнабачна, нічога не скажаш. І ўвогуле справядліва.**

— У нас пакуль такіх нормаў няма. Затое маецца такі прававы прабел, калі ў будучым цалкам могуць узнікнуць разнастайныя прэтэнзіі і судовыя справы. Бо адна справа прыватызаваць невялікі, экалагічна чысты ўчастак зямлі. Зусім іншая — што-небудзь накшталт трактарнага завода, вакол якога маецца велізарная санітарна-ахоўная зона, а зямля даўно нашпігавана не самымі прыемнымі рэчывамі. Хто тут будзе правапераемнікам усіх гэтых адходаў і іншых «падарункаў»?

Нацыянальная праграма і паставіла задачу распрацаваць спецыяльны заканадаўчы акт — ён і павінен будзе рэгуляваць падобныя пытанні пры правядзенні прыватызацыі і раздзяржаўлення. Павінен быць удасканалены і існуючы Закон «Аб прыватызацыі».

**— Высвятляецца, што нават і вышэйназваны закон павінен мець экалагічны аспект? Аказваецца, новая нацыянальная праграма ўздымае шмат такіх нечаканых пытанняў, аб якіх мы ў большасці сваёй нават і не падазравалі.**

— У міністэрстве, нашых інстытутах, тым не менш, дастаткова напрацавалі прапаноў, вынайшлі пэўны механізм вызначэння ацэнкі стану асяроддзя на аб'ектах пры правядзенні прыватызацыі. Дарэчы, заходнія кампаніі ўжо ставяць перад намі падобнае пытанне, яны так і гавораць: інвесціраваць сродкі мы не будзем, пакуль кіраўніцтва беларускага Міністэрства прыродных рэсурсаў не падпіша дакумент аб стане навакольнага асяроддзя на канкрэтным участку, які з'яўляецца прадметам кантракта.

І яны тут маюць рацыю, бо ўсё ў канчатковым выніку каштуе грошай — і здаровая экалогія таксама. А калі яна кепская, то хто будзе браць на сябе выдаткі па ачыстцы заводскіх тэрыторый? Усё гэта, відавочна, вялікі блок пытанняў, важнейшыя рэчы.

Вось і па заводу кампаніі «Форд» мы будзем праводзіць экалагічны аўдыт, паколькі яе патрабаванне аб'ектыўна правільнае. Пэўным чынам ствараем прэцэдэнт для далейшай практыкі ў гэтым напрамку. Ужо даём заказ адной з нашых навукова-даследчых устаноў, якая будзе поўнасцю вывучаць стан спраў па экалогіі на будпляцоўцы, каб потым даць рэкамендацыі — колькі, што і як зрабіць, каб пляцоўка адпавядала прынятым стандартам. Будзе, зразумела, вызначаны і кошт работ. Гэта проста неабходна і для вядзення бізнесу, і для вызначэння аб'ёмаў інвестыцый.

**Гутарыў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

*ІНФАРМАЦЫЙНЫМ РАДКОМ*

## КАНТАКТЫ ПАШЫРАЮЦЦА

***Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі ажыццяўляе шырокае міжнароднае супрацоўніцтва. Падтрымліваюцца пастаянныя кантакты з такімі ўплывовымі міжнароднымі арганізацыямі, як ЮНЭП, МАГАТЭ, Савет Еўропы, Еўрапейская эканамічная камісія, Арганізацыя эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця. А таксама — з прыродаахоўнымі міністэрствамі многіх краін, у першую чаргу з дзяржавамі СНД, прыбалтыйскіх краін, Германіі, ЗША, Даніі, Польшчы, Францыі, Швейцарыі і многіх іншых.***

Апошнім часам Беларусь наведала значная колькасць замежных дэлегацый. Так, у верасні нашу краіну наведала місія Еўрапейскай эканамічнай камісіі і Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця. Па просьбе нашага ўрада гэтыя аўтарытэтныя еўрапейскія арганізацыі прааналізуюць эфектыўнасць прыродаахоўнай работы, якая праводзіцца ў Рэспубліцы Беларусь, і складуць адпаведны аналітычны даклад. Вывады і прапановы высокакваліфікаваных спецыялістаў будуць выкарыстаны ў практычнай рабоце па аздараўленню экалагічнай сітуацыі ў Беларусі.

❑

Канкрэтную практычную накіраванасць носіць супрацоўніцтва з Германіяй. Так, у канцы лістапада нашу краіну з рабочым візітам наведалі супрацоўнік Інстытута па ахове навакольнага асяроддзя зямлі Саксонія пан М. Ульрых і кіраўнік праекта па абучэнню беларускіх спецыялістаў у Германіі пан Ф. Геберт.

Германскіх спецыялістаў прыняў першы намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь І. Войтаў. Былі абмеркаваны практычныя пытанні па абучэнню беларускіх спецыялістаў у Германіі за кошт прымаючага боку, а таксама праектаў па ўкараненню ў Беларусі германскіх тэхналогій па перапрацоўцы адходаў прамысловых прадпрыемстваў.

Крыху раней у Гомелі быў праведзены семінар, на якім нашы калегі з Германіі пазнаёмілі беларускіх спецыялістаў з тэхналогіяй раздзельнага збору і перапрацоўкі бытавых адходаў.

❑

Практычную тэхнічную і фінансавую дапамогу Рэспубліцы Беларусь аказвае ўрад Швейцарскай канфедэрацыі, асабліва ў галіне рацыянальнага землекарыстання. У канцы лістапада Беларусь наведаў галоўны кансультант беларуска-швейцарскага праекта. У час яго візіту было падпісана пагадненне паміж урадамі Швейцарскай канфедэрацыі і Рэспублікі Беларусь аб прадастаўленні фінансавай дапамогі нашай краіне для больш актыўнай работы па выкананню беларуска-швейцарскага кадастравага праекта. Урадам Швейцарыі выдзяляецца бязвыплатная дапамога Беларусі ў суме 3 мільёнаў швейцарскіх франкаў, каб ажыццяўляць пастаўкі швейцарскага абсталявання і матэрыялаў для выканання вышэйпамянёнага кадастравага праекта.

❑

Значная тэхнічная і бязвыплатная фінансавая дапамога аказваецца нам Нацыянальным агенцтвам па ахове навакольнага асяроддзя Даніі. У мінулым і гэтым гадах Мінпрыроды Беларусі атрымала за кошт гэтага дацкага ведамства шэраг прыбораў для аналітычных прыродаахоўных лабараторый.

Нядаўна нашу краіну наведала дацкая дэлегацыя. У час гэтага рабочага візіту былі абмеркаваны практычныя пытанні супрацоўніцтва на наступныя гады.

**Аляксандр МАЦЯСОВІЧ,**
**начальнік упраўлення інфармацыі Мінпрыроды.**

НЕБЯСПЕЧНАЯ СІТУАЦЫЯ

# ЖЫЦЦЁ Ў ПАМЫЙНАЙ ЯМЕ?

***Вызначэнне, магчыма, занадта вострае, аднак дойдзем і да такога стану, калі не «развяжамся» з мільёнамі тон адходаў, што накапіліся на беларускай зямлі***



***Нягледзячы на слабую эканоміку, заводскія трубы ўсё ж дымяць — псуюць паветра, якім мы дыхаем. Сотні афіцыяльных і дзікіх звалак забруджваюць глебу, падземныя ваданосныя гарызонты, ваду з якіх мы з вамі п'ём.***

***А яшчэ нам імкнуцца дабавіць з-за мяжы свае шкодныя рэчывы, ім непатрэбныя. Што можа атрымацца? Прывядзём факт, пра які «Звязда» ўжо аднойчы ўпамінала.***

***Дакументальны фільм албанскіх кінамайстроў пад назвай «Поезд смерці», які дэманстраваўся ў Мінску, запомніўся трагічным сюжэтам. Буйная хімічная фірма з Германіі пераправіла ў Албанію амаль 2000 тон ядавітых рэчываў — страціўшых тэрмін годнасці пестыцыдаў. Бочкі, якія знаходзяцца ў чыгуначных вагонах, цякуць — ядавітыя лужыны расцякліся па наваколлі. Шмат бочак расцягнулі, іх змесціва павылівалі хто куды захацеў. Таму сярод мясцовага насельніцтва павялічылася колькасць разнастайных хвароб, гінуць навакольныя вадаёмы. Такія вось «дружалюбныя падарункі»...***

***У Беларусі ўвогуле такое не праходзіць. Гэта было б, прама скажам, занадта. Аднак аб чым гавораць факты, якія прывёў намеснік старшыні Магілёўскага абласнога камітэта па экалогіі М. САЎКОЎ у час размовы з журналістам?***

## Сумніўная нафта і канкрэтныя адходы

**— Мікалай Аляксандравіч, я недзе чуў, ці то жартам, ці то ўсур'ёз, што ў Магілёве можа з'явіцца ўласная нафта. Адкуль узялося такое Эльдарада?**

— Чуткі адсунем убок і дадзім канкрэтную інфармацыю. Справа ў тым, што немцы прапанавалі пабудаваць у Магілёве завод па перапрацоўцы адходаў пластмас (адходы, зразумела, нямецкіх прадпрыемстваў) — па тэхналогіі, як мяркуецца, усё павінна вярнуцца ў зыходны стан, гэта значыць у нафту.

Нам вядома, што гэтая ідэя ішла ад нямецкага боку, мінуючы Кабінет Міністраў. Да нас жа дайшла не праз наша Міністэрства прыродных рэсурсаў, а праз нейкія ведамствы і Магілёўскі аблвыканком. Націску з яго боку не было, проста была зроблена «прапанова».

Нашы (але нам невядомыя) партнёры быццам бы прапанавалі «вялікія» стымулы: на заводзе будзе ажно 200 (!) рабочых месцаў, а атрыманая нафта застанецца ў нас. І гэтым, на іх думку, быццам бы будуць вырашацца нашы энергетычныя праблемы.

**— Наколькі вядома, абласны камітэт гэтай здзелцы «дабро» не даў...**

— Як жа інакш, тут узнікае мноства пытанняў! Калі ўжо і будаваць у нас такі завод, то трэба было б прадугледзець хоць бы збор і утылізацыю на гэтым прадпрыемстве і нашых адходаў. А што прапанавана? Маўляў, будзе ўзведзена дзесяць буйных складоў ці навесаў, кожны плошчай па гектару! Адразу будзе завезена з Германіі безліч пакетаў, кожны аб'ёмам у адзін кубаметр спрасаваных адходаў. Для вытворчасці, для абароту, аказваецца, потым хопіць і двух складоў.

Навошта тады дзесяць? А для таго, каб у Германіі адразу вызваліць зямлю ад усёй масы ўласных адходаў і падкінуць іх беларусам.

**— Абурацца ў такіх абставінах — марная справа. І ўсё ж: калі такі «праект» не прадугледжвае нават перапрацоўкі нашых уласных адходаў, то гэта, дазвольце без дыпламатыі, проста нахабства. На што разлік?**

— Я звярнуў бы ўвагу на іншыя разлікі, а дакладней, на іх адсутнасць. Ніякіх разлікаў уздзеяння гэтага прадпрыемства на навакольнае асяроддзе няма. Ёсць толькі голыя запэўніванні, што, маўляў, яго тэхналогія адпавядае экалагічным стандартам Еўропы.

❑

У якасці пасляслоўя да гэтага невялікага інтэрв'ю я, як аўтар публікацыі, дадам, што падставай для яго паслужылі свае, нашы «родныя» факты, усю грозную сутнасць якіх многія з нас ніяк не хочуць асэнсаваць.

Яшчэ дзесяць гадоў таму назад адзін з маскоўскіх НДІ праводзіў у Магілёве даследаванні. І ўжо тады вучоныя выявілі ў гарадской атмасферы нямала шкодных інгрэдыентаў ад прамысловых выкідаў. У снежным покрыве іх знайшлі ажно 150!

Вясной усё гэта прасочваецца ў глебу, сцякае ў рэкі, асядае ў глей. У выніку ж многае трапляе ў арганізм чалавека. Значыць, мала нам аднаго Чарнобыля, дык мы ўзводзім яго «ў квадрат»?! А тут яшчэ з-за мяжы прапануюць і «дадатак».

## Аб шкоднасці «юбілеяў»

Святкаваць «з помпай» вялікія і малыя даты і падзеі, з пэўнай падставай і без яе, — у нас даўно ў крыві і звычцы. Звярнуць бы лепш увагу на тыя «юбілеі», якімі вызначаюцца застарэлыя нявырашаныя праблемы.

Вось адна з такіх «вялікіх дат»: яшчэ ў ліпені 1991 года (мінуў ужо пяцігадовы «юбілей») урад Беларусі выдаў пастанову «Аб арганізацыі палігонаў па перапрацоўцы і захаванню таксічных прамысловых адходаў». І што з гэтага атрымалася? Ды нічога асаблівага: як часта ў нас здараецца, гара нарадзіла мыш.

Ці можна цярпець такую пасіўнасць урада? Гэта каму як падасца. Але генеральны дырэктар дзяржаўнай навукова-вытворчай фірмы «Белдругасрэсурсы» В. Хадыка знайшоў у сабе сілы паслаць у маі гэтага года ў Кабінет Міністраў афіцыяльнае пісьмо-інфармацыю.

Прызваная займацца праблемай утылізацыі і перапрацоўкі прамысловых адходаў, дзяржаўная фірма неаднаразова прапанавала паскорыць стварэнне рэгіянальных аб'ектаў, якія маглі б выконваць гэтыя задачы. Аднак кіраўнік фірмы вымушаны канстатаваць: «Да цяперашняга часу можна было б пачаць канкрэтныя работы па будаўніцтву гэтых аб'ектаў. Аднак адсутнасць фінансавання і дакладнай палітыкі ў гэтым напрамку прыводзіць да таго, што тэрміны праектавання і будаўніцтва не вызначаны і ў бліжэйшы час не будуць устаноўлены. Органы дзяржаўнага кіравання абыходзяць гэтае пытанне глыбокім маўчаннем ці робяць спасылку на раней прынятыя рашэнні, якія арганізацыйна, фінансава і навукова-тэхнічна не падмацаваны».

Як гэтыя радкі ўспрымаюцца на слых паважанымі чытачамі? На мой асабісты — як абвінавачанне ўрадавых структур у бяздзейнасці. Праўда, практычна адразу абазначылася і некаторая дзейнасць: копіі пісьма кіраўніка «Белдругасрэсурсаў» былі накіраваны ў некаторыя міністэрствы, у аблвыканкомы і Мінскі гарвыканком. Гэта для таго, каб усе «адрасаты» далі свае прапановы для чарговай урадавай пастановы па дадзенай праблеме. Пастановай больш, пастановай менш — што ад гэтага зменіцца?

Цікавасць выклікаюць толькі даныя, прадстаўленыя на мясцовым узроўні. Напрыклад, з даведкі, дасланай у Магілёўскі аблвыканком кіраўніцтвам Магілёўскага абласнога камітэта па экалогіі: «У 1995 годзе на тэрыторыі вобласці ўтварылася 247.406 тон прамысловых адходаў. Перапрацавана і выкарыстана ў народнай гаспадарцы 128.351 тона. Складзіруецца (захоўваецца) на палігонах цвёрдых бытавых адходаў 110.055 тон. Каля 9 тысяч тон таксічных адходаў адпраўлена ў сховішчы і шламаадвалы... На 1 студзеня 1996 года ў вобласці назапашана 214.419,49 тоны такіх адходаў».

Усё гэта, трэба разумець, таксічныя адходы 1—3 класа небяспечнасці (што азначае — самыя ядавітыя) — а з гэтым «жартаваць» нельга.

— Маюцца адходы гальванічнай вытворчасці, адпрацаваныя акумулятарныя электраліты, такія, што ўтрымліваюць свінец, адходы эмульсій і іншыя таксічныя рэчывы, — дае аўтару вусную даведку начальнік аддзела абласнога камітэта па экалогіі А. Аўчыннікаў. — Такіх відаў адходаў — да трыццаці назваў. Калі ж браць і «звычайныя», то назваў набярэцца больш за сотню.

Усю гэту шкодную для чалавека і прыроды атруту мы практычна не перапрацоўваем, хоць ад яе ўжо задыхаемся. Можа, і хацелі б гэта рабіць, але... не хочам! Пра гэтую «дзіўную» акалічнасць пагаворым крыху пазней. Тады ж пракаменціруем і шматзначную выснову з пісьма таго ж В. Хадыкі, калі ён гаворыць пра маўчанне органаў дзяржаўнага кіравання: «Магчыма, што такая абстаноўка задавальняе пэўныя колы, якія імкнуцца заблакіраваць стварэнне комплексаў па розных меркаваннях».

## Завод па перапрацоўцы адходаў — на гарадскую плошчу

Хтосьці з футбольных балельшчыкаў чуў пра невялікі нямецкі горад Кайзерслаўтэрн толькі па назве вядомай футбольнай каманды. Для старшыні Магілёўскага абласнога камітэта па экалогіі У. Шуцько камандзіроўка ў гэты горад асацыіруецца з іншымі ўражаннямі.

Там у самым цэнтры горада працуе выдатнае прадпрыемства па перапрацоўцы прамысловых і ўсякіх іншых адходаў. Архітэктура такая, што ніколі не падумаеш, што гэта завод. Ён збірае адходы з сямі бліжэйшых гарадоў паўднёвага захаду ФРГ, працуе кругласутачна. Тэхналогія адпрацавана так, што выкіды па ступені забруджвання намнога меншыя, чым ад звычайных прамысловых прадпрыемстваў.

— Аднак там усім гэтым не задаволіліся, — шчыра зайздросціць Уладзімір Шуцько. — Бургамістр Кайзерслаўтэрна звярнуўся да кіраўнікоў тых самых сямі «гарадоў-спажыўцоў» з прапановай: «Паколькі мы збіраемся ўводзіць яшчэ больш эфектыўную тэхналогію, а перапрацоўваем і вашы адходы, то просьба дапамагчы сродкамі». Можаце быць упэўнены, грошы на долевых пачатках адразу былі пераведзены.

Праводзіць паралелі з нашай рэчаіснасцю і практыкай не будзем, таму што ў нас у гэтай справе — ні грошай, ні паразумення паміж «зацікаўленымі» бакамі няма.

Аб чым сведчаць і наступныя факты. У 1992 годзе ў Магілёўскай вобласці былі падабраны чатыры ўчасткі для будаўніцтва аднаго палігона пад прамысловыя адходы, якія задавальнялі ўсім патрабаванням для такога роду аб'ектаў.

— Выбіралі ўчасткі вельмі прадстаўнічыя камісіі з выездам на месца, — расказвае той жа начальнік аддзела абласнога камітэта па экалогіі А. Аўчыннікаў. — У іх саставе былі спецыялісты з упраўлення архітэктуры аблвыканкома, раённай архітэктуры, абласной санэпідстанцыі, з землеўпарадкавальнай службы, з разнастайных інстытутаў, грамадзянскай абароны, зразумела, і нашага камітэта. Былі прадстаўлены і мясцовыя ўлады. А ў выніку нічога не атрымалася: дакладна ведаю, што старшыні ўсіх райвыканкомаў былі катэгарычна супраць «пасадкі» палігона ў іх раёнах.

Тое ж самае адбылося і ў 1994 годзе, калі выбіралася пляцоўка пад палігон для прамысловых адходаў абласнога цэнтра. Шмат часу раіліся тады вучоныя і спецыялісты многіх інстытутаў, вывучалі замежны вопыт праектавання, укаранення новых безадходных тэхналогій. Падабралі ажно сем участкаў у Магілёўскім і Быхаўскім раёнах. І тут усё лопнула, бо супраць паўсталі дэпутаты мясцовых райсаветаў.

Гэта, заўважым, зусім не мясцовая «спецыфіка», а паўсюдная з'ява. Трэба, напрыклад, будаваць новы палігон адходаў для сталіцы рэспублікі. Усе органы кіравання — «за», а Мінскі райвыканком — «супраць». Вырашылі будаваць палігон у Чачэрскім раёне на Гомельшчыне — і адразу пачаліся мітынгі і маніфестацыі насельніцтва, якія актыўна падтрымліваліся мясцовай адміністрацыяй.

Усё вярнулася на зыходную пазіцыю: і будаваць аб'екты перапрацоўкі адходаў трэба, бо сітуацыя бярэ за горла, і ў той жа час раённыя ўлады накладаюць сваё «вета». Дзейнічаюць пры гэтым, заўважым, у рамках правілаў — на падставе Закона «Аб мясцовым самакіраванні».

Зрэшты, а якая радасць кіраўніку райвыканкома ці мясцовым жыхарам ад таго, што яны займеюць пад бокам прадпрыемства з «палохаючай» іх назвай? Пасля Чарнобыля ў нас усе баяцца такіх «катоў у мяшку».

...Дарэчы, а ці так усё проста з праблемай перапрацоўкі адходаў у той жа Германіі? Чаму тады немцы імкнуцца спіхнуць нам свае пластмасавыя абрэзкі?

Каб пабудаваць абсалютна бяспечнае ў экалагічных адносінах прадпрыемства, як у тым жа Кайзерслаўтэрне, немцы са сваім дэмакратычным самакіраваннем могуць дыскутаваць і пяць, і дзесяць гадоў. Зацікаўленыя бакі пераконваюць (і ўгаворваюць) жыхароў-грамадзян, вынаходзяць комплексныя меры, а галоўнае — даюць мясцоваму насельніцтву ў якасці кампенсацыі немалыя эканамічныя выгоды. Адным словам, там працуюць і ў выніку прыходзяць, як сёння прынята гаварыць, да кампрамісу і кансенсусу.

Мы ж па-ранейшаму адміструем — і больш нічога. Прыедуць высокія начальнікі з вобласці ў раён і скажуць мясцоваму «цёмнаму» люду: мы вам прызначылі, а вы выконвайце. А хто і калі паспрабаваў растлумачыць людзям усе асаблівасці прапанаванага праекта і вартасці выбранай тэхналогіі? Хто шчыра і без падману расказаў у вёсцы, як будзе ўздзейнічаць (а можа, і не будзе?) такое прадпрыемства на прыроду і чалавека? Абяцаць жа эканамічныя і сацыяльныя кампенсацыі, пэўныя падатковыя льготы раёну з боку дзяржавы — да гэтай «дзікай» (для кагосьці) прапановы ніхто не можа і дадумацца.

## Звалка пад вокнамі

Чым далей паглыбляешся ў праблему, тым больш здзіўляешся. Аказваецца, у Магілёве, буйным прамысловым цэнтры, сёння па сутнасці няма ніводнага прадпрыемства па перапрацоўцы адходаў! Быў адзін завод, і той пяць гадоў таму назад спыніўся з-за поўнага зносу абсталявання (зноў «юбілей»!). Толькі цяпер пытанне аб яго рэканструкцыі быццам бы вырашана на высокім узроўні. Але пры нашых будаўнічых тэмпах і фінансах калі яшчэ гэта адбудзецца! У абласным камітэце па экалогіі выкладваюць новую інфармацыю для роздуму:

— Не трэба забываць і аб той частцы праблемы, якая датычыцца звычайных бытавых і іншых цвёрдых адходаў. Яны шкодныя ўжо толькі сваімі велізарнымі аб'ёмамі. Паглядзіце, што робіцца ў гарадах і пасёлках, не гаворачы ўжо пра прыгарадныя лясы і зялёную зону.

Паглядзелі і на гэта (дарэчы, у камітэце нават маецца планшэт-фотаабвінавачанне, дзе сфатаграфаваны 25 «адрасоў» самавольных звалак і іншага бязладдзя ў Магілёўскім раёне).

Адрасы гэтыя — самыя разнастайныя: і прыгарадныя сельсаветы, і больш аддаленыя. Кар'ер Саломінка пад горадам, гай каля пасёлка Казіміраўка, роў у наваколлі вёскі Палыкавічы і шмат іншых мясцін — усюды будаўнічы друз, іржавы метал, поліэтыленавыя адходы і нават тушы жывёл. Пра што ўжо гаварыць, калі нават вядомую ўсім святыню — Буйніцкае поле, над якім развеяны прах франтавога пісьменніка Канстанціна Сіманава і дзе высіцца мемарыял, і то абразілі дзікай звалкай! А гэта па сутнасці ўжо ў рысе абласнога цэнтра.

У вобласці, заўважым, 21 раён. Застаецца толькі перамножыць — і атрымаем маштабы бедства. Калі хтосьці думае, што тут зноў-такі своеасаблівы «мясцовы каларыт», той моцна памыляецца — у нашай «зялёнай» Беларусі так усюды. Вось вытрымка з інфармацыі Мінскай міжраённай прыродаахоўнай пракуратуры аб выніках праверак па выкананню заканадаўства аб адходах вытворчасці і спажывання: «Устаноўлена, што ў Мінскай вобласці функцыянуюць толькі 5 палігонаў цвёрдых бытавых адходаў, якія з'яўляюцца прыродаахоўнымі збудаваннямі і забяспечваюць абарону ад забруджвання атмасферы, глебы, паверхневых і грунтавых вод, перашкаджаюць распаўсюджванню хваробатворных мікробаў. Астатнія месцы арганізаванага складзіравання цвёрдых бытавых адходаў з'яўляюцца звалкамі, на якіх часта не выконваюцца элементарныя патрабаванні... Звалкі гараць месяцамі, забруджваючы атмасферу, як правіла, паблізу ад населеных пунктаў, ядавітым дымам. У якасці прыкладаў можна прывесці звалкі ў Бярэзінскім, Барысаўскім і большасці астатніх раёнаў Мінскай вобласці. З гэтай нагоды ў аб'яднанні ЖКГ пракурорамі Лагойскага, Бярэзінскага і іншых раёнаў уносіліся прадстаўленні і прадпісанні».

## «Буду сядзець у смецці, а плаціць не стану!»

Заўважана, што адносіны да праблемы адходаў, увогуле смецця і іншага бруду робяць усіх нас нейкімі адзінымі ў нашай агульнай прыцярпеласці. Псіхалогія ўспрымання з'явы прыкладна аднолькавая і ў высокапастаўленага чыноўніка, і ў адміністратара сярэдняй рукі, і ў простага грамадзяніна-абывацеля. Быццам тут мы ўсе аднолькавыя, як кураняты адной квахтухі.

Глядзіце самі: улады гадамі не звяртаюцца да найвастрэйшай балючай праблемы — і ўсё нармальна і спакойна. Кіраўніцтва Бярэзінскага райвыканкома насуперак нормам «саджае» страшэнную дымакурню — асфальтабетонны завод, і нішто на яго ўздзейнічаць не можа. Захацеў камерсант, дырэктар малога прадпрыемства, пазбавіцца ад бочак з моцным ядам — дыхлорэтанам, і без усякага роздуму, са спакойнай душой зваліў іх каля рэчкі ў Клецкім раёне.

Ці можам мы тады быць нейкімі іншымі ў штодзённым жыцці?

З усіх спецыялізаваных збудаванняў у тым жа Магілёве сёння толькі і ёсць, што палігон для цвёрдых бытавых адходаў. Аднак вывозяць іх туды, мякка кажучы, нерэгулярна. Гарадское аўтаспецпрадпрыемства па сваіх магчымасцях магло б абслужыць не менш як 10 тысяч прыватных домаўладанняў. Аднак з 18 тысяч дамоў прыватнага сектара ў горадзе цэнтралізаваным вывазам бытавых адходаў ахоплена толькі... каля 2,5 тысячы дамоў.

Механіка з'явы простая. Прадпрыемства заключае з домаўладальнікамі дагавор на абслугоўванне і вывозіць кантэйнеры са смеццем, якія спецыяльна пастаўлены каля гэтых дамоў. За паслугі жыхары павінны плаціць аўтатранспартнікам зусім нязначную суму. Калі ж справа даходзіць да разліку, то двое прыватнікаў плацяць, а трэці — не, і няма ніякага закона, каб яго пакараць.

З-за такіх «гульняў» транспартная кантора зрабілася стратнай і неплацельшчыкаў (а іх дзе-нідзе цэлыя вуліцы) абслугоўваць перастала. Куды ж дзяваюць смецце такія «хітруны»? А туды ж! Дастаткова яшчэ раз звярнуцца да таго планшэта-фотаабвінавачання, які маецца ў абласным камітэце па экалогіі.

І што атрымліваецца? А тое, што сваё месца пражывання, наш агульны «прыродны дом» мы ўсе разам ператвараем у звалку ці ў тую ж самую памыйніцу. Сказана рэзка? Хтосьці нязгодны? Аўтар будзе рады, калі атрымае доказы процілеглага плана.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**



## ЛЮБІМЫ ГОРАД МОЖА ДЫХАЦЬ ВОЛЬНА?



А сапраўды, ці шмат у нас такіх гарадоў, дзе сярод безлічы аўтамабіляў чалавек можа набраць поўныя грудзі чыстага паветра? Сёння такое месца знайсці цяжка, і вінаваты ў гэтым не толькі традыцыйныя «атручвальнікі» — прадпрыемствы, транспарт. У свой час грамадства спазнілася стварыць такія службы, дзе спецыялісты па ахове навакольнага асяроддзя праводзілі б рэгулярныя назіранні, кантроль, раілі б, як зберагчы паветра, ваду, зямлю ад шкоднага ўплыву. Цяпер такія службы існуюць і плённа працуюць у цесным кантакце з усімі галінамі навукі, тэхнікі, прамысловасці, сельскай гаспадаркі. Прыклад таму — дзейнасць Беларускага навукова-даследчага цэнтра «Экалогія».

Калектыў цэнтра працуе ў галіне аховы навакольнага асяроддзя і рацыянальнага выкарыстання прыроды. Сярод яго навуковых і інжынерна-тэхнічных супрацоўнікаў прадстаўнікі амаль пяцідзесяці спецыяльнасцей. Такая шматпланавасць неабходна для распрацоўкі адзінай сістэмы экалагічнага маніторынгу ў Беларусі, нацыянальнай праграмы па ахове азонавага слоя, тэрытарыяльных комплексных схем аховы навакольнага асяроддзя, экалагічных нарматываў і стандартаў.

У калектыву цэнтра шырокія міжнародныя кантакты і немалыя здабыткі ў прапагандзе лепшага замежнага вопыту аховы прыроды.



На базе цэнтра «Экалогія» працуюць Рэспубліканскія курсы павышэння кваліфікацыі, дзе выкладаюць вядомыя навукоўцы, супрацоўнікі ВНУ, спецыялісты з міністэрстваў і ведамстваў.

**На здымках**: інжынер **В. Мартынава** праводзіць замер колькасці вокісу вугляроду ў паветры Мінска; намеснік дырэктара цэнтра **Ю. Калінін** і начальнік Жлобінскай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **У. Варажбітаў** абмяркоўваюць шляхі вырашэння экалагічных праблем жлобінскага рэгіёна; малодшы навуковы супрацоўнік **Л. Ганчарова** за апрацоўкай інфармацыі з дапамогай матэматычнага мадэліравання.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

*ЭКАЛОГІЯ Ў ЭКСТРЭМАЛЬНЫХ УМОВАХ*

# ПАВОДКУ ПЕРАМОЖА ТОЛЬКІ... МАТЭМАТЫКА

***Гэтую думку пераканаўча даказвае загадчык лабараторыі Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў (ЦНДІКВВР) Пётр РУТКОЎСКІ***

***Беларусь, зразумела, не Індыя. Напрыклад, у плане катастрафічных паводак. Тым не менш, і ў нашай краіне загадзя рыхтуюцца да падобных «падзей» — як, напрыклад, гэта было ранняй вясной сёлетняга года.***

***Тыя трывожныя дні, вядомая справа, даўно забыліся, і мы зноў спахопімся толькі тады, калі, па вядомай прымаўцы, смажаны певень дзеўбане ў адно месца. А як жа з іншай прымаўкай: рыхтуй сані летам, а калёсы зімою?***

***Увогуле ж заўважаецца дзіўнае непаразуменне: ніяк не дадумаемся да таго, што паводку, якой бы яна ні была па сваіх маштабах, трэба не чакаць пакорліва і потым пакутаваць ад яе наступстваў, а загадзя загнаць яе «ў берагі». Чалавек, зразумела, не цар прыроды, але ж і не зусім безабаронная істота. Ці не так?***

***«Звязда» ў свой час ужо ўзнімала неардынарную праблему. Сёння яна зноў прадастаўляе свае старонкі для супрацоўніка ЦНДІКВВР Пятра РУТКОЎСКАГА, які нездарма лічыцца спецыялістам, у прыватнасці, па паводках у басейне адной з найбольш буйных рэк Беларусі — а менавіта Прыпяці.***

**— Чалавечая памяць, як вядома, дама капрызная, часта падводзіць. Таму і папрасіў бы вас, Пётр Пятровіч, напомніць усім нам аб тым, на што большасць ужо забыліся: чаго мы чакалі ад былой «грознай» веснавой паводкі, якая вялася падрыхтоўка, колькі яна нам каштавала і што ў выніку атрымалася.**

— Калі так, то пачнём, як гаворыцца, ад печкі. Яшчэ ў лютым гэтага года ў рэспубліцы была распачата падрыхтоўка да пропуску паводкі — гэта ў сувязі з тым, што мінулагодняя зіма за апошнія дзесяць — пятнаццаць гадоў была адной з самых шматснежных. Па прагнозах Камітэта па гідраметэаралогіі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях (МНС) чакалася, што паводка будзе вышэй за сярэдні шматгадовы ўзровень на 50—60 сантыметраў, а ў некаторых мясцінах — нават на некалькі метраў, бо былі заторы ад нагрувашчанага лёду.

Аднак ход тэмператур у час тaяння снегу прывёў да таго, што інтэнсіўнага працэсу тут не адбылося, усё прайшло адносна плаўна. Хоць па прагнозах, падкрэслю, чакаліся прыкладна такія ўзроўні пад'ёму вады, як у час памятных паводак 1958 ці 1979 гадоў.

Напомню тым, хто не ведае, што ў тыя гады Палессе было далёка не так асвоена, як цяпер. Інтэнсіўнае яго асваенне пачалося ў пачатку 80-х, менавіта пасля стварэння буйнога праекта «Тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне меліярацыі і абароны зямель ад затаплення ў пойме ракі Прыпяць». Распрацоўвалі яго інстытуты ЦНДІКВВР, «Белгіправадгас» і іншыя навукова-праектныя арганізацыі рэспублікі. Прадугледжвалася, у прыватнасці, суцэльнае двухбаковае абвалаванне Прыпяці ў нізоўях яе прытокаў. Зноў напомню, што тады вялося нямала дыскусій, трэба было гэта рабіць ці не. Сутнасць жа тагачаснай праблемы была ў тым, што хуткаплынны час паказаў: выкананне толькі часткі праекта прадэманстравала адсутнасць істотнага ўплыву на прыродны мінімальны сцёк рачной вады, чаго так баяліся праціўнікі праекта. Адбылася менавіта абарона ад максімальных расходаў вады, па-простаму — ад паводкі.

**— У выніку напэўна можна было б сказаць: вялікай паводкі мінулай вясной не адбылося — і гэта плюс...**

— Безумоўна. Плюс яшчэ і ў тым, што навучыліся лепш працаваць, каб сустрэць наступ стыхіі ў поўным узбраенні, набылі пэўны вопыт. Але ж ёсць і мінус — хоць бы ў тым, што шкада затрачаных народных грашовых сродкаў; у пэўных мясцінах, як высветлілася, у гэтым асаблівай патрэбы не было.

Мінус яшчэ і ў тым, што пераконваешся: сёння мы яшчэ не можам з дастатковай дакладнасцю прагназіраваць развіццё сітуацыі ў час паводкі і кіраваць ёю. Напрыклад, для прадухілення наступстваў паводкі ў басейне Прыпяці было выканана нямала мерапрыемстваў, а істотнай ролі гэта не адыграла, бо прырода раптам «злітавалася». У выніку грошы ў многім былі затрачаны марна.

**— Заява даволі сур'ёзная. Хацелася б ведаць, што асабіста вы вынеслі з усяго гэтага вопыту?**

— Каб зрабіць самыя пэўныя высновы, часу было дастаткова. Калі б мы ўмелі прагназіраваць паводкавую сітуацыю, пралічваць розныя яе варыянты, аператыўна ўдакладняць развіццё падзей, то не было б і асаблівых нечаканасцей. Можна было б з дастатковай ступенню дакладнасці загадзя сказаць: адбудзецца канкрэтна тое і тое, рыхтавацца трэба вось да таго і таго. Зэканомілі б вялікія грошы, пазбавіліся б ад многіх бед.

Для басейна Прыпяці сёння важна і тое, што пасля 1980 года пачалі ажыццяўляцца распрацоўкі, закладзеныя ў тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне (ТЭА). Для абароны ад затапленняў пачалі будаваць так званыя польдэры — абвалаваныя грунтам участкі нізіны. У асноўным яны ўзводзіліся ў Брэсцкай вобласці — у Пінску, Лунінецкім раёне.

Гаворачы навуковай мовай, у гэтых мясцінах істотна змяніліся ўмовы фарміравання сцёку «высокай вады» пры паводках. Раней у раёне Пінска вада расцякалася да 30 кіламетраў па пойме Прыпяці ў шырыню (прыкладна да Мікашэвічаў па даўжыні даліны). А ў ніжняй частцы Прыпяці разлівы былі ўжо меншыя — вада акумуліравалася вышэй па цячэнню.

Тыя самыя польдэры, пабудаваныя ў раёне Пінска, і прымусілі ваду ў час паводкі, не разліваючыся па пойме, хутка скочвацца ў рэчышча ракі. Гэта і ёсць новыя ўмовы фарміравання сцёку.

Напрыклад, ужо 1993 год паказаў, што вада ў час паводкі каля Пінска збіраецца не ў такім аб'ёме, як раней: асноўная маса вады (галоўны цяжар паводкі) назапашваецца і перамяшчаецца ўніз па Прыпяці — у Хойніцкі і Нараўлянскі раёны; раней там такіх затапленняў не было. Словам, паводка перамяшчаецца туды, дзе праект ТЭА яшчэ не ажыццёўлены і тэрыторыі не абаронены.

**— Такім чынам, мы падышлі да пытання: ці завяршаць праект па Прыпяці канчаткова, ці пастаянна цярпець урон ад веснавой вады?**

— Як паказваюць прагнозы воднага сцёку, што даюцца гідролагамі, ды і факты апошніх гадоў, цяперашняй методыкай у прагназіраванні паводкі большага ніяк не даб'ешся. Вось старыя падыходы: маўляў, назіранні за працэсам ідуць ужо на працягу ста гадоў — паводка тут адбываецца менавіта такім чынам. Аднак стары вопыт у гэтым рэгіёне поўнасцю страціў сваё значэнне, бо гідрасістэму тут пераўтварылі на дзве трэці і гэтым зусім змянілі дынаміку паводкі. Як у новых умовах прагназіраваць сітуацыю ў нізоўях Прыпяці, куды паводка «перамясцілася»? Неабходна стварыць новую сістэму прагназіравання.

**— Значыць, менавіта матэматыка будзе «змагацца» з паводкай? Гэта, Пётр Пятровіч, даволі незвычайна, і хацелася б пачуць больш дэталёвы расказ.**

— Якой мы бачым новую сістэму? Будзе распрацавана матэматычная мадэль, якая дазволіць у аператыўным рэжыме і па той сітуацыі, якая складваецца ў вярхоўях Прыпяці, разлічваць узроўні і расходы вады прыкладна за некалькі дзён да пачатку паводкі. А таксама даваць прагноз на бліжэйшае будучае: як паводка будзе распаўсюджвацца ў далейшым па ўсяму рачному басейну.

У сістэму будуць закладзены матэматычныя метады разліку руху вады — і на іх аснове, з улікам сітуацыі, якая ў басейне ўжо існуе, усе даныя закладваюцца ў ЭВМ, якая і выдае аптымальны варыянт таго, што адбудзецца ў натуры і да чаго трэба рыхтавацца.

Гэта ж сістэма дазволіць «прайграваць» самыя розныя варыянты. Скажам, дакладнага прагнозу мы яшчэ не ведаем, але можа мець месца, чакаецца вось тое і вось гэта. Снегу вось столькі, і пры такім вось ходзе тэмператур узнікне такая вось сітуацыя. І калі метэапрагноз пацвярджаецца, то відавочна, да чаго канкрэтна неабходна рыхтавацца і на што патрэбны грошы. Эканамічны выйгрыш пры гэтым несумненны, не будзе неапраўданых затрат, паколькі ўсё можна прадказаць з высокай ступенню дакладнасці.

Праінфармую: такая методыка ў нашым інстытуце ў многім ужо распрацавана. Можа, пакуль яна і не зусім дасканалая, аднак яе перавагі відавочныя ўжо сёння.

**— А як увязаць новыя падыходы, вашу методыку з тым, што ў басейне Прыпяці дзейнічае незавершаны праект па абароне зямель ад затаплення?**

— Вернемся да таго, як стваралася ТЭА па абвалаванню Прыпяці. Гэта рабілася менавіта з мэтай абароны ад паводкі і рацыянальнага выкарыстання ўрадлівых зямель, якія раней затапляліся. Размова ідзе аб абароне амаль 0,5 мільёна гектараў урадлівых ворных зямель, што для Беларусі вельмі і вельмі нямала.

У той час мелася на ўвазе, што будзе абвалавана ўсё, што запраектавана, і ўся тэрыторыя сельгасугоддзяў будзе нармальна выкарыстоўвацца. Выканана ж, як я ўжо казаў, толькі дзве трэці намечаных работ — і на гэтым усё спынілася. Зразумела, што сёння ў дзяржавы няма сродкаў на маштабныя праекты. Аднак калі цяпер праект поўнасцю і немагчыма завяршыць, то нельга ж важную справу ў сваю чаргу проста так узяць ды і кінуць на паўдарозе.

Калі не можам завяршыць праект, то тым больш неабходна выкарыстаць распрацаваныя метады матэматычнага мадэліравання. І пры іх дапамозе стварыць новую матэматычную мадэль, якая дае дакладную карціну будучых канкрэтных сітуацый пры паводцы не ў тым праектным варыянце, які прадугледжваў поўнае абвалаванне Прыпяці, а ў тым, які сёння ёсць у натуры.

З дапамогай новай матэматычнай мадэлі можна дакладна прадказаць: у любым канкрэтным месцы, у канкрэтны час узроўні вады будуць менавіта такія, а не якія-небудзь іншыя. І адсюль ужо можна выконваць канкрэтныя мерапрыемствы па абароне ад паводкі і затрачваць сродкі — і ў той жа час гэтыя грошы берагчы, бо іх у дзяржавы сапраўды вельмі мала.

ЦНДІКВВР, падкрэслю, такую мадэль стварыць у стане, бо ёсць немалы вопыт і пэўныя напрацоўкі.

**— Калі так, то вельмі дзіўна, што такая шматабяцальная прапанова ў нашай дзяржаве зусім не запатрабавана. Зрэшты, пры сённяшнім стане спраў гэтаму не варта і здзіўляцца...**

— Нашу ідэю мы прапаноўвалі не аднойчы. Гэту думку, дарэчы, падтрымалі ў Камітэце па гідраметэаралогіі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Там сказалі: нам такая матэматычная мадэль патрэбна, паколькі можна атрымліваць каштоўныя даныя і выкарыстоўваць іх у рабоце.

Акрыленыя, мы ўвайшлі з гэтай прапановай у Камітэт па навуцы і тэхналогіях пры Кабінеце Міністраў. Прычым, тлумачылі ўсё не на словах, бо прадставілі праект у распрацаваным выглядзе. У камітэце ж праект адразу «завярнулі»: маўляў, гэта не наша справа, нясіце праект у МНС, бо тут ёсць сфера інтарэсаў гэтага міністэрства.

У МНС, зразумела, іншыя функцыі і сфера дзейнасці. З другога ж боку, чаму Міністэрства па надзвычайных сітуацыях не можа дапамагчы ў вырашэнні праблемы дзяржаўнай важнасці? Тым больш, што яго структура, Камгідрамет, праявіла тут пэўную цікавасць?

Карацей кажучы, усюды бачна адно: а менавіта жаданне самаўхіліцца, каб толькі не займацца «не сваёй» справай.

Дык што, і надалей будзем шарахацца сюды-туды, раскідваць грошы, заплюшчыўшы вочы і не ведаючы, дзе ў наступны раз нас «дастане» паводка і ў што гэта абыдзецца?

**— Магу толькі паспачуваць вам. Раней, як памятаецца, у праекта па Прыпяці былі даволі гаманкія праціўнікі і нядобразычліўцы. У адносінах жа да новай ідэі многія адразу зрабіліся «глуханямымі». Але ж хтосьці з іх, каб адбіцца ад вас, можа ўзяць ды і выдумаць чарговую зачэпку: абвінаваціць, што інстытут хоча ўвесці дзяржаву ў вялікія затраты. Ці маюцца ў вас салідныя аргументы?**

— У нас усё падлічана. На падрыхтоўку пропуску веснавой паводкі ў гэтым годзе было затрачана, калі мяне не падводзіць памяць, каля 20 мільярдаў рублёў. Тады праводзілася абследаванне гідратэхнічных збудаванняў, стан меліяратыўных сетак, ствараліся разнастайныя запасы для насельніцтва на выпадак непрадбачаных сітуацый, рыхтаваліся сапёрныя часці, грамадзянская абарона і г. д.

А цяпер — іншыя лічбы. Кошт распрацоўкі матэматычнай мадэлі праходжання паводкі, якую прапануе распрацаваць інстытут, ацэньваецца ўсяго ў 560 мільёнаў рублёў. Розніца з першай лічбай амаль у сорак разоў. А паводка ж і, адпаведна, падрыхтоўка да яе паўтараецца кожны год. Ці не зразумела, дзе дзяржаве шукаць эканомію?

**Пытанні задаваў Валянцін ЕЛІСЕЕЎ.**

*ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ*

## Цёплае сонейка — і страшная хвароба

Вось што пішацца іншы раз пра самы аддалены ад нас кантынент — Аўстралію. З кожных трох яе жыхароў двое маюць магчымасць захварэць на рак скуры. Прычына — сонечнае выпраменьванне і геаграфічная блізкасць да антарктычнай «азонавай дзіркі». Штогод у Аўстраліі рэгіструецца 150 тысяч новых выпадкаў узнікнення меланомы. У мужчын яна сустракаецца ў 1,3 раза часцей, чым у жанчын. Людзі са светлай скурай больш схільныя да гэтага захворвання, чым тыя, хто мае больш цёмную скуру. Але рызыкуюць усе.

Аўстралійская статыстыка сведчыць: каля дзвюх трацей людзей атрымліваюць сонечныя апёкі, калі знаходзяцца ў адпачынку. Небяспека сонечнага апёку намнога вышэй на схілах гор, чым у даліне ці на ўзроўні мора.

Пры раннім выяўленні рака скуры шанцы на поўнае вылячэнне складаюць у Аўстраліі 99 працэнтаў. Бальніцы маюць першакласнае абсталяванне, а лячэнне ў такіх выпадках у іх бясплатнае. Гэтыя акалічнасці і ўносяць хоць нейкую аптымістычную ноту.

**З міжнароднага друку.**

## У МІНСКУ ПРАПІСКУ ТРЫ ГАДЫ ЧАКАЮЦЬ

***Мой брат паступіў у гэтым годзе ў Мінску ва універсітэт. Аднак інтэрната яму не далі і жыве ён у роднага дзядзькі, у якога з жонкай трохпакаёвая прыватызаваная кватэра. У кастрычніку дзядзька паспрабаваў прапісаць майго брата на сваю жылплошчу, але ў ЖБК яму адмовілі. Бо да верасня ў гэтай кватэры быў прапісаны я. Нам адказалі, што з моманту маёй выпіскі павінна прайсці 3 гады. Ці правільна гэта?***

**Уладзімір С., г. Мінск.**

Як нам растлумачылі ў пашпартна-візавай службе Мінгарвыканкома, каб прапісаць у кватэру наступнага субкватаранта, трэба каб з часу выпіскі паднаймальніка, кім да верасня з'яўляўся Уладзімір, прайшло 3 гады. Але не варта апускаць рукі. Станоўчае рашэнне па больш ранняй прапісцы можа прыняць толькі выканком — у выглядзе выключэння па шэрагу ўважлівых прычын. Таму, калі зможаце пераканаць высокапастаўленых чыноўнікаў у выключнай неабходнасці прапіскі, тады вам і ўсміхнецца ўдача.

## КОЛЬКІ КАШТУЮЦЬ ЦЯПЕР «КАМЕРЦЫЙНЫЯ» ТЭЛЕФОНЫ?

***Паважаная «Звязда», я ўжо 4 гады стаю ў чарзе на ўстаноўку тэлефона. А мая знаёмая месяц назад атрымала кватэру ў новым мікрараёне і ўжо праз тыдзень ёй устанавілі тэлефон, праўда, па больш высокай цане. Ці можна і мне ўстанавіць такі?***

**Таццяна КАЎРЫГІНА, г. Мінск.**

***Як вядома, даныя (расшыфроўку) па міжгародніх перагаворах аддзяленне сувязі выдае кожнаму ўладальніку тэлефона. У гэтым выпадку ўсім зразумела за што і колькі плаціць. Ці магчыма выдаваць такую інфармацыю і па мясцовых размовах?***

**Аляксандр НІЧЫПАРУК, Мінская вобл.**

На пытанні чытачоў адказвае начальнік упраўлення Мінскай тэлефоннай сеткі Іван Жабко. Тарыф на ўстаноўку тэлефона ў горадзе Мінску па жывой чарзе каштуе паўтара мільёна рублёў. Аднак існуюць і іншыя льготныя стаўкі, напрыклад, былыя абаненты пры ўстаноўцы тэлефона ў іншым раёне плацяць усяго 300 тыс. рублёў. У новых мікрараёнах, дзе ўстаноўлены сучасныя АТС, можна ўстанавіць тэлефон і без чаргі. Аднак такая паслуга абыдзецца жыхарам сталіцы ўжо ў пяць з паловай мільёнаў рублёў.

Трэба заўважыць, што ў цэнтры горада, дзе станцыі сувязі загружаны амаль поўнасцю, магчымасці ўстаноўкі «камерцыйных» тэлефонаў абмежаваныя.

Што ж датычыць дакументальнай «расшыфроўкі» мясцовых размоў, то гэта немагчыма па шэрагу прычын. Па-першае, з-за недасканаласці сістэмы сувязі і нямэтазгоднасці ўвядзення гэтай нормы. Уявіце, колькі спатрэбіцца паперы для адлюстравання ў дакуменце ўсіх званкоў. Але галоўнае, чаму немагчымы такі жорсткі кантроль па кожнай размове, заключаецца ў тым, што ў сувязі з гэтым адбудзецца прамое парушэнне тайны асабістага жыцця грамадзяніна рэспублікі. Такая практыка магчыма толькі ў паліцэйскай дзяржаве, якой наша краіна, на шчасце, не з'яўляецца.

## ІЛЬГОТЫ НЕ АДМЕНЕНЫ, А ПРЫПЫНЕНЫ

***Паважаная рэдакцыя, на якія льготы я магу разлічваць, з'яўляючыся ўдзельнікам ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС (артыкул дзевятнаццаты)? Чым мне кіравацца, Указам Прэзідэнта Беларусі ад 1 верасня 1995 года (дзе ён прыпыніў частку прадастаўленых нам ільгот), ці рашэннем Канстытуцыйнага суда, якім гэты ўказ быў прызнаны незаконным?***

**Шымко ТАЦЦЯНА, г. Ліда.**

Каб адказаць на гэта пытанне, рэдакцыя «Звязды» звярнулася ў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. На думку начальніка аддзела па льготах, у сферы прадастаўлення ліквідатарам ільгот назіраецца юрыдычная казуістыка. Калі дзейнічаць строга ў адпаведнасці з законам, то атрымліваецца, што пасля прызнання прэзідэнцкага ўказа № 349 неканстытуцыйным, ён перастае дзейнічаць. Але з прычыны таго, што адсутнічае фінансаванне гэтых ільгот, яны і не аднаўляюцца. Адказны работнік міністэрства падкрэсліў, што частка льгот чарнобыльцам не адменена, а ўсяго толькі часова прыпынена па прычыне адсутнасці сродкаў. Для ліквідатараў аварыі на Чарнобыльскай АЭС (па артыкулу 19) прадугледжвалася 26 пазіцый па льготах. Указам Прэзідэнта былі прыпынены льготы па выдачы беспрацэнтнай пазыкі на будаўніцтва прыватных дамоў, бясплатны праезд на гарадскім грамадскім транспарце, 50-працэнтная скідка на набыццё білетаў пры пераездзе адзін раз у год у абодва бакі, а таксама ўсе льготы па камунальных паслугах. Усе астатнія льготы дзейнічаюць, і грамадзяне маюць права патрабаваць дакладнага іх выканання.

## ІЛЬГОТА НА ПАЗАЧАРГОВАЕ АТРЫМАННЕ ЖЫЛЛЯ ІСНУЕ, АЛЕ... АМАЛЬ НЕ ПРЫМЯНЯЕЦЦА

***Паважаная рэдакцыя, адкажыце, ці захавалася першачарговае права на атрыманне жылля спецыялістам, накіраваным на працу пасля заканчэння ВНУ? Я закончыла яе, напрыклад, у 1991 годзе.***

**БІРУКОВІЧ Н., г. Мінск.**

Як нам паведаміла галоўны юрысконсульт Міністэрства адукацыі і навукі Беларусі Аксана Мякімік, такая льгота прадугледжана Жыллёвым кодэксам краіны. Згодна з артыкулам 45 гэтага дакумента, на пазачарговае прадастаўленне жылых памяшканняў могуць разлічваць асобы, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і закончылі аспірантуру, клінічную ардынатуру, вышэйшыя сярэдне-спецыяльныя і тэхнічныя навучальныя ўстановы і накіраваныя ў парадку размеркавання на працу, калі гэта звязана з пераездам у іншую мясцовасць.

Ці можа на практыцы разлічваць на пазачарговае атрыманне жылля спадарыня Біруковіч, калі бясплатнага жылля па сутнасці ўжо не стала, карэспандэнт «Звязды» вырашыў даведацца ва ўпраўленні ўліку і размеркавання жылля Мінскага гарвыканкома. Намеснік начальніка гэтага ўпраўлення Мікалай Ком запэўніў, што чарга льготнікаў існуе і сёння. Аднак разлічваць на хуткае атрыманне жылля, калі вы закончылі ВНУ ў 1991 годзе, не даводзіцца. Яшчэ не задаволены заяўкі дыпламаваных спецыялістаў, якія стаяць у чарзе з 1980 года. Атрымліваецца, што надзея ёсць, але вельмі прывідная.

## НОВЫЯ СТЫПЕНДЫІ З НОВАГА ГОДА

***У мяне два сыны — студэнты. Старэйшы вучыцца ў інстытуце, малодшы — у тэхнікуме. Чула, што з наступнага года будзе павялічаны памер дзяржаўных стыпендый навучэнцам ВНУ і тэхнікумаў. Растлумачце, калі ласка, на якія стыпендыі могуць разлічваць мае сыны і іншыя студэнты?***

**Кацярына ПАЦЭЙ, Капыльскі раён.**

Пастановай Міністэрства працы і Міністэрства фінансаў ад 24 кастрычніка 1996 г. № 80/1178 з 1 студзеня 1997 года павялічваецца памер усіх відаў стыпендый у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах. Існуюць тры асноўныя віды стыпендый: імянныя, вучэбныя і сацыяльныя.

Імянныя стыпендыі з новага года будуць складаць: для навучэнцаў ВНУ — 390 працэнтаў МЗП, сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў — 360 працэнтаў МЗП. Аднак большасць студэнтаў за свае поспехі ў вучобе атрымліваюць так званую вучэбную стыпендыю. У ВНУ яна ўстаноўлена ў памеры 200 працэнтаў МЗП, а для навучэнцаў, што ў адпаведнасці з рашэннямі ўрада знаходзяцца на поўным дзяржаўным забеспячэнні, — 100 працэнтаў МЗП. У сярэдніх спецыяльных навучальных установах памер яе вызначаны адпаведна ў 170 і 90 працэнтаў МЗП.

Сацыяльная стыпендыя ў інстытутах будзе складаць 160 працэнтаў МЗП, у тэхнікумах — 130 працэнтаў МЗП. Акрамя вышэйпералічаных відаў стыпендый ВНУ могуць прызначыць сваім студэнтам персанальную стыпендыю савета вышэйшай навучальнай установы за асаблівыя поспехі ў вывучэнні асобных дысцыплін і навукова-тэхнічнай творчасці, якая складае 260 працэнтаў МЗП.

## КАМУ ПРАДАЦЬ ВОЎНУ?

***Паважаная рэдакцыя «Звязды»! У нумары за 26 кастрычніка ў вас быў надрукаваны артыкул аб Смілавіцкай валяльна-лямцавай фабрыцы, якая вырабляе валёнкі. У сувязі з гэтым ці не маглі б вы адказаць на пытанне, дзе яны купляюць воўну і па якой цане. У нас раней раённая нарыхтоўчая кантора прымала воўну ад насельніцтва па 2 тысячы рублёў за кілаграм, але потым прыпыніла нарыхтоўку...***

**Сяргей Адамавіч НАДУДЗІК, Слонімскі раён, в. Васілевічы.**

На жаль, паважаны Сяргей Адамавіч, Смілавіцкая валяльна-лямцавая фабрыка не набывае воўну ў насельніцтва. Як паведаміў намеснік дырэктара па камерцыі Мікалай Варашуха, гэта немагчыма па той прычыне, што кожная яе партыя (а колькі можа здаць прыватнік?) павінна прайсці абавязковы кантроль — а раптам жывёла чым хварэла? Таму нарыхтоўкай воўны займаюцца райспажыўсаюзы, якія «камплектуюць» партыі і потым сапраўды прапаноўваюць яе фабрыцы. Па словах Мікалая Іванавіча, даволі часта воўну фабрыцы здаюць, напрыклад, з Маладзечанскага раёна. Прайшоўшая ўсе ступені кантролю, яна прымаецца ад райспажыўсаюзаў у залежнасці ад якасці па 7-8 тысяч рублёў за кілаграм. Асноўную ж частку воўны прадпрыемства атрымлівае з Узбекістана, нядаўна атрымала партыю па бартэру з Малдовы. Што датычыцца вашага пытання, спадар Надудзік, то на фабрыцы вам параілі звяртацца ў мясцовы райспажыўсаюз.

# КАБ ВЫЗНАЦЬ ФОРМУЛУ БЯДЫ

**Запытайцеся ў Бібліі, што чакае чалавецтва ў пакаранне за ўсе яго грахі, і вы пачуеце пра абставіны вельмі падобныя на сённяшні дзень. Усёмагутны вірус СНІДу крочыць па кантынентах. Ахвярамі становяцца не толькі тыя, хто пагарджае сродкамі абароны ад хваробы, але і нявінныя немаўляты, якія з'яўляюцца на свет пазначаныя пячаткаю смяротнай хваробы. Пятнаццаць гадоў таму медыкі зафіксавалі першыя на планеце выпадкі хваробы, а сёння, па інфармацыі ААН, вірус СНІДу носяць у сабе амаль 22 мільёны жыхароў Зямлі.**









Амаль 85 гадоў таму ў сувязі з эпідэміяй халеры на ўскраіне Мінска была пабудавана бальніца для інфекцыйных хворых. Сёння пейзаж вакол старога будынка непазнавальна змяніўся, але ранейшай засталася найвышэйшая ступень адказнасці працуючых тут спецыялістаў. Сёння частка памяшканняў мінскай гарадской інфекцыйнай клінічнай бальніцы адведзена пад аддзяленне Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу. У размешчанай тут лабараторыі гэтага цэнтра маецца самае сучаснае абсталяванне. Працуе вопытны персанал.

Са шматлікімі цяжкасцямі сутыкаюцца працуючыя тут медыкі. Клятва, сфармуляваная ў старажытнасці Гіпакратам, праходзіць выпрабаванне ў барацьбе з чумой, народжанай нашым стагоддзем.

**Яўген ПЯСЕЦКІ, фота аўтара.**

НА ЗДЫМКАХ: медыцынскія сёстры рэанімацыі Т. ШАРАМЕТ і М. АЎДЗЕЕНКА каля ложка цяжка хворага; сярод тысяч проб крыві супрацоўнікі лабараторыі беспамылкова выяўляюць інфіцыраваныя: медсястра Г. ЛЫЧ рыхтуецца да абходу хворых; галоўны спецыяліст Міністэрства аховы здароўя Беларусі па інфекцыйных хваробах П. ЗУБРЫЦКІ і ўрач А. БЛАТУН у адным з ізаляваных боксаў бальніцы.





# НЕ ЗАБЫВАЦЬ БЕЛАРУСЬ

**Даклад Г.-Д. Геншэра, апублікаваны ў газеце «Нордзее-Цайтунг» ад 26.10.96 г.**

Для стабільнасці ў Еўропе рашаючае значэнне маюць адносіны з дзяржавамі — пераемніцамі былога СССР.

Таму правільна, што нямецкая знешняя палітыка адводзіць такую важную ролю адносінам з Расіяй. Таксама правільна, што і Украіна займае важнае месца. Ужо ў гэтых двух выпадках знешняя палітыка ФРГ больш актыўная, чым палітыка іншых краін ЕС і НАТО.

У заходняй частцы былога СССР большай увагі з боку ўсіх заходнееўрапейскіх краін заслугоўвае Беларусь. Тое, што яна — адзіная з дзяржаў—пераемніц Савецкага Саюза яшчэ не прынята ў Савет Еўропы, з'яўляецца рэакцыяй на ўнутрыпалітычную сітуацыю ў гэтай краіне. У Беларусі мы маем сёння справу з канстытуцыйным канфліктам паміж Прэзідэнтам і парламентам. Абодва выбіраліся дэмакратычна, але маюць розныя погляды па пытанню будучага раздзялення кампетэнцый паміж канстытуцыйнымі органамі. Рашаючая роля ў гэтым канфлікце належыць, такім чынам, Канстытуцыйнаму суду. Было б добрым знакам, калі б у дэмакратычна арганізаванай дзяржаве канфлікт паміж органамі ўлады вырашаўся на аснове Канстытуцыі. Наступныя тыдні пакажуць, ці ўдасца гэта і ці будзе створана база для сумеснай работы канстытуцыйных органаў згодна з Асноўным законам.

Пры гэтым значная адказнасць кладзецца і на плечы суседзяў і партнёраў Беларусі. Усё гаворыць на карысць таго, што расійскі прэзідэнт Б. Ельцын параіў беларускаму кіраўніку дзяржавы памяркоўнасць. Гэта добры знак, які дэманструе, што Расія зацікаўлена ў дэмакратычных адносінах у сваім бліжэйшым акружэнні. Зразумелым стала таксама, што, насуперак некаторым чаканням, Расія не фарсіруе тэндэнцыю да руска-беларускага аб'яднання.

Беларусь з насельніцтвам 10 млн. чалавек і тэрыторыяй, роўнай плошчы пяці буйнейшых нямецкіх зямель, размешчана ва Усходняй Еўропе на важным стыку паміж Польшчай, Прыбалтыкай, Расіяй і Украінай. Таму Расійская Федэрацыя НАТО зацікаўлены у стабільным і дэмакратычным развіцці гэтай краіны. Таму Еўрапейскі саюз заключыў пагадненне аб партнёрстве і супрацоўніцтве з Беларуссю. ЕС аказвае вялікую дапамогу працэсам трансфармацыі, што адбываюцца ў гэтай краіне. Ён таксама не ўтойвае сваёй заклапочанасці наконт абвастрэння ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў Беларусі і заклікаў бакі да ўрэгулявання рознагалоссяў на базе Канстытуцыі. Нядаўні візіт пані прэзідэнта Міжпарламенцкай асамблеі Савета Еўропы і яе выступленне перад беларускім парламентам азначае падтрымку працэсу дэмакратызацыі.

Вялікае значэнне адводзіцца Германіі, якую Беларусь лічыць галоўнейшым партнёрам на Захадзе. Нам трэба пастаянна падкрэсліваць сваю зацікаўленасць у прадаўжэнні дэмакратычных і рыначных рэформаў у асабліва звязанай з намі ў гістарычным плане краіне шляхам інтэнсіўнага дыялогу.

Дэмакратычна канстытуіраваная Беларусь азначае ўзмацненне дэмакратычнай думкі ва ўсёй Еўропе, адначасова гэта і гарантыя партнёрскага супрацоўніцтва з беларускімі суседзямі. Заходняя дыпламатыя візітаў — гэта датычыць як запрашэнняў Прэзідэнта Беларусі ў заходнія краіны, так і візітаў у Мінск — можа дадаткова аказаць палітычны ўплыў. І ў выпадку з Беларуссю паказальна: недастаткова павучальна падымаць палец. Куды важней шляхам пастаяннага дыялогу і супрацоўніцтва з канстытуцыйнымі органамі і з усімі палітычнымі сіламі садзейнічаць умацаванню дэмакратычных устаноў і садзейнічаць гэтай краіне ў ажыццяўленні шырокіх рэформаў і інтэграцыі ў еўрапейскія структуры. Захад не павінен забываць Беларусь.

# АПЕРАЦЫЯ «ТРАСТ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.)**

Аналагічным чынам, але па крыху іншай схеме дзейнічаў інжынер «Гроднааблгаза» К., купляючы для свайго прадпрыемства абсталяванне ў Латвіі. Фактычна гэта рабілася напрамую, па даўно наладжаных каналах. У дакументах жа з'яўляўся ланцуг пасрэднікаў. Спачатку папярэдняя аплата за абсталяванне трапляла да адной гродзенскай камерцыйнай структуры. Апошняя накіроўвала сродкі на траставы рахунак вышэйпамянёнага Е. і ўжо ён заключаў дагавор з рыжскім заводам, пералічваючы туды грошы «Гроднааблгаза». Праўда, не ўсе. Частка іх застаецца на траставым рахунку і канверсуецца ў наяўную валюту. Такім чынам у дзяржпрадпрыемства было ўкрадзена 100 мільёнаў рублёў. Узбуджана крымінальная справа, К. арыштаваны.

**— А што, банку ўсё роўна, законныя альбо не гэтыя траставыя аперацыі?**

— Сітуацыя сапраўды парадаксальная. Чалавек, быццам зусім не камерсант, адкрывае траставы рахунак і разгортвае буйную прадпрымальніцкую дзейнасць, атрымліваючы даход, які не абкладаецца ніякімі падаткамі. Пры гэтым абсалютна відавочна, што безнаяўныя грошы накіроўваюцца не проста грамадзяніну К., а менавіта прыватнаму прадпрымальніку — быццам бы за яго тавар ці паслугі. Такім чынам, банк цудоўна ведае, якую дзейнасць ажыццяўляе так званая фізічная асоба. Але навошта абурацца, калі ад кожнай аперацыі праз траставы рахунак нешта перападае і банку?

Зусім іншая цікавасць, зразумела, у падатковых органаў. Ёсць інфармацыя, што чалавек займаецца незаконнай камерцыяй. Што рабіць, каб выканаць свой службовы абавязак? У банк накіроўваецца запыт з просьбай паведаміць звесткі аб канкрэтным траставым рахунку, прычым не проста грамадзяніна, а менавіта прадпрымальніка. Пры гэтым я, само сабой, нясу адказнасць у адпаведнасці з палажэннем «Аб камерцыйнай тайне», зацверджаным Кабінетам Міністраў. Але... У адказ — спасылка на заканадаўства аб банкаўскай дзейнасці, якое не дазваляе прадастаўляць нейкую інфармацыю аб грашовых аперацыях фізічных асоб, пакуль не ўзбуджана крымінальная справа. Аднак хіба можна весці гаворку аб крымінальнай справе без дэталёвай праверкі неабходных дакументаў? Кола замыкаецца. І разамкнуць яго немагчыма альбо вельмі і вельмі праблематычна. А тым часам прадпрымальнік Ф., атрымаўшы праз аформленыя на падстаўных асоб траставыя рахункі 386 мільёнаў рублёў незаконнага даходу (гэта толькі тое, што даказана) і выкарыстаўшы валакіту, якая ўзнікла паміж падатковымі органамі і банкам, даў драпака. І ці адшукаюць яго — невядома.

Застаецца дадаць, што сёлета нашым аддзелам выяўлены тры злачынствы (крадзяжы ў асабліва буйных памерах), звязаныя з траставымі рахункамі. Да прадпрыемстваў, якія імі незаконна карысталіся, прад'яўлена штрафных санкцый больш чым на два мільярды рублёў. Але гэта толькі частка таго, што неабходна вярнуць бюджэту.

**Гутарку вёў Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## І. КАРАТЧЭНЯ ПАБЫВАЕ Ў АБСЕ

Выканаўчы сакратар Садружнасці Незалежных Дзяржаў Іван Каратчэня 2-3 снежня прыме ўдзел у маючай адбыцца сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін — удзельніц АБСЕ ў Лісабоне. У сталіцу Партугаліі Каратчэня накіруецца з Бруселя. Як прадстаўнік буйнейшай рэгіянальнай арганізацыі свету, якой з'яўляецца СНД, ён правёў тут кансультацыі ў Камісіі Еўрапейскага саюза.

**Прэс-служба Выканаўчага сакратарыята СНД.**

*ПОГЛЯД*

# БЕЛАРУСЬ ВЫБРАЛА НЕ САМЫ КАРОТКІ ШЛЯХ У ЕЎРОПУ

На наступным тыдні — 2-3 снежня — у Лісабоне адбудзецца сустрэча кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін — удзельніц Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Беларуская дэлегацыя, якую ўзначаліць Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, на гэтым найаўтарытэтнейшым еўрапейскім самміце зможа з першых рук атрымаць інфармацыю і ацэнкі вядучых палітыкаў нашага кантынента адносна апошніх падзей у Беларусі і пераканацца ў сапраўднай рэакцыі Захаду на стыль і метады правядзення канстытуцыйнай рэформы ў нашай краіне.

Перад беларускім кіраўніцтвам стаіць надзвычай складаная задача — зрабіць спробу пераканаць Захад, што Беларусь, нягледзячы ні на якія выдаткі, усё ж імкнецца ў еўрпейскую супольнасць і не адмаўляе дэмакратычных каштоўнасцей; што яна не будзе адгароджвацца ад Захаду жалезнай заслонай; што Беларусь хаця б у перспектыве мае намер выправіць сітуацыю з правамі чалавека.

Звычайна палітычная вага і аўтарытэт краіны на падобных прадстаўнічых саммітах вызначаюцца колам сустрэч і перамоў, якія праводзіць тая ці іншая дэлегацыя з замежнымі партнёрамі. Паводле звестак беларускага МЗС, папярэднія дамоўленасці аб перамовах нашай дэлегацыі ў партугальскай сталіцы дасягнуты з Украінай, Літвой, Латвіяй, Македоніяй...

Гэты пералік наводзіць на невясёлы роздум. Тры першыя краіны — нашы суседзі, з якімі і без таго падтрымліваюцца даволі шчыльныя кантакты. Акрамя таго, яны самі імкнуцца ў еўрапейскія структуры і самі шукаюць шляхі атрымання заходняй падтрымкі. На еўрапейскім кантыненце яны пакуль што ў такой жа, як і мы, ролі бедных сваякоў. Гэта характарыстыка адносіцца і да Македоніі — адной з найбяднейшых рэспублік былой Югаславіі, якая стала незалежнай нават пазней, чым Беларусь, і ў якой узнікла шмат праблем з міжнародным прызнаннем у сувязі з пазіцыяй суседняй Грэцыі. Афіны ўпарта не жадаюць, каб паўночная суседка ўвайшла ў сусветную супольнасць пад назвай «Македонія», паколькі менавіта так называецца правінцыя на поўначы самой Грэцыі. Грэкі мяркуюць, што ў будучым гэта акалічнасць можа стаць прычынай міжнародных непаразуменняў.

Да апошняга часу роля Беларусі ў структуры еўрапейскай бяспекі ў многім вызначалася наяўнасцю на нашай тэрыторыі ядзернай зброі. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка на працягу апошняга года не раз гаварыў пра магчымасць адтэрміноўкі вываду стратэгічных ракет на тэрыторыю Расіі. Відавочна, беларускі лідэр усведамляў: з пазіцыі сілы з Захадам дамаўляцца намнога прасцей — ядзерныя ракеты могуць служыць універсальным аргументам у любых спрэчках. Аднак напрыканцы лістапада Беларусь урэшце стала бяз'ядзернай. З аднаго боку — да гэтага абавязвалі міжнародныя пагадненні, падпісаныя Беларуссю; з другога — на гэтым настаяла сама Расія, якая не жадала ні псаваць свой міжнародны імідж, ні траціць немалыя дадатковыя сродкі на ўтрыманне ваенных баз на нашай тэрыторыі.

Зразумела, Захад прыхільна паставіўся да факта вываду ракет з беларускай тэрыторыі. Але адначасова з гэтым пільная ўвага да Беларусі аслабее, паколькі, ператварыўшыся ў бяз'ядзерную зону, наша краіна са сваім сціплым эканамічным і ваенным патэнцыялам, які, да таго ж, знаходзіцца ў стане зацяжной стагнацыі, не ўяўляе значнай патэнцыяльнай небяспекі для Еўропы.

Улічваючы гэта, еўрапейская супольнасць, хутчэй за ўсё, будзе цвёрда настойваць на неабходнасці дэмакратычных пераўтварэнняў у Беларусі. Калі ж наша краіна захоча гуляць па ўласных палітычных правілах — ёй будзе выстаўлены жорсткі эканамічны рахунак, плаціць па якім давядзецца ўсім нам, грамадзянам Беларусі.

У міжнароднай палітыцы для беларускіх уладаў застаецца надзвычай вузкая прастора для манеўру. У Лісабоне наша дэлегацыя, хутчэй за ўсё, можа выразна адчуць рамкі гэтага калідора.

**Валянцін ЖДАНКО.**

*ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

## УСЮ АДКАЗНАСЦЬ ПА ЧАЧЭНСКАМУ ПЫТАННЮ ЕЛЬЦЫН УЗЯЎ НА СЯБЕ

У Дзярждуме Расіі праводзіцца абмеркаванне рашэння прэзідэнта Ельцына аб поўным вывадзе расійскіх войскаў з тэрыторыі Чачні. Спікер Думы Генадзь Селязнёў заявіў, што ў дэпутатаў выклікае занепакоенасць такая палітыка аднабаковых уступак, пры якой Расія выводзіць усе свае войскі, а чачэнцы не здалі ніводнага кулямёта. Праціўнікі вываду войскаў заклікаюць правесці галасаванне па вотуму даверу прэзідэнту Ельцыну і ўраду. Аднак, трэба меркаваць, што гэта патрабаванне наўрад ці падтрымае большасць дэпутатаў.

Барыс Ельцын напісаў ліст кіраўніку Думы, у якім гаворыцца, што ён бярэ на сябе ўсю адказнасць за захаванне тэрытарыяльнай цэласнасці Расіі.

## ЯПОНІЯ ХОЧА АКТЫЎНА СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ З РАСІЯЙ, АДНАК ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫХ ПРЭТЭНЗІЙ НЕ ЗДЫМАЕ

Урад Японіі мае намер актыўна развіваць супрацоўніцтва з Расіяй у самых розных галінах. Пра гэта заявіў прэм'ер Японіі Хасімота на адкрыцці нечарговай сесіі парламента. Ён таксама пацвердзіў пазіцыю Токіо па праблеме Паўднёвых Курыл, на якія прэтэндуе Японія. «Мы маем намер прыкладаць усе намаганні з тым, каб на базе такійскай дэкларацыі дабіцца вырашэння праблемы паўночных тэрыторый, заключыць з Расіяй мірны дагавор і нармалізаваць двухбаковыя зносіны», — зазначыў кіраўнік урада Японіі.

## РЭЙХСТАГ АДНОВІЦЬ СВАЮ ДЗЕЙНАСЦЬ У НАСТУПНЫМ ТЫСЯЧАГОДДЗІ

Пераезд бундэстага (парламента) ФРГ з Бона ў Берлін будзе адкладзены на нейкі час і адбудзецца толькі ў наступным тысячагоддзі. Такое рашэнне прыняў на сваім апошнім пасяджэнні савет старэйшын ніжняй палаты нямецкага парламента. Раней меркавалася, што пераезд адбудзецца ў 1998—99 гадах. Такім чынам, нават пасля адкрыцця будынка рэйхстага, якое плануецца пасля яго поўнай рэканструкцыі, у ім будзе праводзіцца толькі нязначная частка пасяджэнняў бундэстага.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

*Аляксандр КУРЛОВІЧ:*

# «ВЫСАКОСНЫЯ ГАДЫ ЗАЎСЁДЫ БЫЛІ ДЛЯ МЯНЕ ШЧАСЛІВЫМІ»

**Як ні парадаксальна, але двухразовы алімпійскі чэмпіён па цяжкай атлетыцы гродзенец Аляксандр Курловіч у нечым падобны на вядомага аргенцінскага футбаліста Дыегу Арнандаса Марадону. І той, і гэты — «зоркі». І той, і гэты не абмінулі скандалаў. Абодва завяршылі сваю кар'еру ў спорце, скажам так, няўдала. Розніца ў тым, што Аляксандр Курловіч, у адрозненне ад свайго футбольнага «калегі», у журналістаў з дробнакалібернай вінтоўкі не страляе. А вось пагутарыць — калі ласка...**

**— Аляксандр, вы верыце ў прыметы, забабоны?**

— Як і кожны спартсмен.

**— Я да таго пытаюся, што гэты, высакосны, год быў для вас самым натуральным пеклам: скандал з прымяненнем анаболікаў і пасля гэтага — эпапея «блукання па пакутах» за права даказаць, што «ты — не вярблюд»; перадалімпійская траўма; усяго толькі 5-е месца на Алімпіядзе ў Атланце. Адным словам, «пазайдросціць» можна...**

— Усё гэта так, аднак, што самае цікавае, у высакосныя гады мне заўсёды шанцавала — алімпійскія тытулы чэмпіёна я атрымліваў якраз у 82-м і 88-м. Высновы рабіце самі.

**— Пятае месца на Алімпіядзе — гэта для вас поўны правал?**

— Скажу шчыра: правалам я палічыў бы нават «серабро». Я настройваўся на перамогу і быў проста ўпэўнены ў ёй. На жаль, у апошні момант атрымаў траўму.

**— Напярэдадні вашага ад'езду ў Атланту мы размаўлялі, і тады вы запэўнілі: усё нармальна, са здароўем ніякіх праблем.**

— Акурат на наступны дзень я і атрымаў траўму. Нагрузкі на перадалімпійскім зборы ў Стайках былі каласальныя. Я і да гэтага неаднойчы «залізваў раны», а тут якраз пацягнуў нагу.

**— Дык навошта паехалі на Алімпіяду, калі ўжо загадзя ведалі аб сваіх магчымасцях? Вы ж здагадваліся, што самі, па добрай волі, паклалі галаву на плаху.**

— Прабачце, я што, зусім без вопыту? У мяне была база, былі 25 дзён да пачатку спаборніцтваў, былі ўрачы і масажысты, якія ледзь не суткамі «чаравалі» над нагой. Надзея заставалася, а ўпускаць шанц стаць трохразовым алімпійскім чэмпіёнам, згадзіцеся, было б недаравальнай памылкай.

**— У які момант спаборніцтваў адчулі, што вам не «свеціць» не толькі «золата», але і ўвогуле п'едэстал?**

— Калі ў штуршку ў другой спробе не ўзяў 247,5 кг. Расіянін Андрэй Чамеркін і аўстраліец Стэфан Боцеў на гэты момант паднялі па 250 кг, а немец Роні Велер — 252,2 кг. Як ні падтрымлівала мяне публіка, ад трэцяй спробы я адмовіўся — боль у назе быў невыносны, ды яшчэ пашкодзіў локаць. Вы ж, напэўна, бачылі — у рыўку я ледзь-ледзь зафіксаваў 195 кг, хоць у 1994 годзе ўстанаўліваў рэкорд 205 кг. Па вялікаму рахунку, я не думаў, што той жа Чамеркін ці Велер пакажуць такія вынікі. Недааацаніў кіло на 5—7.

**— Ці недаацаніла наша фармакалогія?**

— І гэта таксама. Сёння паказаць высокі вынік у цяжкай атлетыцы без сучасных дазволеных медыцынскіх прэпаратаў можна гэтак жа, як даляцець на верталёце да Луны. У расіян, напрыклад, засталася ад Саюза цудоўная фармакалагічная база. У нас жа пакуль усё гэта толькі на стадыі станаўлення. А ўласная допінг-лабараторыя і ўвогуле з галіны фантастыкі.

**— Аляксандр, на памосце вы хрысціліся. Своеасаблівы рытуал?**

— Ды не, неяк само сабой атрымалася. Прычым упершыню за ўвесь час маіх выступленняў.

**— Многія абвінавачваюць вас у тым, што да Алімпіяды згадзіліся выступаць за нямецкі клуб «Самсвенг». Па-першае, на спаборніцтвах выступалі амаль кожны тыдзень. Па-другое, тыя ж немцы «падаравалі» вам допінгавы скандал. І па-трэцяе, усё гэта было на руку іх землякам Роні Велеру і Манфрэду Нерлінгеру.**

— Пасля бойкі махаць кулакамі неяк не выпадае.

**— Хадзілі чуткі, што мікраклімат у камандзе быў не вельмі добры. Можа, гэта і стала прычынай правалу ўсіх беларускіх штангістаў?**

— Я не хачу гаварыць на гэту тэму, адно скажу: некаторыя мае «калегі» і сапраўды вышэйназваны клімат псавалі.

**— Усім вядомы вашы непрыязныя адносіны з другім нашым вядомым суперцяжкавагавікам Леанідам Тараненкам...**

— А ніякіх адносінаў увогуле няма. Ён — сам па сабе, я — сам па сабе.

**— Аляксандр, сёння вы без пяці хвілін галоўны трэнер зборнай Беларусі. Нейкія прыкідкі на будучыню ўжо зрабілі?**

— Ёсць планы, ёсць цікавыя прапановы і, што самае галоўнае, ёсць з кім і над чым працаваць. Але, паколькі, як я ўжо сказаў, што спартсмены — народ прымхлівы, давайце пакуль не будзем казаць «гоп». Пераскочым — тады і пагутарым.

**Алесь СІВЫ.**

# ГРАНІЦА — НЕ ПРАХАДНЫ ДВОР

**Пагранічнікі Смаргонскага пагранатрада затрымалі адразу 53 чалавек, якія спрабавалі нелегальна перасекчы беларуска-літоўскую граніцу.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-цэнтры пагранвойскаў Беларусі, уся гэта група мела намер трапіць «абходнымі шляхамі» у Германію. Сярод затрыманых — грамадзяне Індыі, Афганістана, Шры-Ланкі, Пакістана і Непала. Аднак толькі 13 з іх мелі пры сабе дакументы. Разам з іншаземцамі быў затрыманы і грамадзянін Беларусі, які дастаўляў нелегалаў да граніцы на аўтамабілі «ЗІЛ-131».

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 8.03 | 15.54 | 7.51 |
| Віцебск – | 8.00 | 15.37 | 7.37 |
| Магілёў – | 7.52 | 15.43 | 7.51 |
| Гомель – | 7.43 | 15.47 | 8.04 |
| Гродна – | 8.18 | 16.10 | 7.52 |
| Брэст – | 8.10 | 16.19 | 8.09 |

### МЕСЯЦ

Поўня
25 лістапада

### ІМЯНІНЫ

Пр. Грыгорыя, Нікана, Лазара.
К. Андрэя, Канстанціна.

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам ападкі, па ўсходу моцныя, месцамі слабы галалёд. Тэмпература паветра ў Мінску, Гродне, Брэсце — каля нуля, Магілёве, Віцебску — 0—2, Гомелі — 2—4 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак на большай частцы тэрыторыі ападкі, слабы галалёд, месцамі на дарогах галалёдзіца. 2 снежня ўначы пераважна без ападкаў. Тэмпература 1 снежня ўначы — каля нуля, 2-га — 0—5 градусаў марозу, удзень — 1—6 градусаў вышэй нуля.

## ВАША ЗДАРОЎЕ

# Што рабіць, калі схопіш прастуду

**Паспрабуйце скарыстаць выпрабаваныя хатнія сродкі, аб якіх мы вам раскажам, і вы ўпэўніцеся, што ў барацьбе з прастудай можна абысціся без лякарстваў.**

**!** Пры першых прыметах захворвання (пяршыць у горле, пачынаецца насмарк) неабходна неадкладна прыняць 1 г аскарбінавай кіслаты (вітамін С). У наступныя два дні прыём паўтарыць. Калі гэта ўдалося зрабіць своечасова, то прыём «аскарбінкі» значна аблегчыць працяканне хваробы.

**!** На першай стадыі прастуды, якая праяўляецца ў большасці выпадкаў моцным насмаркам, часта дастаткова папарыць ногі, каб спыніць развіццё захворвання. Затым хуценька абліць ногі халоднай вадой — і адразу ж у пасцель!

## Як адолець насмарк

● Як толькі пачаўся насмарк, зрабіць гарчычнікі з парашку гарчыцы, прыкласці іх да пятак і забінтаваць фланеллю. Надзець цёплыя шарсцяныя шкарпэткі і трымаць гарчычнікі ад 1 да 2 гадзін. Затым гарчычнікі зняць і хутка пахадзіць. Калі зрабіць гэтую працэдуру перад сном, то насмарк спыняецца ўжо пад раніцу.

● Закапваць па 5 кропель у кожную ноздру 4 разы на дзень наступную сумесь: 1 ч. лыжка мёду + 2,5 ч. лыжкі свежапрыгатаванага соку буракоў. Маленькім дзецям рэкамендуецца закапваць толькі сок буракоў.

Незаменнымі будуць паравыя ванначкі з рамонку. Крыху кветак рамонку заліць 1/4 л кіпеню і даць настояцца, затым даліць да літра. Трымаючы галаву над міскай, удыхаць пару.

● Усунуць глыбока ў ноздры здробнены зубок часнаку. Працэдура. Пасля такой працэдуры насмарк знікае праз 3 гадзіны.

● Калі насмарк моцны, раім кожныя дзве-тры гадзіны прымаць ст. лыжку цыбулі, змешанай з мёдам. Цыбуля, як хрэн і рэдзька, утрымлівае гарчычны алей, які выдзяляецца пры нарэзцы і дзейнічае як антыбіётык.

## Сродкі ад кашлю

● Пры кашлі грудзі і спіна націраюцца мазямі, што ўтрымліваюць эфірнае масла. Пасля працэдуры хутка ўхутацца ў цёплую хустку і легчы ў пасцель.

● Выбраць рэдзьку з хвосцікам, адрэзаць верх і выдзеўбці на 1/3 унутраную частку. У сярэдзіну пакласці крыху мёду. Рэдзьку паставіць у слоік або шклянку з вадой і апусціць у яе хвосцік. Праз 3-4 гадзіны збіраецца сок. Яго зліць у шклянку, а ў рэдзьку зноў пакласці мёд. Рэдзька будзе прыдатная на працягу двух дзён, затым яна высахне і яе трэба замяніць. Піць сок па 1 ч. лыжцы 3-4 разы на дзень.

● Чорную рэдзьку, прамытую і ачышчаную, нарэзаць тонкімі лустачкамі і перасыпаць цукрам. Даць пастаяць 6 гадзін, сок, што выдзеліцца, ужываць па 1 ст. лыжцы кожную гадзіну. Гэты сродак рэкамендуецца для лячэння кашлю ў дзяцей.

● Для інгаляцыі пры кашлі цудоўна падыходзіць эўкаліптавы ліст і мята перцавая. На літр гарачай вады дастаткова трохчатырох кропель настою.

-1300-

## Гарачкапаніжальныя сродкі



Высокая тэмпература — ахоўная рэакцыя арганізма на ўзбуджальнікаў хваробы ўсіх відаў. Пры тэмпературы цела 39 градусаў большасць вірусаў не размнажаецца. Кампрэсы на ікры ног дапамагаюць пры высокай тэмпературы. Ужо пасля адной працэдуры тэмпература падае прыкладна на 1 градус. Можна выкарыстаць панчохі ці гольфы, намочаныя ў воцаце. Бавоўняныя гольфы апусціць у раствор з 2/3 халоднай вады і 1/3 воцату, надзець на ногі і ўхутаць сухой хусткай. Калі жар не панізіцца, неадкладна выклікайце ўрача!

Яшчэ некалькі слоў пра гарбату, што творыць цуды, прымушаючы прапацець і выганяючы пры гэтым узбуджальнікаў хваробы і прадукты іх абмену. Адначасова гарбата аднаўляе страчаную арганізмам вадкасць. Чайная сумесь павінна складацца з траў, якія валодаюць процізапаленчымі, гарачкапаніжальнымі ўласцівасцямі. А таксама ўласцівасцямі, што змякчаюць кашаль і павялічваюць ахоўныя функцыі арганізма: **25 г ліпавага цвету, 10 г пладоў шыпшыны, 5 г рамонку, 10 г падбелу (маць-і-мачеха), 20 г трыпутніку (подорожник). 4 ч. лыжкі гэтай сумесі заліць кіпенем, даць настояцца 10 хвілін і пасаладзіць мёдам. Прымаць тры разы на дзень.**

## ДАПАМАЖЫЦЕ РАЗАБРАЦЦА

# Жоўты — не значыць моцны

***«Чаму ў некаторых людзей жоўтыя зубы? Ці праўда, што жоўтая эмаль больш моцная?»***

***«У майго мужа жоўтыя зубы. Можа, можна іх адбяліць?»***

**З пісьмаў чытачоў.**

Колер зубоў у чалавека залежыць не толькі ад стану зубных і калязубных тканак, але таксама ад агульнага стану арганізма (у першую чаргу — страўнікава-кішачнага тракта, залоз унутранай сакрэцыі, дыхальнай, сардэчна-сасудзістай сістэм) і ад узроўню ўтрымання ў арганізме некаторых мікраэлементаў. Напрыклад, пры дэфіцыце жалеза эмаль набывае шараватае адценне, а пры лішку фтору — мелападобнае.

Здаровыя зубы маюць колер ад светла-жоўтага да бледна-блакітнага. Пры некаторых захворваннях іх колер мяняецца. Для таго, каб зубы былі белымі, неабходна своечасова іх лячыць і, зразумела, выконваць пэўныя правілы гігіены поласці рота. Лепш за ўсё чысціць зубы два разы на дзень пасля яды і два разы на год наведваць стаматолага.

Харчовыя прадукты адбельвальным дзеяннем не валодаюць, але старанне пераважнае некаторых з іх садзейнічае ачышчэнню зубоў. Такія ўласцівасці маюць свежая морква, яблыкі, капуста, сельдэрэй.

Калі ў вас жоўтыя зубы, можна паспрабаваць пачысціць іх сумессю з пітной соды і некалькіх кропель лімоннага соку, а затым прапаласкаць рот.

Таксама для асвятлення зубоў можна час ад часу працірадь іх марляй, намочанай у вадзе і пасыпанай дробнай соллю. Эфектыўна ачышчае зубы і мякаць свежых клубніц.

Што датычыцца жавальнай гумкі, то гавараць аб яе адбельным дзеянні не даводзіцца. Але ёсць іншая станоўчая ўласцівасць: калі вы жуеце яе, павялічваецца слінааддзяленне, а значыць, лепш выдаляюцца рэшткі ежы.

-1301-

# УСХОДНІ ГАРАСКОП

## НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

КАЗЯРОГ адзначыць пачатак снежня поспехамі ў рабоце і значнымі дывідэндамі. Нерапоўненыя аптымізмам, вы прыступіце да рэалізацыі новага праекта, звязанага з дадатковымі інвестыцыямі. Асабістае жыццё будзе працякаць нармальна. Зоркі спрыяюць заключэнню шлюбу і рамантычным сувязям без намёку на ланцугі Гіменея.

ВАДАЛЕЙ уступіць у найбольш спрыяльны для сябе месяц. Нястрымны парыў да поспеху прынясе дастойныя вынікі. Асцерагайцеся тых, каго вашы поспехі прымушаюць не спаць начамі. Гэтыя нядобразычліўцы не дрэмлюць і плятуць інтрыгі. Вашы поспехі, як лакмусавая паперка, пакажуць, хто ваш сапраўдны сябар, а хто скрыты да пары «Брут».

РЫБЫ слаўна правядуць час сярод сяброў і родных, з якімі адзначаць асабістае свята. Падставай для яго паслужаць вашы поспехі ў справах і стабільнае фінансавае становішча. У панядзелак лепш заняцца спортам. Для бізнесу пакіньце аўторак, у сераду адпраўляйцеся па пакупкі для дома. Падарожжы акажуцца прыемнымі ў астатнія дні тыдня.

АВЕНЫ атрымаюць прапанову на новае месца работы. Не спяшайцеся яе прыняць, а лепш завяршыце пачатае на старым месцы. У вас з'явіцца магчымасць аднавіць адносіны са сваякамі ці сябрамі, якіх доўга не сустракалі. У чацвер паявіцца шанц для рамантычных прыгод, якімі будзеце захопленны да навагодніх святаў.

ЦЯЛЬЦЫ заваююць поспех, нягледзячы на ўсе цяжкасці на шляху да яго. Не трэба толькі браць ніякіх фінансавых абавязацельстваў, інакш усё сапсуецце. Больш увагі трэба будзе ўдзяліць сваім блізкім і любімым. Чакаецца паступленне буйной сумы па выніках раней выкананай работы.

БЛІЗНЯТЫ атрымаюць задавальненне ад паспяховага вядзення спраў і поўнага парадку ў асабістай бухгалтэрыі. Пры такой саліднай базе можна будзе і крышачку рызыкнуць, пачынаючы новы праект. Не выключаны пераезд у новы дом, сустрэча з тым, каго доўга не бачылі. Падарожжы спыняць вам і вернуцца дадому.

РАКУ давядзецца прысвяціць сябе руціннай рабоце і не адцягваць увагу на дробязі. Імпульсіўнасць вам будзе толькі шкодзіць, таму не прымайце скараспелых рашэнняў. Не трэба таксама пазычаць грошы. Даўгі азмрочаць вашы адносіны са сваякамі. Прыйдзецца ўзяць на сябе клопаты аб адным з іх, хоць асаблівай радасці вы ад гэтага не адчуеце.

ІЛЬВЫ здзівяцца ўласным фінансавым поспехам, якія пераўзыдуць усе чаканні. У дзяржслужачых з'явіцца магчымасць вызначыцца на рабоце. Калі не выкарыстаеце свой шанц, то потым не спадзявайцеся на павышэнне. Адносіны з роднымі будуць шчырымі, аднак прыйдзецца паклапаціцца аб дзецях.

ДЗЕВА застанецца задаволенай уласнымі дасягненнямі, хоць яны маглі б быць і большымі. Надзеі на поспех вы будзеце звязваць з бліжэйшай будучыняй. Яны апраўдаюцца, калі прыкладзяце старанне. Асабістае жыццё не паднясе сюрпрызаў, аднак адносіны з нейкай асобай давядзецца спыніць. Трэба будзе больш увагі ўдзяліць уласнаму здароўю. Яно гэтага патрабуе.

ШАЛІ акажуцца ў паласе ўдач, асабліва калі вы знаходзіцеся на дзяржаўнай службе ці займаецеся камерцыяй. Тыя, што носяць пагоны, могуць чакаць пераводу ў вышэйстаячы штаб. Бізнесмены зробяць удалыя інвестыцыі. Зоркі спрыяюць вашым фінансавым справам, падарожжам і рамантычным прыгодам.

СКАРПІЁН завершыць вырашэнне важных фінансавых пытанняў, што прынясе добрыя дывідэнды. Атрыманыя сродкі зоркі раяць выкарыстаць на куплю нерухомасці ці ўкласці ў акцыі. У адносінах з дамашнімі адбудуцца пэўныя перамены. Адзін з членаў сям'і захоча зажыць асобна, і гэтаму не трэба перашкаджаць.

СТРАЛЕЦ зведае пачуццё вялікага задавальнення ад уласнага павышэння па службе, стабільнасці ў фінансах і шчаслівага сямейнага быцця. У тых, хто не бываў за мяжой, з'явіцца магчымасць наведаць замежскія краіны. Асабістыя праблемы будуць урэгуляваны. Здароўе не падвядзе, хоць перагружацца спіртным і аб'ядацца зоркі вам не раяць.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР—ТАСС.**



## МУЖЧЫНА Ў ЛЮСТЭРКУ

# Паратунак у барадзе

***«Пасля галення кожны раз мая шыя чырванее і на ёй з'яўляецца сыпка. І хаця я змазваю пасля галення твар і шыю ласьёнам, эфект той жа. Што рабіць?»***

**І. КАНСАДУБ, г. Гомель**

Дэрматолагі гэта называюць раздражненнем скуры. Яно іншы раз выглядае як сып, а іншы раз — як маленькія запаленчыя прышчыкі пад падбародкам і на шыі. Узнікаюць яны ад таго, што вострыя, толькі што падрэзаныя валаскі заварочваюцца і зноў уваходзяць у скуру. Ад гэтага часцей пакутуюць мужчыны з цвёрдым шчаціннем.

Зразумела, прасцей у гэтай сітуацыі адпусціць бараду. Калі ж вас гэта не задавальняе, скарыстайце наступныя парады:

— перад тым, як галіцца, на 10 хвілін замачыце лязо ў спірце;

— выкарыстоўвайце мыла з моцным пенаўтварэннем або крэм для галення;

— галіцеся толькі ў накірунку росту валасоў;

— не скрабіце вельмі актыўна скуру, стараючыся пагаліцца як мага чысцей. Калі скура зноў парасце, абрэзаныя валаскі апынуцца ў пастцы і будуць упівацца ў ніжні слой скуры;

— пасля галення намачыце скуру ласьёнам, які не ўтрымлівае алкаголю і не раздражняе скуру.

## БУДАЎНІЧЫЯ ХІТРАСЦІ

# Вагонку робім самі



**Мал. 1.** *1 — корпус пілы; 2 — апорная пліта з механізмам павароту; 3 — дыск пілы, 4 — рэйка, 5 — абмежавальнік; 6 — шрубцінга. Знізу паказана, як прыбіваць вагонку. Памер фаскі вызначае глыбіню шва — малюнак вагонкі.*

Ручная электрапіла — інструмент шматмэтавага прызначэння, аднак на практыцы яе магчымасці часта выкарыстоўваюць не поўнасцю. Напрыклад, на тую ж вагонку вы ідзіце ў магазін, хаця яе можна зрабіць самому. Разрэжце дошку таўшчынёй 50, а лепш 60 мм на рэйкі, павярніце апорную пліту пілы на 45° і зрэжце канты з нарыхтаваных рэек. Габляваць не трэба — добра завостраны дыск працуе чыста. Здыміце з аднаго з кантаў фаску пад 90° да касога зрэзу, прайдзіцеся наждачкай шкуркай — і вагонка гатова (гл. мал.1). Хаця форма яе непрывычная, але выглядае яна, паверце, лепш за фабрычную.

Не варта засмучацца і тым, у каго няма электрапілы, а ёсць стацыянарная цыркулярка. Змайструйце накіравальны брусок, устанавіце яго на пліту цыркуляркі, папярэдне прадугледзеўшы магчымасць рэгуліроўкі: чым далей ён ад рабочага дыска, тым шырэйшай будзе вагонка (гл. мал. 2).



**Мал. 2.** *1 — рэгулявальная планка; 2 — накіравальны брусок; 3 — рэйка; 4 — дыск пілы; 5 — станіна.*

-1302-

## ВЯСКОВАМУ ГАСПАДАРУ

# Як вызначыць узрост каня

**Вы выбіраеце каня і, вядома, хочаце даведацца пра яго ўзрост. Як гэта зрабіць?Назіральныя людзі, якія доўгі час працавалі з коньмі, раяць звярнуць увагу на знешні выгляд жывёліны. Бо існуюць прыметы, характэрныя для коней толькі ў пэўным узросце. Вось некаторыя з іх.**

Узрост аднагадовага або двухгадовага жарабяці можна ўстанавіць з пэўнай дакладнасцю па яго велічыні, сіле і прапорцыях частак цела. У аднагадовага гэтыя прапорцыі не такія, як у дарослага каня той жа пароды. Валасы, асабліва тыя, што растуць на барадзе, кучаравыя і мяккія, грывы і хвасты таксама мяккія і кароткія.

У жарабяці двух гадоў усе часткі цела выраўноўваюцца, валасы становяцца больш цвёрдымі, грыва і хвост даўжэйшымі, асабліва хвост. Ён часта апускаецца ніжэй за скакальны сустаў.

Жарабяты да поўнай змены ў іх малочных зубоў на пастаянныя, а гэта адбываецца к 4,5 гадам, зменяць крыху адрозніваюцца ад дарослага каня: ніжняя сківіца ў іх поўная, акруглая, з тоўстымі і шырокімі краямі, хада жвавая, валасы на галаве гладкія і густыя, скура мяккая, капыты гладкія, без маршчын і большыя ў даўжыню, чым у шырыню.

Гнядыя і дэрашы, старэючы, іншы раз становяцца святлейшымі, а вараныя — цямнейшымі. На пятнаццатым годзе жыцця ў цёмных і вараных коней вейкі на вачах звычайна пачынаюць сівець, а потым і валасы каля вачэй і на галаве, з часам сівізна з'яўляецца ў грыве і хвасце. Цёмна-шэрыя коні з узростам звычайна святлеюць.

Краі ніжняй сківіцы, што зрабіліся тонкімі і вострымі, абвіслая скура на целе, выпіраючыя косці, значнае паглыбленне ямак над вачыма, абвіслая ніжняя губа, пустата пад глоткай, павольная хада, шурпатыя капыты — усё гэта сведчыць аб большай ці меншай старасці каня. Праца і корм бываюць часта прычынай таго, што адзін конь здаецца старым раней за другога. Увогуле, моцны конь пры добрых умовах утрымання можа быць прыдатным да працы да дваццаці гадоў, радзей — да дваццаці пяці і больш.

## НА ЎСЯКІ ВЫПАДАК

# З народнай мудрасці

Заўсёды лічылася, што магчымасць выгаварыцца, адкрыцца, падзяліцца з кім-небудзь сваімі праблемамі, думкамі, цяжкасцямі, а можа, і марамі — гэта лячэнне.

Таму здаўна любілі нашы продкі збірацца на вячоркі. Разам працавалі, вялі шчырыя размовы, вырашалі надзённыя пытанні.

У дружнай, моцнай сям'і (а сям'і раней былі вялікія) не ўмалкалі ажыўленыя гутаркі, тэмай якіх было ўсё: «у каго што баліць, той пра тое і гаворыць».

А калі неабходна падзяліцца асабістым, патаемным, як кажуць, «скінуць камень з душы», то важна мець чалавека, якому можна паскардзіцца, які ўважліва выслухае, не пасмяецца, а пастараецца зразумець.

Але хаця выгаварыцца — гэта лячэнне, трэба памятаць: «сказанае слова — сярэбранае, а нясказанае — залатое», і яшчэ — «дарэчы прамаўчаць, што вялікае слова сказаць».

-1303-

## ПЕСНІ НАРОДАЎ БЕЛАРУСІ

*Прэм'ера рубрыкі*

Ні перамовы-пагадненні, якія прадпісваюць далейшы парадак нашых паводзінаў-дзеянняў, ні застолле, поўнае напояў і частаванняў, не здольны ў такой ступені адначасова аб'яднаць людзей, як гэта робяць песні. Звычайныя песні — з простымі словамі і шчырай мелодыяй. Ніводная ідэя не можа ў адно імгненне так падштурхнуць грамадзян да згоды, да ўзаемапаразумення, як гэта робіць агульны спеў.

Мы пачынаем змяшчаць песні народаў, прадстаўнікі якіх жывуць у нашым краі. Пры розных абставінах гэтыя людзі апынуліся на беларускіх прасторах. Разам з сабою яны прынеслі да нас частку сваёй спрадвечнай культуры. Песні вельмі дакладна выяўляюць менталітэт народа і з'яўляюцца першым памочнікам і надзейным саюзнікам пры наладжванні адносінаў.

Славянскія вакальныя творы будуць падавацца ў тым выглядзе, як спяваюць на іх гістарычнай радзіме. Да песень неславянскіх народаў прапануецца падрадковы пераклад.

## «КОГДА Я НА ПОЧТЕ СЛУЖИЛ ЯМЩИКОМ»

У нас, на беларускіх прасторах, узнік паэтычны твор, які лёг у аснову рускай народнай песні «Калі я на пошце служыў ямшчыком» (другая назва «Ямшчык»).

У 1884 годзе на старонках віленскага часопіса «Athenaeum» была змешчана балада «Паштальён».

Гэта была першапублікацыя беларускага і польскага паэта Уладзіслава Сыракомлі (псеўданім беларускага шляхціца Людвіка Кандратовіча).

Ён адлюстраваў драматычны выпадак, які пачуў у прыдарожнай карчме мястэчка Мір. Польскамоўны твор неаднаразова перакладаўся на рускую мову. Найбольш удалы пераклад зрабіў Леанід Трафалёў. Яго верш фальклярызаваўся 1, як многія паэтычныя творы таго часу, стаў народнай песняй.




Усхвалявана передае драматычную напружанасць пачуццяў беларускі барытон Віктар Скарабагатаў.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

*Когда я на почте служил ямщиком,*
*Был молод, имел я силенку,*
*И крепко же, братцы, в селенье одном*
*Любил я в ту пору девчонку.*

*Сначала не чуял я в девке беду,*
*Потом задурил не на шутку:*
*Куда ни поеду, куда ни пойду,*
*Все к милой сверну на минутку.*

*И любо оно, да покоя-то нет,*
*А сердце болит все сильнее,*
*Однажды дает мне начальник пакет:*
*«Свези, мол, на почту живее!»*

*Я принял пакет— и скорей на коня,*
*И по полю вихрем помчался,*
*А сердце щемит да щемит у меня,*
*Как будто с ней век не видался.*

*И что за причина, понять не могу,*
*И ветер так воет тоскливо...*
*И вдруг словно замер мой конь на бегу*
*И в сторону смотрит пугливо.*

*Забилося сердце сильней у меня,*
*И глянул вперед я в тревоге,*
*Потом соскочил с удалого коня*
*И вижу я труп на дороге.*

*А снег уж совсем ту находку занес,*
*Метель так и пляшет над трупом.*
*Разрыл я сугроб-то, и к месту прирос,*
*Мороз заходил под тулупом.*

*Под снегом-то, братцы, лежала она...*
*Закрылися карие очи.*
*Налейте, налейте скорее вина,*
*Рассказывать больше нет мочи!*





*Яму з жонкай не пашанцавала...*




Ма а л ю Ю. СКРЫПКО.

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

## КРЫЖАВАНКА «ЗАГАДКІ»

**По гарызанталях і вертыкалях:** 1. Зранку ходзіць на чатырох нагах, удзень — на дзвюх, а ўвечары — на трох. 2. Пакуль жывы — чорны, а як памрэ — чырвоны. 3. Сам даўгі, мае чатыры нагі, ды не ходзіць. 4. Даўганосы, даўганогі, прыляцеў з дарогі, шыльца ўваткнуў ды кроў пацягнуў. 5. На вадзе родзіцца, а вады баіцца. 6. Як ляжыць, дык маўчыць, а возьмеш — закрычыць. 7. Складзеш — клін, разгорнеш — блін. 8. Невялікі, рыжаваты, хвост калматы, у лесе жыве, шышкі грызе. 9. Хвост на двары, нос у нары, хто нос паверне, той у хату ўвойдзе. 10. Ніхто яе не страшыць, а яна ўвесь час дрыжыць. 11. Маленькі, чырвоненькі, а не падымеш. 12. Круглая гара, што ні крок — то нара. 13. На страсе валасамі трасе. 14. Нітак шмат, а ў клубок не зматаеш. 15. Ні свет, ні зара, пайшоў гнуты са двара. 16. Палез у ваду адзін, а вылез з сям'ёй. 17. Капа на капе, а зверху кій. 18. Верхам сядаю, на каго — не знаю, знаёмага ўбачу — адразу саскочу. 19. Шуфлем есць, лапатай ходзіць. 20. Дзядок нізак, ды мае сто рызак. 21. Белы, ды не снег, салодкі, ды не мёд. 22. Яго ніколі не абмінеш, ці ў хату заходзіш, ці з хаты ідзеш. 23. Рагаты, ды не бык, ежу бярэ, а зусім не сыты, людзям падае, а сам у кут ідзе. 24. Без языка жыве, не есць, не п'е, а гаворыць ды пяе. 25. Дзень і ноч крычыць, а голас не стамляецца. 26. У зямлю кідаем, не шкадуем, на другі год разбагацеем. 27. На страсе сядзіць і люльку курыць. 28. Стракатае карамысла праз рэчку павісла. 29. Засяваю дол іглідай, спрадвеку слаўлюся жывіцай. 30. Без рук, без алоўка, а малюе лоўка. 31. З высокай дарогі глядзіць бычок крутарогі. 32. З зямлі дасталі, у печку паклалі, імя далі і дом збудавалі. 33. Зверху гола, знізу калмата, цяплом багата. 34. Ігнат-хват пад зямлю пайшоў, чырвоную шапку знайшоў, супраць сонца стаў — шапку зняў. 35. На страсе жораў сядзіць, у хаце скрынка стаіць, святло патушана, а ўвесь свет відаць. 36. Галаву ядуць, цела выкідваюць, а скуру носяць. 37. Выходзілі дванаццаць малайцоў, выносілі пяцьдзесят двух сокалаў, выпускалі трыста шэсцьдзесят пяць лебедзяў. 38. Хутка бяжыць — не дагоніш. 39. Косці на лугу, скура на таргу, а галава ў клеці. 40. Семсот муляроў збудавалі дом без вуглоў.



**Даслала крыжаванку Ірына БЕКІШ, настаўніца з вёскі Каменка Шчучынскага раёна.**

## КРЫПТАГРАМА

Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках малюнка слушную народную прымаўку.

а) 1-2-3-4-5 — пляцоўка ў скверы, парку з падстрыжанай травой; б) 6-7-8-2 — прадукт перапрацоўкі збожжа; в) 9-10-11 — раённы цэнтр у Гродзенскай вобласці; г) 12-13-10-14-2 — вясенне-палявая работа.

**Склаў Уладзімір АБАБУРКА.**

*Клецкі раён.*



| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 11 | | 1 | 2 | 5 | 9 |
| | 8 | 2 | 5 | 13 | | 14 |
| 9 | 3 | 7 | 5 | 4 | 6 | , |
| 2 | | 1 | 2 | 5 | 9 | |
| 2 | 10 | 12 | 4 | 6 | . | |

## ПРАВЕРЦЕ АДКАЗЫ

**Крыжаванка (16 лістапада). Па гарызанталях:** 5. Варшава. 6. Злучнік. 9. Цвірка. 10. Крэмль. 11. Зарэцкі. 14. «Крокі». 16. Карал. 17. «Сербіянка». 18. Плаўні. 19. Тырада. 23. Атмасфера. 24. Саман. 26. «Жніво». 28. Бяроста. 30. Страва. 31. Гарынь. 32. Крытыка. 33. Даведка. **Па вертыкалях:** 1. Прарок. 2. Тапаз. 3. Буякі. 4. Антэна. 5. Вавёрка. 7. Кулуары. 8. Прэмія. 12. Аграномія. 13. Кантынент. 15. Ісфахан. 16. Кабатаж. 20. «Спартак». 21. Істота. 22. «Лаванда». 25. Апатыт. 27. Нэруда. 28. Барый. 29. Агава.

**Крыптаграма (16 лістапада).** Ключавыя словы ў ёй: перыяд, шчаўе, воцат, «Нос». Украінская прымаўка такая: «Шчасце ў паветры не ўецца, яно ў працы даецца».

**Крыжаванка (23 лістапада). Па гарызанталях:** 3. Гюйс. 7. Балеро. 8. Еўфрат. 10. Лабрадор. 11. Осла. 12. Сейм. 13. Падпалкоўнік. 16. Аралсор. 18. Салерна. 20. Мастак. 22. Прарэктар. 23. «Расія». 25. «Жылічы». 26. Нагляд. 28. Івасі. 29. Машынапіс. 30. «Космас». 31. «Спартак». 34. Дыскант. 36. «Аэраспасіяль». 38. Юнга. 40. Авен. 41. Ізатэрма. 42. Руднік. 43. Модуль. 44. Азот. **Па вертыкалях:** 1. Ялта. 2. Польдэр. 3. Гібралтар. 4. «Садко». 5. Мерынос. 6. Брас. 7. Басфор. 9. Тайфун. 13. Пасрэдніцтва. 14. Каптаж. 15. Каларыйнасць. 17. Анаграма. 19. Раскопка. 20. Масляк. 21. Калгас. 22. Поні. 24. Ярус. 27. Доступ. 29. Магістрат. 32. Піянер. 33. «Карнікі». 34. Дыярама. 35. Нікель. 37. «Смага». 39. Анды. 40. Ашуг.

## ВІНШАВАННІ

*Шчыра віншуем з 18-годдзем дарагую дачку Наташу СУПРУН. Жадаем моцнага здароўя і ўсяго таго, што азначае слова «шчасце».*

**Маці, бацька в. Дзярэчын.**

*Святлану Мікалаеўну ШУПЕЛЬКА з в. Ілья Вілейскага раёна віншуем з днём нараджэння. Жадаем шчасця, здароўя. Хай лёс будзе міласэрны да цябе, сястрычка.*

**Сям'я Дубоўскіх.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння Алу Мікалаеўну ТРАЦЦЯКОВУ. Жадаем, каб лёс толькі шчасце табе дараваў, ды радасць, здароўе хай будуць з табою.*

**Тамара, Наташа, Ганна, в. Янавічы.**

*Сардэчна віншуем дарагую Юлію ЖУКАВУ з г. Ляхавічы з днём нараджэння. Жадаем здароўя, поспехаў у вучобе і ўсяго самага найлепшага ў жыцці.*

**Дзіма, мама, тата.**

*Дарагая сястрычка Лілія Іванаўна МАЦЮХА з г. п. Кіравец! Віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці, поспехаў у працы і доўгіх гадоў жыцця.*

**Твае родныя.**

*Ад усёй душы віншуем Наталлю Іванаўну РАШЧЭНЮ з г. Слуцка з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у працы, дабрабыту ў сям'і.*

**Калегі па працы.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 7554.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12